СЛАВА ПРОДКАЎ: КЛЕЦКАЯ БІТВА

СУХІ І ЯГО «СУШКІ»

@Пішам добрыя тэксты ад 1906 history.nn.by

# Наша Гісторыя

№ 6(23) — 2020




ЗАХАПЛЯЛЬНЫЯ БІЯГРАФІІ
ЦІКАВЫЯ ЗНАХОДКІ
ВАЖНЫЯ АДКРЫЦЦІ

УЗДЫМ АКУЛІЧАЎ
І РАСПРАВА НАД ІМІ

ПАНЦЕЛЯЙМОН
ПАНАМАРЭНКА
І ПЕРШАЯ СПРОБА
СТВАРЫЦЬ
БЕЛАРУСКУЮ
АРМІЮ

НАША СТРАВА
ТАЎКАНІЦА,
КРЫШАНЫ

# ШМАТХАДОВАЧКА ГЕДЫМІНА

16+





































## Калі часопіса не засталося ў «Саюздруках» і на поштах, пытайцеся яго ў кнігарнях

**Мінск**
Symbal.by (пр. Машэрава, 18)
«Мой модны кут» (Цэнтр «Маскоўска-Венскі», павільён 333 — гэта каля ЦУМа, метро «Плошча Якуба Коласа», пр. Незалежнасці, 58)
«Акадэмкніга» (пр.Незалежнасці, 72, метро «Акадэмія навук»)
Філіял «Акадэмкнігі» на вул. Багдановіча, 46
Гандлёвы цэнтр «Купалаўскі» (пад Кастрычніцкай плошчай), крамы 37, 41–42 і 44–45
«Галіяфы» (вул. Няміга, 3, крама № 47 на цокальным паверсе)
«Рагна» (вул. Сухая, 4, метро «Фрунзенская»)
Кніжны кірмаш па вул. Даўмана, 23 (субота 00.00–14.00), месца 786
«Кніжная шафа» (пр. Дзяржынскага, 9)
«Светач» (пр. Пераможцаў, 11)
«Цэнтральная кнігарня» (пр. Незалежнасці, 19)
«Кнігі і кніжачкі» (пр. Незалежнасці, 14)
«Эўрыка» (вул. Куйбышава, 75)

**Поштай ці з дастаўкай на дом** вы можаце яго замовіць праз Halijafy.by, Knihi.by, Kniger.by, Akademkniga.by, kniganosha.by

**Гродна**
«Цудоўня» (вул. Кірава, 3).
«Кругагляд» (б-р Ленінскага камсамола, 29а)
«Раніца» (вул. Мастава, 33)

**Брэст**
«Князь Вітаўт» (вул. Савецкая, 55)
«Асвета» (пр. Машэрава, 57)
«Дружба»(б-р Касманаўтаў, 120)
«Іскра» (вул. Пушкінская, 4)

**Гомель**
«Кніжны свет» (пр. Леніна, 45)

**Віцебск**
«Светач» (вул. Кірава, 10)
«Глобус» (вул. Замкавая, 21–30)

**Магілёў**
«Гасцінец» (Віцебскі праспект, 48)

**Бабруйск**
«Крыніца ведаў» (вул. Горкага, 31)

**Баранавічы**
«Кнігі» (вул. Савецкая, 73)

**Маладзечна**
«Спадчына» (вул. Прытыцкага, 7)

**Ліда**
«Кніжны свет» (пр. Перамогі, 33)

**Наваполацк**
«Дом кнігі» (вул. Маладзёжная, 145)
«Усход» (вул. Кірава, 4)

Акрамя таго, праз сайт **ARCHE.BY** часопіс можна купіць у ПДФ, у электроннай версіі.

**Наша Гісторыя**
6/2020

history.nn.by

**Навукова-папулярны, літаратурна-мастацкі часопіс**

Выдаецца з 2018 г.

ISSN 2617-2305

Зарэгістраваны Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.
Пасведчанне аб рэгістрацыі №1921 ад 11.07.2018 г.

**Галоўны рэдактар**
Андрэй Васільевіч Дынько

**Наменнікі галоўнага рэдактара**
Аляксандр Пашкевіч, кандыдат гістарычных навук
Іна Хоміч

**Дызайн і вёрстка** Уладзіслава Губіч

**Карэктура** Таццяна Кур'ян

На першай старонцы вокладкі — помнік вялікаму князю Гедыміну ў Лідзе (Гродзенская вобласць).
Фота pavelppl, shutterstock.com

Часопіс «Наша гісторыя» выходзіць на беларускай і рускай мовах.
Перыядычнасць — 1 раз на месяц.





**Заснавальнік:** Прыватнае выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Суродзічы».
Р/р BY84BLBB30120190786828001001 у аддз. 539 ААТ «Белінвестбанк» г. Мінск, вул. Калектарная, 11 код BLBBBY2X, УНП 190786828.

**Адрас рэдакцыі:** 220030, Мінск, вул. Энгельса, 34А.

**Адрас для допісаў:** 220004, Мінск, а/с 62.

**Тэлефоны:** (017) 316-48-13, (029) 613-32-32, (029) 707-73-29

**E-mail:** history@nn.by

Цана дамоўная.

**Падпісаны ў друк** 08.06.2020.
Афсетны друк. Папера лёгкакрэйдаваная.
Фармат 60×84/8.
Умоўных друкаваных аркушаў 11,16.
Гарнітура PetersburgC.
Замова № 0339/20.
Наклад 4252.

Часопіс надрукаваны ў друкарні «Акварэль-прынт». Вул. Радыяльная, 40-202, 220070, г. Мінск. УНП 101282916.
ЛД 02330/78 ад 03.03.2014.
Пасведчанне аб рэгістрацыі ў Дзяржаўным рэестры выдаўцоў, вытворцаў і распаўсюднікаў друкаваных выданняў № 2/16 ад 21.11.2013 г.


## Ад рэдакцыі

Вялікі князь Гедымін — адзін з тых слаўных уладароў Вялікага Княства Літоўскага, дзейнасць якіх найбольш спрычынілася да таго, што гэта дзяржава ўвайшла ў гісторыю менавіта такой, якой мы яе ведаем. Менавіта пры Гедыміне пачаўся буйны тэрытарыяльны рост княства, які не спыняўся цэлае стагоддзе. Пры ім ВКЛ атрымала новую сталіцу Вільню, якая заставалася такой на ўсе наступныя стагоддзі. Ён стаў заснавальнікам велікакняжацкай дынастыі, нашчадкі якой валадарылі ў Літве і некаторых іншых краінах рэгіёна да XVI стагоддзя.

У нашым уяўленні Гедымін часцей за ўсё фігуруе перадусім як ваяр. Нават большасць ягоных выяў — у вайсковых даспехах. На баявым кані і ў поўным вайсковым рыштунку таксама і адзіны на сённяшні дзень помнік яму ў Беларусі, пастаўлены ў мінулым годзе ў Лідзе. І нават адна з пашыраных версій смерці князя сцвярджае, што гэта нібыта адбылося на полі бою з найбольш моцнымі і падступнымі ў той час ворагамі нашых продкаў — нямецкімі крыжакамі.

Але не ўсе старажытныя дзяржавы, створаныя паспяховымі палкаводцамі, надоўга перажывалі сваіх стваральнікаў. Калі, захапіўшыся збіраннем земляў, тыя не думалі пра ўладкаванне і развіццё набытых тэрыторый, не разумелі іх спецыфікі і загадзя не рупіліся пра іх унутраную інтэграцыю — то ўсё магло ўваднaчас развеяцца як дым пры першых прыкметах аслаблення цэнтральнай улады.

«Паганская імперыя» (акрэсленне брытанскага даследчыка Стывена Роўэла) Гедыміна пасля яго смерці не толькі не заняпала, але працягвала намаганнямі сыноў і ўнукаў пашыраць далей і тэрыторыю, і ўплывы. Бо паганскасць эліты ўключна з самімі князямі сумяшчалася з талерантнасцю ў дачыненні да хрысціянскага насельніцтва, улікам ягоных патрэбаў і інтарэсаў. Гэта дазваляла забяспечыць яго лаяльнасць. А паспяховая дыпламатыя дазваляла нават у тых суровых умовах забяспечваць перыяды адносна працяглага міру. Што пазітыўна ўплывала на развіццё тагачаснай гаспадаркі.

У гэтым нумары гісторык Аляксандр Зімніцкі акурат і піша пра Гедыміна як пра ўмелага дыпламата і дзяржаўнага дзеяча, а таксама расследуе абставіны смерці князя, вакол якіх дагэтуль шмат міфаў і непаразуменняў (**старонкі 4–13**).

А тым часам пра вялікіх князёў літоўскіх ад «Нашай гісторыі» можна ўжо даведвацца і ў відэафармаце. Адзін з найцікавейшых і найплённейшых нашых аўтараў Андрэй Скурко пачаў запісваць аўтарскія ролікі па матывах сваіх публікацый. Першая ластаўка — артыкул «Хто з вялікіх князёў быў самы-самы?» з самага першага нумара нашага часопіса (1/2018). Запрашаем да прагляду!
















**тэма**

**4 Шматхадовачка Гедыміна**

**10 Хто забіў вялікага князя.** Піша гісторык **Аляксандр Зімніцкі**

**пошта і водгукі**

**14 Чаму я не стаў сувязным партызанаў?..** Што павінна зацікавіць...

**вайсковая слава**

**16 Клецкая бітва.** Бліскучая перамога нашых продкаў

**гаспадары**

**22 Уздым Акулічаў і расправа над імі.** Як пачынала і чым скончыла эліта дакалгаснай вёскі. Піша кандыдат гістарычных навук **Вячаслаў Насевіч**

**вайна**

**30 Як Панцеляймон Панамарэнка задумаў стварыць Беларускую армію.** Піша ваенны гісторык **Віталь Чырвінскі**

**36 Як зверствы нацыстаў выраслі з тэорыі Клаўзевіца.** Піша **Цімох Акудовіч**









**біяграфія**

**42 Сухі – Сухій – Сухой.** Піша падпалкоўнік **Мікалай Kавалёў**

**расійская імперыя**

**48 Генерал, які даказаў імперыі, што беларусы існуюць**

**нацыянальная геаграфія**

**54 Унорыца, рай над Дняпром.** Пра мілае сэрцу радавое гняздо піша **Ганна Севярынец**







30



86



54



71

традыцыі

**62 Крохкія сімвалы дзяржаўнасці.**
Пра статуснае сталовае шкло піша доктар гісторыі **Алесь Белы**

турыстычныя кірункі

**66 Што новага ў Львове?**
Расказвае гід **Андрэй Кусій**

наша страва

**71 Таўканіца, крышаны, гарбузовая каша.**
Доктарка філалагічных навук **Ганна Кісліцына** ўспамінае радасці дзяцінства, якое прайшло ў Драгічыне





над нёманам

**74 Гродзенская турма.** Дзвесце гадоў на адным месцы. Піша **Андрэй Вашкевіч**

вечныя каштоўнасці

**80 «Ты ўжо, чытач, мне выбачай!»**
Як беларусы да ветру хадзілі ў старыя добрыя часы. Піша кандыдат філалагічных навук **Анатоль Трафімчык**

нашы далёкія

**84 Трагедыя ў небе над Шчучынам**

простыя рэчы

**86 Гузікі, рыдыкюлі, парасоны.**
7 самых модных аксесуараў шляхцянак XIX стагоддзя

**88 Майсэнскі фарфор у Нясвіжскім замку**



88

мова наша

**90 Кес моес і дутэнпуль**

комікс

**92 СуперБеларусь.** Паўстанне забытых. Частка 3

што пішуць

**96 Памяці Аляксандра Сільвашкі...** Ці варта ганарыцца калоніямі?.. Беларускія сякеры ў Брытанскім музеі...




92

# Шматхадовачка *Гедыміна*

## Як князь-язычнік выкарыстаў папу, каб дабіцца міру з крыжакамі, і падняў эканоміку Вялікага Княства за кошт Еўропы

**Вялікі князь літоўскі Гедымін да канца жыцця не прыняў хрысціянства. Пры гэтым ён здолеў удвая павялічыць дзяржаву за кошт хрысціянскіх абшараў і чвэрць стагоддзя паспяхова ёй кіраваць. Гэтага было б немагчыма дабіцца толькі вайсковай сілай, без тонкай дыпламатыі. Пра адну замежнапалітычную спецаперацыю вялікага князя піша гісторык Аляксандр Зімніцкі.**

### Што нам вядома пра Гедыміна?

Гедымін нарадзіўся каля 1275 года ў Аўкштайціі. Пра яго дзяцінства і паходжанне ніякіх дакладных звестак няма. Адным з магчымых продкаў Гедыміна называюць яцвяжскага правадыра Скоманда, вядомага зацятым змаганнем з крыжакамі ў XIII стагоддзі. Першая пэўная згадка пра Гедыміна пазначае момант яго прыходу да ўлады. Адбылося гэта пасля 1315 года, калі апошні раз згадваецца ягоны папярэднік, князь Віцень.

### Хто Гедымін Віценю?

Гісторыкі пачынаючы з XV стагоддзя зламалі шмат коп'яў у спрэчках пра сваяцтва гэтых двух гістарычных персанажаў. Мацей Стрыйкоўскі даводзіў, што Віцень — бацька Гедыміна. Творы ж палітычных канкурэнтаў ВКЛ (хроніка паляка Яна Длугаша і маскоўскія радаводы) — што Гедымін быў конюхам Віценя і забіў свайго гаспадара.

Як пераканаўча даводзяць брытанскі даследчык Стывен Роўэл і іншыя навукоўцы, яны, верагодна, былі братамі. А паколькі Віцень не меў нашчадкаў, то Гедымін стаў ягоным спадкаемцам.

### Парытэт з татарамі і Масквой

У часы Гедыміна пад уплыў Вялікага Княства трапіў Кіеў, «маці гарадоў рускіх». Літоўская ўлада ў Кіеве канчаткова замацавалася ў 1330–1340-я, калі там стаў княжыць брат Гедыміна Фёдар. Адносна Кіева захоўваўся пэўны парытэт з татарамі, якім кіяўляне таксама павінны былі сплачваць даніну. Падобны парытэт захоўваўся і ў адносінах з Маскоўскім княствам: з аднаго боку, ВКЛ падтрымала Ноўгарад у яго супрацьстаянні з Масквой (сын Гедыміна Нарымонт княжыў у Ноўгарадзе), аднак у той жа час за сына маскоўскага князя Івана Каліты была аддадзена дачка Гедыміна Аўгуста.




**Гедымін.** Уяўны партрэт 1709 года.

### Гедымін і праваслаўе

Кар'еру вялікага князя Гедымін пачаў не з вайсковых перамог. Першым буйным палітычным крокам новага ўладара стала заснаванне літоўскай праваслаўнай мітраполіі. Гэта адбылося паміж 1315 і 1317 гадамі. Яе цэнтр знаходзіўся ў Навагрудку, і, што важна, падпарадкаваная яна была Канстанцінопалю.

Літоўскія князі разумелі, што, спрыяючы праваслаўю і ўплываючы на прызначэнне яго іерархаў, яны забяспечваюць лаяльнасць праваслаўных падданых, якіх было нямала.

Пры Гедыміне і яго сынах Праваслаўная царква на літоўскіх землях пачувалася камфортна. Так, у Полацку нібыта толькі за XIV стагоддзе было пабудавана столькі ж храмаў і манастыроў, колькі за папярэднія тры стагоддзі, а апекаваліся іх будаўніцтвам літоўскія князі.

Такая палітыка спрыяла пашырэнню літоўскага ўплыву і на іншыя рускія землі. У пачатку 1320-х сын Гедыміна Альгерд праз шлюб з мясцовай князёўнай стаў уладаром Віцебска. Шлюбам яшчэ адной дачкі Гедымін замацаваў саюз з цвярскім князем Дзмітрыем Міхайлавічам. У 1322-м намеснік Гедыміна ў Гродне (а магчыма, і зяць) Давыд стаў князем у Пскове. У той перыяд у склад Літвы ўваходзяць Таропецкае і Ржэўскае княствы на поўначы Смаленшчыны, Берасцейшчына і Падляшша.

### Маліцца можна, агітаваць — не

Пацвярджэннем важнай ролі паганства і своеасаблівай забароны на «распальванне рэлігійнай варажнечы» ў Літве часоў Гедыміна была смерць двух францішканцаў у 1341 годзе. Манахі Ульрых і Марцін прыехалі ў Вільню і, замест таго каб ціха правіць імшу ў каталіцкай бажніцы, арганізавалі масавае мерапрыемства — пачалі агітаваць на кірмашовай плошчы супраць паганства, з-за чаго былі пакараныя смерцю.

### Вільня

У адрозненне ад папярэдніх «вандроўных» князёў, якія верагодна, увесь час перамяшчаліся па тэрыторыі дзяржавы, Гедымін вызначыўся з яе адміністратыўным, эканамічным і стратэгічным цэнтрам.

### Лінія замкаў

Выбудоўваючы сваю «паганскую імперыю», Гедымін парупіўся пра абарону яе самай гарачай паўночна-заходняй мяжы — лініі замкаў Крэва — Ліда — Меднікі, а таксама ключавых гандлёвых цэнтраў — Навагрудка і Вільні.

### Рэлігійныя справы

Рэлігійныя справы, нароўні з войнамі і будаўніцтвам, былі ключавым элементам палітыкі Гедыміна. Парадокс: у атачэнні монатэістаў (а нават татары ў 1320-м прынялі іслам) ён да канца жыцця заставаўся прыхільнікам мнагабожжа і здолеў палітычным, дыпламатычным і вайсковым шляхам пашырыць сваю «паганскую імперыю».

Гедымін, не пытаючыся дазволу папы, сам сябе абвесціў каралём. «*Gedeminne Dei Gratia Letwinorum et multorum Ruthenorum Rex*» («Гедымін Божай ласкай кароль літоўцаў і многіх рускіх») — стаіць у яго лістах у Рым. Папа,



WIKIMEDIA COMMONS

**Папа Ян XXII**, які інтрыгаваў супраць крыжакоў з дапамогай Гедыміна. Уяўны партрэт.



RUSHIST.RU

**Пячатка Гедыміна.**

які меў манаполію на наданне каралеўскага тытула, маўкліва прымаў такое самаўпраўства.

### Ліст у Рым

Адзін з самых вядомых лістоў Гедыміна — да папы Яна XXII, датаваны 1322 годам. У ім уладар апошняй паганскай дзяржавы ў Еўропе выказваў жаданне прыняць каталіцтва. Добрая палова ліста, аднак, прысвечаная не пытанням выратавання душы, а скаргам на Тэўтонскі ордэн, які пад выглядам вайны з паганцамі раз за разам нападаў на ВКЛ.

На пачатку ліста Гедымін прыгадвае гісторыю ранейшых кантактаў Літвы і Каталіцкай царквы: хрост Міндоўга і тое, што пазней крыжакі сваімі дзеяннямі змусілі першага літоўскага караля адысці ад веры. Таксама прыгадваецца хаўрус Віценя з Рыгай і яго просьба прыслаць братоў-францішканцаў, каб праводзіць набажэнствы ў навагрудскім касцёле. Пералічваюцца скаргі на ордэн ад рыжан і адзначаецца, што навагрудскі касцёл крыжакі пазней спалілі. Гедымін акцэнтаваў увагу на тым, што ён хацеў бы падпарадкавацца папу, як падпарадкоўваюцца хрысціяне, але пры ўмове, што ордэн не будзе ў гэтым ▶



**Замак Гедыміна ў Лідзе**, адбудаваны ўжо пры незалежнай Беларусі, цяпер папулярнае месца турызму і фестываляў.

ФОТА СЯРГЕЯ ГАПОНА

## Капішча Перуна

Гедымін збудаваў у Вільні капішча Перуна. Пазнейшыя гісторыкі апісвалі квадратны будынак без даху з уваходам з боку Віліі, у цэнтры якога на вышыні 12-ці прыступак размяшчаўся квадратны ахвярнік, а за ім драўляны стод (ідал) «пана багоў». Да гэтага сведчання ставіліся скептычна, пакуль у 1984-м не былі адкрытыя падмуркі касцёла XIII стагоддзя — імаверна, каталіцкай катэдры, заснаванай яшчэ Міндоўгам, а пасля закінутай. Як высветлілі археолагі, рэшткі бажніцы ў пазнейшы час былі перабудаваныя: падлогу засыпалі пяском, на старой аснове збудавалі квадратны мур з пяціметровым уваходам, ад якога да цэнтра будынка вялі 12 прыступак. Захаваліся і рэшткі ахвярнікаў.

▶ удзельнічаць. Пры канцы князь Літвы прасіў князя Царквы скіраваць паслоў, каб «укласці мір і вызначыць межы».

## Актуальны момант

Гедымін добра падгадаў час для такога ліста. У Рыме нарастала незадаволенасць крыжакамі. На ордэн скардзіліся папу і польскі кароль, і рыжскія месцічы.

З Літвой у Тэўтонскага ордэна ішла перманентная вайна. Сутычкі, узаемныя набегі, аблогі замкаў і засады адбываліся па ўсёй памежнай тэрыторыі. Да прыходу да ўлады Гедыміна склаўся парытэт сілаў: ордэн не мог скарыць Літву (ці хаця б заваяваць Жамойць, каб злучыць свае прускія і лівонскія тэрыторыі); Літва ж не магла скінуць ордэн у Балтыйскае мора.

У самім ордэне нарастаў канфлікт за ўладу, працягвалася супрацьстаянне паміж Лівонскім аддзяленнем ордэна і рыжскім арцыбіскупам. Рыжане пры гэтым не цураліся хаўрусаў з язычнікамі: яшчэ ў часы Віценя ў Рызе пятнаццаць гадоў стаяў літоўскі гарнізон.

## Чаканне Гедыміна

Напісаўшы ў Рым, Гедымін разаслаў запрашэнні заходнім земляробам, рамеснікам, купцам. Вялікі князь заклікаў іх прыязджаць і сяліцца ў Літве. Перасяленцам абяцалі



WIKIMEDIA COMMONS

**Як выглядаў Гедымін?** Невядома. Апісанняў яго знешнасці не захавалася. А найстарэйшая і самая растыражаваная выява — гэта віньетка з «Хронікі Еўрапейскай Сарматыі» Аляксандра Гваньіні, выдадзенай у другой палове XVI стагоддзя.

падатковыя палёгкі. Таксама падкрэслівалася, што ў Літве з дня на дзень чакаюць папскіх паслоў і пабудаваныя тры новыя касцёлы — нібы намёк на лаяльнае стаўленне да каталікоў з боку дзяржавы.

Таксама Гедымін заключыў сепаратны мір з лівонцамі. І стаў чакаць. Пруская частка Тэўтонскага ордэна спрабавала вывесці Літву з раўнавагі, але князь толькі адбіваў крыжацкія рэйды, не здзяйсняючы набегаў у адказ. Гэтым ён пацвярджаў імкненне да міру.

І Гедымін дачакаў: папа загадаў ордэну прыпыніць баявыя дзеянні да прыезду яго паслоў.

## Вы ўсё не так зразумелі

Восенню 1324 года ў Вільню прыбылі папскія легаты, каб узгадніць дэталі хросту вялікага князя. Але ў велікакняскім палацы іх сустрэлі холадна. Гедымін абвясціў пасланцам Рыму, што... не збіраўся хрысціцца, але гатовы шанаваць папу як свайго бацьку і ўкласці мір з хрысціянскім светам. ▶



WIKIMEDIA COMMONS

Расійскія імперскія гісторыкі не лічылі Вялікае Княства Літоўскае чымсьці чужародным. **Гедымін сярод іншых дзеячаў Вялікага Княства на пастаўленым у 1862 годзе помніку 1000-годдзя Расіі ў Ноўгарадзе.** Адзін з аўтараў гэтага помніка, скульптар Міхаіл Мікешын, дарэчы, быў перакананым беларусам са Смаленшчыны.

## Вярніце беглых халопаў

А вось «Пасланне караля Гедыміна біскупам дэрпцкаму, эзельскаму, дацкаму намесніку зямлі Рэвельскай і радзе горада Рыгі», напісанае, верагодна, дзесьці ў 1324 годзе — якраз у перыяд, калі папа забараніў крыжакам нападаць на ВКЛ. У лісце добра чуваць ноткі тагачаснай прапаганды і відаць, як выглядала вайна на памежжы ВКЛ і ордэна:

«Мы спавяшчаем вас, усіх і кожнага, і з болем у сэрцы наракаем, што мір, які быў усталяваны паміж намі, змацаваны з абодвух бакоў і зацверджаны папам, цяпер без усялякай нашай віны парушаны крыжакамі — братамі Тэўтонскага ордэна, якія ... не задумваючыся пра справядлівасць, нанеслі вялізную шкоду падуладным нам землям...

І захапілі ў палон шасцёх, каго знайшлі патрэбным, каб атрымаць выкуп, а дваіх бязлітасна забілі.

Таксама паўсюль на дарогах... яны паставілі сваю варту, так што ніхто ні ад нас да вас, ні ад вас да нас не можа прайсці.

Таксама яны забілі аднаго паляўнічага з Упіты, а двух захапілі ў палон.

Таксама яны скралі трох коней у Войната і адвялі да брата Унгандэ.

Таксама яны, бадай, захапілі б наш замак Мядзела, каб ён не быў так добра ўмацаваны, аднак мноства людзей яны забілі і многіх павялі з сабой.

Таксама яны варожа спустошылі Полацкую зямлю, захапілі і павялі людзей і коней, частку з іх яны вярнулі, але, да немалой шкоды для сваіх душаў, усё яшчэ гвалтам трымаюць дваццаць чалавек.

Таксама роўна праз сорак дзён яны зноў, нібыта драпежныя ваўкі, жорстка спустошылі тую ж зямлю, бязлітасна забілі восемдзесят чалавек, а некаторых павялі з сабой, разам з пяццюдзесяццю цудоўнымі коньмі, адзежай і іншым дабром, якога не злічыць.

Таксама яны прынялі каля трохсот халопаў, падлеглых пакаранню, якія ўцяклі з нашых уладанняў, і ніводнага з іх не вярнулі.

Мы ж, учыняючы па справядлівасці і выконваючы дадзенае вам абяцанне, ім дагэтуль ні ў чым не зрабілі ніякай крыўды...

Таксама мы пасля таго, як пачулі, што арцыбіскуп Фрыдрых вярнуўся з курыі, накіравалі да яго, пытаючы пра здароўе, нашага пасла, а яны таго пасла павесілі...».





**Язычнік Гедымін здолеў удвая павялічыць сваю дзяржаву** за кошт земляў, населеных хрысціянамі, і чвэрць стагоддзя паспяхова ёй кіраваў.




**Замкавая гара і Вежа Гедыміна ў Вільні** — горадзе, які вялікі князь зрабіў сталіцай.

▶ Задняй датай стала ясна, што і ягоны ліст у Рым быў двухсэнсоўны. Выраз «прыняць каталіцтва» — *fidem catholicam recipere* — можна зразумець таксама і як «вітаць каталіцтва». Гэта значыць не перашкаджаць каталікам ладзіць у Літве набажэнствы, але і не спрыяць пашырэнню веры.

Гедымін агучыў свой адказ паслам папы ў прысутнасці літоўскіх і рускіх нобіляў. Так вялікі князь прадэманстраваў сваю «ненахіляльнасць» перад падданымі — язычнікамі і праваслаўнымі. Але адначасова Гедымін пусціў чутку, што цэлую ноч шкадаваў пра паспешлівае рашэнне. Ён слушна разлічыў, што гэта стане вядома папскім паслам і дапаможа захаваць твар перад каталікамі.

## Мір і грошы

План Гедыміна спрацаваў — мір з крыжакамі трываў аж да 1328 года. Папа не дазваляў ваяваць з паганскім, але лаяльным князем, прытрымліваючы яго як своеасаблівую працівагу ордэну. Бо кіраўніцтва ордэна

**У адрозненне ад папярэдніх «вандроўных» князёў, якія, верагодна, ўвесь час перамяшчаліся па тэрыторыі дзяржавы, Гедымін вызначыўся з яе адміністратыўным, эканамічным і стратэгічным цэнтрам. Вільня стала яго *civitas regia* — каралеўскім горадам**

зблізілася з імператарам Святой Рымскай імперыі Людвігам IV, якога Ян XXII нават адлучыў пасля ад Царквы. Гэта паказвае, што паганская Літва не была нейкім дзікім заштатным кутком, яна таксама бралася ў разлік у тагачаснай еўрапейскай гульні тронаў.

Акрамя таго, Гедымін атрымаў ад сваёй шматхадоўкі эканамічныя плюсы. Саюз з рыжанамі і мір з крыжакамі спрыялі развіццю гандлю з Заходняй Еўропай — водныя шляхі ў Літву з Балтыкі па Дзвіне і Нёмане былі адкрытыя.

Дакладных сведчанняў пра маштабы тагачаснай міграцыі на тэрыторыю ВКЛ не захавалася. Але з-за голаду і недахопу зямель у Еўропе гэты працэс ішоў. У самой Літве за кошт іншаземцаў умацаваліся два значныя гандлёвыя цэнтры — Вільня і Наваградак.

Збліжэнне з Рымам трывала нядоўга — роўна столькі, колькі было выгадна Гедыміну. Атрымаўшы ўсе магчымыя бонусы ад прадстаўніцтва рыжскага арцыбіскупа Фрэдэрыка пры папскай курыі, Гедымін змяніў свайго асноўнага каталіцкага саюзніка. У канцы 1320-х ён збліжаецца з Польшчай: выдае дачку замуж за сына польскага караля і разам з новым хаўруснікам ідзе ваяваць Холмскую зямлю. ◆

# Хто забіў вялікага князя: расследаванне

**Гедымін мог бы быць першым у еўрапейскай гісторыі кіраўніком дзяржавы, забітым з агнястрэльнай зброі. Але ці так гэта? Хто, калі, з чаго і, галоўнае, каго забіў? Разбіраецца гісторык Аляксандр Зімніцкі.**

«Праводзілі цела да Вільні яго сыны і ўсё рыцарства. А там, княжацкім звычаем, згодна з паганскім абрадам злажыўшы смаляныя сосны ў тым месцы, дзе рака Вільна ўпадае ў Вілію, падрыхтавалі яму магілу. Потым, калі ўсе сем сыноў — Мантывід, Нарымунт, Альгерд, Кейстут, Любарт, Яўнут і Карыят — з’ехаліся на апошнюю ўрачыстасць бацькавага пахавання, яго прыбралі ў адзенне і ў княжацкі святочны строй, які ён пры жыцці найбольш любіў. Шаблю, дзіду, сагайдак з лукам, сокалаў і пару хартоў, каня з сядлом і найвярнейшага і найлюбімейшага жывога слугу, звязаўшы, паклалі з ім на касцёр дроў. З вялікім жалем дровы потым запалілі, кідалі па сваім старадаўнім звычаі на агонь кіпцюры рысі і мядзведзя, а таксама зброю і частку здабычы, і спалілі з ім жывымі трох палонных немцаў. Потым... сабраўшы і злажыўшы ў труну попел і косці князя, слугі, каня, хартоў і іншых, пахавалі ў зямлю ў тым жа месцы...».

Так апісвае развітанне з Гедымінам Мацей Стрыйкоўскі, аўтар «Хронікі Польскай, Літоўскай, Жамойцкай і ўсёй Русі». Хроніка складалася праз два з паловай стагоддзі пасля падзеі, таму наўрад ці апісанне можа быць дакладным. Хутчэй, польскі гісторык запазычыў яго з легендаў і песень пра Гедыміна, якія ў XVI стагоддзі маглі яшчэ гучаць у Вялікім Княстве.

А вось да высвятлення прычын смерці вялікага князя Стрыйкоўскі падышоў больш грунтоўна — і сам стварыў легенду, якая запанавала ў беларускай гістарыяграфіі. Разгледзім яе падрабязней.

### Перадумовы забойства

У канцы 1320-х Гедымін пачаў збліжацца з Польскім каралеўствам. Супалі палітычныя інтарэсы: у літоўскага князя канчаўся тэрмін замірэння з крыжакамі, што азначала хуткую вайну і патрабавала прэвентыўных мераў, а польскі кароль Уладзіслаў I Лакетак шукаў магчымасць націснуць на Марыенбург (крыжацкую сталіцу) і заключыць з Тэўтонскім ордэнам выгадны мір. Сумесны паход на ордэн быў удалым: Літва атрымала багатую здабычу, а Польшча ўклала з крыжакамі мір з пазіцыі сілы.

У адказ ордэн ударыў па Вялёне, адным з фарпостаў ВКЛ на Нёмане. Калі з налёту ўзяць замак не ўдалося, вялікі магістр Дзітрых фон Альтэнбург загадаў



Вялікі магістр ордэна **Дзітрых фон Альтэнбург.** Уяўны партрэт на гравюры XVII стагоддзя.




Рукапіс Уолтэра з Мілімета. Англія, 1326–1327 гады. **Адна з першых выяваў агнястрэльнай зброі ў Еўропе.**

збудаваць побач два свае замкі — Фрыдбург і Баер. Гарнізон Вялёны апынуўся ў пастцы. На выручку, піша Стрыйкоўскі, паспяшаўся на чале войска сам Гедымін.

«Вялікі князь літоўскі хацеў адбіць тую гвалтоўную небяспеку і нямецкія наезды, а рыцарства сваё вызваліць з цяжкай аблогі, сабраў вялікае войска з літвы і жмудзі з сынамі Альгердам, Яўнутам і Кейстутам. Абступіўшы моцным войскам тыя два новыя замкі, Фрыдбург і Баер, здабываў іх дваццаць два дні бесперапыннымі штурмамі, падкопамі, абстрэламі і таранамі; але немцы мужна бараніліся стральбой з ручніц, яшчэ нязвыклай літве, і пабілі шмат Гедымінавых людзей. Сам Гедымін, дадаючы ахвоты свайму рыцарству, пад'ехаўшы бліжэй пад сцены, паказваў шанцам і таранам месца для разломвання бастыёна. ... Яго падстрэліў у хрыбет з ручніцы адзін немец з байніцы, як сведчаць прускія хронікі, а Мяховіус піша, што "агнявая страла трапіла яму ў спіну", але падобна, што была гэта хутчэй агнявая кулька з ручніцы, бо ў той час немцы пачалі вынаходзіць ручніцы, праўда, яшчэ без кросаў, такіх я бачыў некалькі на Віленскім замку ў скарбе... Гедымін ад таго стрэлу адразу ж аддаў душу і памёр, а па яго смерці літоўскае войска адступіла з вялікім смуткам, плачам і нараканнямі…».

**Першае дакладна вядомае выкарыстанне гармат** супраць войскаў ВКЛ зафіксавана ў 1381 годзе. Крыжакі ўжылі іх падчас аблогі замка Наваполле. Уражаны залпамі новай дзівоснай зброі, гарнізон замка адразу ж здаўся.

Усё ў гэтым аповедзе выглядае складна і прыгожа, але...

## Першая нестыкоўка: прылада і час забойства

Стрыйкоўскі датаваў забойства Гедыміна 1328 годам. Ён дакладна апісаў прыладу забойства, даводзячы, што гэта была «ручніца» — адзін з відаў ручной агнястрэльнай зброі. І ўжо гэта ставіць пад сумнеў версію слыннага гісторыка.

Агнястрэльная зброя ў Еўропе тады толькі-толькі з'явілася. 1326–1327 гадамі датуецца яе першая выява, змешчаная ў англійскім рукапісе Уолтэра з Мілімета. Сучасныя рэканструктары спрабавалі паводле малюнка аднавіць той «страляючы збанок», але без поспеху. Відаць, і аўтар, і мастак толькі чулі пра такую зброю, але самі яе не бачылі. І наўрад ці ручніцы так хутка дайшлі б да такіх «гарачых», але аддаленых пунктаў, як памежжа Тэўтонскага ордэна і ВКЛ.




**Стрэл з ручніцы.** Ілюстрацыя да кнігі *«Das Zeugbuch Kaiser Maximilians I»*, пачатак XVI стагоддзя.

## Блытаніна ў сведчаннях

Наступная зачэпка ў тэксце — прозвішча Мяховіуса, на якога Стрыйкоўскі спасылаецца. Гэта Мацей Мяхоўскі, польскі гісторык XV стагоддзя. Аблога Вялёны ў хроніцы Мяхоўскага датуецца 1307 годам. Стрыйкоўскі меркаваў, што гэтую памылку зрабіў перапісчык, паставіўшы «1307» замест «1327». Бо на старонках твора Мяхоўскага вялікі князь Гедымін пасля «смерці» ў 1307-м працягваў ваяваць з крыжакамі ў 1329-м. ▶

**Ручніцы і гакаўніцы** (апошнія адрозніваліся наяўнасцю адпаведнага «гака» — крука на ствале) — разнавіднасці ручной агнястрэльнай зброі XIV–XVII стагоддзяў. Некаторыя раннія экзэмпляры замест ложа і прыклада проста насаджваліся на кій. Зараджаліся з дула. Раннія экзэмпляры адрозніваліся адсутнасцю парахавой паліцы. Каб падпаліць парахавы зарад, трэба было прыкласці кнот да невялікай затравачнай адтуліны зверху. Ствол ад такой «гакаўніцы на кіі» першай паловы XV стагоддзя (калібр — 22 мм, даўжыня ствала — 925 мм, вага — 6,56 кг) захоўваецца ў фондах Нацыянальнага гістарычнага музея Беларусі. Гэта найстарэйшая з выяўленых агнястрэльная зброя на тэрыторыі нашай краіны.


ФОТА ЭДУАРДА ПАЛЬЧЫСА

**Помнік Гедыміну ў Лідзе** быў адкрыты на рагу вуліц Грунвальдскай і Замкавай у 2019 годзе.


SHUTTERSTOCK.COM, BY LAPAIIRKRAPAI

**Жанчыны спяваюць песні** пад помнікам Гедыміну ў Вільні.

▶ Тую памылку ў датаванні Мяхоўскі запазычыў у іншага вядомага польскага храніста — Яна Длугаша. Апошні ж, апісваючы смерць Гедыміна, згадвае толькі «вялікія арбалеты», «найлепшага лучніка» і «вогненную стралу», але ніяк не агнястрэльную зброю.

І так мы даходзім да першакрыніцы. Гэта «Новая пруская хроніка» Віганда з Марбурга, напісаная ў 1391–1394 гадах — адзін з самых падрабязных твораў па гісторыі Тэўтонскага ордэна ў XIV стагоддзі. Менавіта з яе Длугаш браў інфармацыю пра тыя падзеі. Уласна кажучы, на замову Длугаша гэтую хроніку і пераклалі на лаціну з нямецкай.

Як сведчыць Віганд, у 1338 годзе:

«…[Гедымін] аблажыў дом [у сэнсе замак], 22 дні моцна яго атакаваў, і не мог здабыць. Здарылася тады, што адзін брат, Цілеман дэ Санпах, камандзір лучнікаў, палаючым снарадам спаліў харугву і потым параніў снарадам у шыю паміж лапаткамі караля язычнікаў з Трокаў і [той] памёр, падзяліўшы лёс з патанулымі [у рове?]. І так язычнікі, пацярпеўшы вялікую шкоду, з ганьбай адышлі. Тады браты выйшлі [з замка], машыны і іншае пакінутае занеслі да замка…».

З-за зрухаў храналогіі гэтыя падзеі можна датаваць 1337 годам. Таксама сучасныя даследчыкі даводзяць, што «кароль з Трокаў» быў забіты падпаленай стралой (балтом) з арбалета, але ніяк не куляй з агнястрэльнай зброі.

Дый тое, што трапны крыжацкі стралок спачатку падпаліў харугву (што складана зрабіць з ручніцы, але цалкам рэальна палаючай стралой), а потым ужо пацэліў у «караля з Трокаў», ускосна сведчыць пра тое, што страляў ён з лука ці арбалета. Запальных куляў у XIV стагоддзі не існавала.

А яшчэ Віганд з Марбурга, у адрозненне ад сваіх наступнікаў, нідзе не піша, што забілі менавіта Гедыміна.

### Не сваёй смерцю

вялікія князі літоўскія таксама паміралі. Але звычайна не на полі бітвы, а ў выніку барацьбы за ўладу: Міндоўг (1263 год, забіты змоўшчыкамі на чале з пляменнікам Тройнатам), Тройнат (1264 год, забіты прыхільнікамі Міндоўга), Войшалк (1267 год, забіты кумам, галіцка-валынскім князем Львом Данілавічам), Кейстут (1382 год, задушаны на загад пляменніка Ягайлы), Жыгімонт Кейстутавіч (1440 год, забіты змоўцамі).

### Высвятленне асобы забітага

Сам выраз «кароль з Трокаў» неадназначны. Гедымін не раз згадваецца ў «Хроніцы Віганда», і аўтар звычайна называе яго ці па імені, ці «каралём літоўцаў» альбо «каралём язычнікаў». «Кароль з Трокаў» цалкам мог быць іншай асобай — напрыклад, непасрэдным уладаром Трокаў. Але наўрад ці такі важны

дзяржаўны цэнтр аддалі б асобе не з княскага роду. Таму, на думку большасці даследчыкаў, пад сценамі Баера загінуў адзін са старэйшых Гедымінавых сыноў — Вітаўт. Гэты князь не згадваецца ў ніводнай пісьмовай крыніцы якраз з-за ранняй смерці падчас гэтай аблогі. Затое пазней жыў князь Юрый Вітаўтавіч, якога вялікі князь Альгерд, як сведчыць польскі даследчык Ян Тэнгоўскі, паслаў кіраваць Псковам. Такія стратэгічныя пасады ў той час даручалі толькі блізкім сваякам. Юрый Вітаўтавіч загінуў у бітве з крыжакамі пад сценамі Ізборска ў 1349 годзе.

Дзякуючы Віганду мы таксама можам удакладніць месца гібелі Гедымінавага сына. Гэта адбылося ўсё ж пад сценамі Баера, а не Фрыдбурга.

### Кароль, застрэлены з арбалета

Пры падобных да смерці «караля з Трокаў» абставінах загінуў легендарны кароль Англіі Рычард I Плантагенет, вядомы як Ільвінае Сэрца. У 1199 годзе ён штурмаваў невялікі замак Шалю ў Францыі, які належаў непакорнаму васалу. Арбалетны болт, пушчаны са сцяны замка, трапіў каралю ў шыю. Праз дзесяць дзён Ільвінае Сэрца сканаў ад заражэння крыві. Магчыма, гэты сюжэт і лёг у аснову версіі Мацея Стрыйкоўскага.

А першым кіраўніком дзяржавы, забітым з агнястрэльнай зброі, стаў Вільгельм I Аранскі, штатгальтар Галандыі, лідар нідэрландскай рэвалюцыі. У 1584 годзе яго застрэліў з пісталета шпіён іспанскага караля.

### Гедымін памёр сваёй смерцю

Такім чынам, можна падвесці вынікі дэтэктыўнага расследавання. У 1337 годзе, падчас аблогі замка Баер, загінуў не князь Гедымін, а ягоны сын Вітаўт. І не ад кулі з ручніцы, а ад палаючай стралы ці арбалетнага балта.

Легенда ж пра смерць Гедыміна нарадзілася, як бачым, ад таго, што складальнікі пазнейшых хронік няправільна інтэрпрэтавалі сваіх папярэднікаў.

А ўладара Вялікага Княства не стала пазней, дзесьці ў 1341–1342 гадах. Як сведчыць Наўгародскі першы летапіс, «той жа зімы ўмрэ князь вялікі Гедымін Літоўскі». Няма падстаў казаць пра гвалтоўны характар смерці Гедыміна: калі б ён быў забіты ў баі, крыжацкія хронікі не абмінулі б магчымасці згадаць пра такую ўдачу. Улічваючы ж салідны, тым больш для чалавека XIV стагоддзя, узрост Гедыміна, каля 65–70 гадоў, ён мог памерці проста ад старасці.

Вайна была для гэтага ўладара ВКЛ справай штодзённай, але не ключавой. Гедымін шмат увагі надаваў унутранаму ўмацаванню дзяржавы, развіццю гандлю, будаўніцтва і абараназдольнасці. Уваходзячы ў справы рэлігійнага жыцця і мацуючы дыпламатычныя сувязі, Гедымін стварыў трывалы падмурак ВКЛ і заснаваў уплывовую дынастыю. Дык ці не заслужыў прадзед беларускай, літоўскай і ўкраінскай дзяржаўнасці спакойнай смерці ў атачэнні дзяцей і іншых блізкіх людзей? ◆



WIKIMEDIA COMMONS

**Казімір Альхімовіч. Пахаванне Гедыміна.** 1888 год.

### Кропля Гедымінавай крыві

Гедымін меў 8 (калі лічыць з Вітаўтам) сыноў і 6 дачок. Праз дынастычныя шлюбы ён парадніўся з князямі Масквы, Цверы, Валыні, Віцебска, польскімі каралямі. Ад яго нашчадкаў вядзе свой род каралеўская дынастыя Ягелонаў, што ўладарыла ў Польшчы, Венгрыі і Чэхіі. Ад Ягелонаў пачынаецца шведская дынастыя Вазаў, яны парадніліся і з нямецкімі Габсбургамі, якія кіравалі большай паловай Еўропы. Можна сказаць, што хоць кропля Гедымінавай крыві ёсць у жылах усіх нашчадкаў еўрапейскіх каралеўскіх дынастый.

# Чаму я не стаў сувязным партызанаў?

Лета 1943 года схілялася да восені. Тады ж у адзін з пагодных дзён надвячоркам завітаў да нас на хутар у Бязводным (цяпер Зэльвенскі раён) незнаёмы маладжавы мужчына. Прывітаўшыся і пахваліўшы прыгожае надвор'е, незнаёмец папрасіў мяне выйсці з ім з хаты. Пераступіўшы парог, ён паведаміў мне: «Заўтра ў Дабрасельцах (вёска за 4 кіламетры ад Бязводнага) збіраецца актыў для абмеркавання мерапрыемстваў пра пашырэнне партызанскага руху». Пажадана, каб на гэтым зборышчы і я прысутнічаў.

Назаўтра, таксама надвячоркам, я пашыбаваў у Дабрасельцы. Знайшоў явачную хату, у якой заспеў некалькіх аднавяскоўцаў — ядро падтрымкі партызан — і трох дагледжаных, апранутых у чорныя скураныя курткі, падперазаныя скуранымі рамянямі, мсціўцаў у галіфэ і хромавых ботах. У кожнага збоку на рамяні вісела кабура з наганам.

Я стаў сведкам, як партызаны высвятлялі ў аднавяскоўцаў, у каго ў вёсцы водзіцца самагонка, хто закалоў свінчо, у каго можна прыдбаць тое-сёе з вопраткі, абутку... Умомант размеркавалі, па што і да каго адпраўляцца. Па выпіўку і закуску адправіліся тры тройкі. Неўзабаве рабаўнікі вярнуліся з паклажай. На стале былі выстаўлены бутэлькі з самагонам, гранёныя шклянкі. На закуску нарэзалі сала, кумпяка, каўбасы, агуркоў...

Актыў шчыльна ўсеўся вакол стала. Застолле працягвалася доўга. Пад'еўшы і выпіўшы, лясныя госці апоўначы павялі размову пра пашырэнне сувязяў з партызанамі, пра дапамогу ім. Прышэльцы з лесу асаблівы акцэнт рабілі на вярбоўку сувязных з партызанамі з ліку надзейных людзей, патрыётаў савецкай улады.

На досвітку я вяртаўся дахаты. Усё ўбачанае і пачутае ў Дабрасельцах мяне бянтэжыла. Мне было крыўдна і балюча за ўчынкі тых, хто бессаромна рабаваў сваіх. Мне было сорамна за тых, хто даносіў, у каго што можна нарабаваць. Мяне абуралі паводзіны трох партызан... Усё гэта адварочвала мяне ад партызан, і я цвёрда вырашыў, што ў такім актыве — не маё месца. Насцярожанасць да партызанскага руху на гэтым не скончылася. У тым жа годзе акупанты ганялі мяне за 5 кіламетраў ад Бязводнага ў Міжэрычы брукаваць дарогу, дзе я пазнаёміўся з прыгожым і цікавым хлопцам А. Жуком з вёскі Тулава, што недалёка ад Міжэрыч. Жука акупанты тройчы вывозілі ў Нямеччыну на прымусовыя работы. І ўсе тры разы ён уцякаў з дарогі.

Калі скончылася брукаванне, надыходзіла новая небяспека для майго сябра з выганам у Германію. Для ратунку Жук пакідае Тулава і з'яўляецца на хутары ў Бязводным. Я хаваў яго ў гумне два тыдні. Толькі праз тыдзень я прызнаўся бацькам пра яго схованішча. Бацькі паставіліся да гэтай навіны спачувальна і толькі ўпрошвалі быць надзвычай асцярожным, каб пазбегнуць смерці за ўкрыванне беглага.

Праз два тыдні Жук пайшоў у партызаны на Ружаншчыне.



Фота наўздагон да артыкула Марыны Яўсейчык пра беларускі кветнік. Чыркавічы, Светлагорскі раён Гомельскай вобласці. **Глядзіце, якія прыгожыя вяргіні і шматгадовыя астры на фоне разной ліштвы.**

Сяброўства з Жуком мне вылезла бокам. Не паспеў ён апынуцца ў партызанах, як мяне арыштавала міжэрыцкая камендатура. На допыце фрыц кожны раз паказваў на нагайку, якая вісела на сцяне над яго галавой, і на наган, што ляжаў на стале перад яго носам. Усім гэтым гітлеравец страшыў мяне, калі я не прызнаюся пра сувязі з партызанамі. Дзякуючы энергічнаму заступніцтву за мяне бязводзенскага солтыса (старасты) я быў выпушчаны з паліцэйскага ўчастка.

А праз паўгода я даведаўся пра жахлівую навіну: А. Жука расстралялі свае партызаны за тое, што ён увесь час выступаў супраць рабаўніцтва, п'янкі, разгулу. Ад страты такога без віны вінаватага, чыстага і сумленнага хлопца і сёння наварочваюцца слёзы.

Нямецкія ўлады не пакідалі мяне без увагі і надалей. Бліжэй да вызвалення Беларусі па іх прымусе я апынуўся ў Ваўкавыску на цагельні, дзе пад посвіст нагаек наглядчыкаў-акупантаў больш за 8 гадзін штодня цягаў тачкі з цэглай-сырцом.

Прайшло шмат год пасля страшнай фашысцкай навалы. У 1967–1991 гадах

я працаваў у Беларускай энцыклапедыі. І калі дайшла чарга рыхтаваць артыкул пра Рамана Мачульскага, савецкага партызана і дзяржаўнага дзеяча, аднаго з арганізатараў і кіраўнікоў камуністычнага падполля і партызанскага руху ў Беларусі ў Айчынную вайну, Героя Савецкага Саюза, я з адказным сакратаром энцыклапедыі Іосіфам Хаўратовічам сустрэліся з ім у яго кватэры. Р. Мачульскі жыў на Чырвонаармейскай вуліцы ў доме, які ахоўваўся міліцыяй — былі ж і такія дамы ў савецкі час!

На працягу гадзіны я наслухаўся з вуснай Рамана Навумавіча неймавернага мацюкання з воклічамі: «Расстрэльваць!», «Вешаць!», «Знішчаць!». Усё гэта абурэнне адрасавалася тым, хто не з партызанамі. Насцярожанасці да партызанскага руху праз шмат гадоў толькі прыбавілася. І я быў задаволены, што не трапіў у актыў сувязных з партызанамі.

Дзякуй Богу, што не ўсе партызаны былі марадзёрамі!

**Васіль Семенякоў, удзельнік Вялікай Айчыннай вайны, заслужаны работнік культуры БССР, Мінск**

## Што павінна зацікавіць

Паважаная рэдакцыя «Нашай гісторыі!»

Я з'яўляюся вашым чытачом пачынаючы ад першага нумара і лічу, што вы робіце вельмі карысную справу. Для Беларусі важна асэнсаванне гістарычных падзей менавіта з беларускага пункту гледжання — гэта тое, чаго не хапае і не хапала ў падручніках, а слабое веданне айчыннай гісторыі з'яўляецца адным з самых слабых месцаў беларускай дзяржаўнасці.

На мой погляд, найбольш удалымі былі нумары вашага часопіса «Хто з вялікіх князёў быў самы-самы», пра Каліноўскага, пра ролю і дасягненні кіраўнікоў БССР, а таксама пра «Русь як карпарацыю». Аднак апошнім часам у вас стала больш матэрыялаў, толькі ўскосна звязаных з Беларуссю. Разнастайнасць — гэта плюс, але не варта гэтаму аддаваць больш за 7–10 працэнтаў плошчы. Да таго ж на гэтым полі цяжка спрачацца са шматлікімі расійскімі выданнямі.

Адгукаюся на ваш заклік назваць тэмы для магчымых публікацый. Вось некалькі варыянтаў, якія, на мой погляд, павінны зацікавіць чытачоў:

1. Больш дэтальны аналіз прычын **заняпаду Вялікага Княства Літоўскага**. Шмат напісана пра веліч ВКЛ, а вось думкі, чаму адбывалася яго паступовае аслабленне, ёсць розныя: і залішняя дэмакратычнасць прыняцця рашэнняў, адваяваная шляхтай, і канфесійная і этнічная неаднароднасць, і вынік шматлікіх уній з Польшчай, і паступовая здрада эліты на карысць польскіх уплываў, і прынцып «старыны не рушыць», закладзены з пачатку. Па гэтым пытанні можна было б прывесці погляды некалькіх гісторыкаў, асабліва цікавыя таму, што асобныя аспекты (канфесіі, шматлікія уніі) актуальныя для нас і зараз.

2. **Вялікае Княства Рускае**. Падрабязна пераказаць кароткую гісторыю гэтага дзяржаўнага ўтварэння; удакладніць, якія тэрыторыі і сілы падтрымалі гэты рух. Да таго ж такая выразная назва паказвае, што Русь зусім не атаясамлівалася з Маскоўскай дзяржавай. Загаловак матэрыялу можа пайсці і на першую старонку... Што такое Русь Завілейская, згаданая ў паведамленнях пра паходы Свідрыгайлы? Якія наступствы для ВКЛ мела параза гэтага руху?

3. Ад знаёмых даводзілася чуць, што на самым захадзе Беларусі, у Свіслачы, ёсць **незвычайны помнік** — агромністы ваяўнічы мужык, які пільна ўзіраецца на захад, у бок мяжы з Польшчай. Мясцовыя ставяцца да гэтага помніка іранічна і завуць яго «Босы». З інтэрнэту я даведаўся, што гэты «Асілак» стаіць каля пахавання воінаў, якія загінулі пры вызваленні раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Але тым не менш помнік яўна адрозніваецца ад падобных манументаў: хутчэй за ўсё, ён звязаны з нейкімі асаблівымі абставінамі.

4. У мінулым годзе ў шмат якіх беларускіх выданнях прайшло кароткае паведамленне пра **старажытны шалом, знойдзены ў Бабруйску** на беразе Бярэзіны. Нават тлумачылася, што ён падобны да знакамітага нарманскага шалома з Чорнай магілы, раскапанай каля Чарнігава яшчэ ў часы Расійскай імперыі. Ці пацвердзілася старажытнасць гэтай знаходкі? На жаль, ніякіх далейшых тлумачэнняў або абвяржэнняў на гэты конт не было. Нешта падобнае назіраецца і адносна паведамлення археолагаў пра **нарманскія старажытнасці на Віцебшчыне**, знойдзеныя ў мясцовасці, пазначанай як Кардон. Зразумела, што пра вынікі археолагаў варта пісаць, толькі калі ёсць звесткі, прыдатныя для папулярнага пераказу, арыентаванага на шырокае кола чытачоў. Вельмі добрымі прыкладамі падобных паведамленняў у вас былі матэрыялы пра Ніжнюю царкву ў гродзенскім замку ці пра меч рыцара з Мсціслава.

**Алег Бабак**

**Ад рэдакцыі.** Шаноўны спадар Алег, дзякуй Вам за ліст і прапановы, пастараемся іх скарыстаць. Артыкул пра тое, чаму заняпала Вялікае Княства Літоўскае, нават ужо і замовілі. Што тычыцца пытанняў пра археалагічныя адкрыцці — то аўтэнтычнасць знойдзенага на Бярэзіне шалома пацверджаная, ён сапраўды вельмі старажытны. Гэта ўсходні (арабскі) выраб канца IX – пачатку X стагоддзя, які патрапіў у скандынаўскае кола. Неўзабаве гэты прадмет будзе выстаўлены ў Бабруйску.

Што тычыцца нарманскіх старажытнасцяў, знойдзеных у Кардоне Шумілінскага раёна, то даследаванні іх працягваюцца, рэгулярна з'яўляюцца публікацыі па гэтай тэме ў навуковым друку. Аўтэнтычнасць гэтага помніка і прыналежнасць яго да эпохі вікінгаў сумневаў не выклікае. ◆

**Ад рэдакцыі**

Дарагія чытачы, дасылайце нам тэмы ды ідэі артыкулаў, успаміны, сямейныя гісторыі (і нават рэцэпты!) на **history@nn.by**. А таксама падпісвайцеся, каб штомесяц гарантавана атрымліваць «Нашу гісторыю» ў паштовую скрыню. Падпісны індэкс **00469**.

# Клецкая бітва

## Бліскучая перамога нашых продкаў



ФОТА ІВАНА БАЯ, RADZIMA.ORG

**Памятны знак у гонар перамогі над татарамі ў Клецку.** Злева — крыж, пад якім з 2011 года ляжаць парэшткі ахвяраў набегаў пачатку XVI стагоддзя. З правага боку — крыж і валун, усталяваныя летам 1996-га. На схіле — камень з барэльефам Міхала Глінскага, усталяваны ў 2015 годзе.



ФОТА АНДРЭЯ БЛІНЦА

**Гэта быў прыклад хуткага і дружнага дзеяння ў крытычнай сітуацыі. Пра пераломную перамогу войска ВКЛ над крымскімі татарамі ў 1506 годзе піша гісторык Андрэй Блінец.**

Крымскае ханства ўзнікла ў выніку хітрамудрай дыпламатычнай камбінацыі нашых продкаў. Яно было патрэбнае Вітаўту, каб знутры аслабіць вялікага і даўняга небяспечнага праціўніка — Залатую Арду.

На мяжы XIV–XV стагоддзяў Залатую Арду, дзяржаву нашчадкаў Чынгісхана, якая раскінулася ад чарнаморскіх стэпаў да Уральскіх гор, раздзіралі міжусобіцы. Вітаўт скарыстаўся сітуацыяй і пасадзіў на трон Крымскага ханства Хаджы-Гірэя, чые маладыя гады прайшлі на велікакняскім двары ў Троках. Вітаўт і Ягайла дапамаглі Хаджы-Гірэю ўмацавацца ў якасці самастойнага кіраўніка новай дзяржавы. Яны і не здагадваліся, што праз тры пакаленні крымцы забудуць, хто быў іх апекуном, і стануць небяспечнымі ворагамі Літвы.

### Жывы беларускі тавар

Малаўрадлівыя, засушлівыя землі Крыма не маглі забяспечыць годны ўзровень жыцця яго насельнікам. Хлеба ўвесь час не хапала. Але яго ўдосталь прывозілі замежныя купцы, чые калоніі раскінуліся на паўднёвым беразе Крыма. Наўзамен яны патрабавалі жывы тавар — нявольнікаў, якіх перапрадавалі ў Асманскую імперыю. Попыт нараджае прапанову, і погляды крымцаў звярнуліся на поўнач, дзе можна было захапіць здабычу. Далёкі шлях праз засушлівы стэп і небяспека сутыкнення з непрыяцелем разглядаліся як непазбежная рызыка любой эканамічнай дзейнасці.

У 1474 годзе крымскія вершнікі здзейснілі першы буйны напад на землі Вялікага Княства, спустошыўшы Падолле і Чырвоную Русь. У наступныя гады іх ахвярамі станавіліся Валынь, Кіеўшчына, ваколіцы Жытоміра і Вінніцы. Да паходаў на паўночнага суседа татар у сваіх

мэтах падштурхоўвалі ўладары Асманскай імперыі і Маскоўскай дзяржавы. У 1497 годзе нападнікі ўпершыню ўварваліся на беларускія землі, разрабаваўшы ваколіцы Мазыра. Пры гэтым іх ахвярай стаў праваслаўны мітрапаліт кіеўскі і ўсёй Русі Макарый I — татары яго забілі. У 1500 (двойчы), 1502, 1503 (двойчы), 1505 гадах крымцы спусташалі Беларусь. Нягледзячы на аддаленасць ад Крымскага паўвострава, гэтыя землі, дзе даўно не ведалі войнаў, вабілі паляўнічых на нявольнікаў.

Як правіла, татары прыходзілі ў канцы лета — пачатку восені, калі быў сабраны ўраджай. У бяспечным месцы яны разбівалі лагер (кош), адкуль ва ўсе бакі рассылалі атрады па 100–500 воінаў. Хуткія вершнікі за дзень маглі пераадольваць больш за сто кіламетраў і з'яўляцца там, дзе іх не чакалі. Захопленую здабычу прыводзілі ў кош, дзень-два адпачывалі і зноў выпраўляліся ў рэйд. Праз 15–20 дзён арда рушыла ў зваротны шлях. З сабою вялі шматлікі палон, гналі жывёлу, везлі здабычу.

**Як правіла, татары прыходзілі ў канцы лета**

Чаму агромністае Вялікае Княства было не ў стане супрацьстаяць крымцам? Бо на ўтрыманне моцных памежных гарнізонаў, ахову пераправаў на Дняпры былі патрэбны грошы, а іх увесь час не хапала. Таму татары бесперашкодна праходзілі ўглыб беларускіх земляў. Так, у 1503 годзе арду заўважылі, толькі калі яна з'явілася пад Слуцкам. Пакуль войска збіралася для адпору і высочвала ворага, татары выпраўляліся ў зваротны шлях. У лепшым выпадку можна было знішчыць асобныя атрады і адбіць частку здабычы, як гэта здарылася пад Бабруйскам у 1502 годзе.

### Хочаш міру — рыхтуйся да вайны

Каб не траціць бюджэт на стварэнне войска на паўднёвых межах, вялікі князь Аляксандр Ягелончык імкнуўся дыпламатычнымі захадамі схіліць хана Менглі-Гірэя да саюзу супраць Масковіі. Балазе татарам не было розніцы, дзе здабываць жывы тавар.

У 1506 годзе, здавалася, усё было падрыхтавана да заключэння міру. Але пакуль ішлі перамовы, у Крыме рыхтавалі новы напад. Там пераканаліся ў нездольнасці княства арганізаваць абарону і лічылі, што чарговая дэманстрацыя магутнасці дазволіць атрымаць большыя саступкі ад ліцвінаў. ▶




**Бітва з татарамі. Гравюра з «Хронікі Еўрапейскай Сарматыі» Аляксандра Гваньіні 1578 года.** Гэты малюнак часта падаюць як выяву Клецкай бітвы. Аднак на старонцы «Хронікі…» побач з ёю змешчана апісанне разгрому татар пад Вішнеўцам на Галіччыне ў 1512 годзе.

▶ У канцы чэрвеня з Перакопа вырушыла 7-тысячная арда, якую вялі сыны хана Біці-Гірэй і Бурнаш. У сярэдзіне ліпеня пад Лоевам войска перайшло на правы бераг Дняпра, а потым праз Мазырскую і Петрыкаўскую пераправы выйшла на паўночны бераг Прыпяці. Адсюль нічога не замінала рухацца ў цэнтр беларускіх зямель.

Недзе 20–22 ліпеня татары сталі кошам пад Клецкам. Сам горад быў спалены яшчэ падчас набегу ў 1503 годзе і наўрад ці паспеў адбудавацца. Але земляныя валы старога замка і рэшткі яго ўмацаванняў добра пасавалі для размяшчэння ханскага лагера. З-пад Клецка асобныя чамбулы — так называлі атрады — накіроўваліся пад Крэва, Наваградак, Ліду, Ашмяны, Гародню, Ваўкавыск — на абшары, якія ў папярэднія гады не закранала хваля набегаў.

Навіна пра напад заспела вялікага князя Аляксандра на сойме ў Лідзе. Цяжка хворы манарх, які дажываў апошнія дні, не мог рухацца і ўвесь час ляжаў на насілках. Усе вайсковыя справы ён даручыў гетману Станіславу Кішку і свайму фаварыту Міхалу Глінскаму. Сябе ж загадаў адвезці ў Вільню.

## Ад Ліды да Ліпы

На шчасце для краіны, Аляксандр прыбыў на сойм у суправаджэнні некалькіх тысяч вершнікаў. Гэтае войска Глінскі збіраўся весці на дапамогу палякам, якія чакалі татарскага нападу. Дзякуючы збегу абставін, ягоны корпус стаў сапраўдным паратункам для Вялікага Княства. У Ліду ж сцягвалася і паспалітае рушанне з абодвух берагоў Нёмана. Полымя пажараў і слупы пылу на гарызонце міжволі прыспешвалі шляхту да месца збору.

А пакуль войска рыхтавалася да паходу, на выведку выехалі раз'езды рацаў — наёмных сербскіх кавалерыстаў. Рацы знішчылі некалькі татар і прывезлі іх галовы ў скураных торбах, але не змаглі сабраць дакладных звестак пра знаходжанне арды. Было вядома толькі, што загоны ідуць з боку Слуцка. Паколькі марудзіць больш не выпадала, раніцай 31 ліпеня войска выступіла з Ліды ў Наваградак, куды прыбыло вечарам.

Тут тры дні чакалі, пакуль падыдуць асобныя атрады і з'явіцца інфармацыя пра татарскі кош. Нарэшце аддзел братоў Андрэя і Юрыя Неміровічаў захапіў шасцярых палонных, якія паведамілі, што асноўныя сілы крымцаў збіраюцца пад Клецкам. Звесткі былі настолькі важныя, што надвячоркам, у панядзелак 3 жніўня, войска рушыла ў паўднёвым напрамку. У яго

### Міхал Львовіч Глінскі (1470–1534)

паходзіў з татарскага роду, нашчадак мурзы Ляксада (пасля хрышчэння Аляксандра), які быў запрошаны на службу ў ВКЛ князем Вітаўтам і атрымаў тут маёнткі. Глінскія мелі вялікія зямельныя ўладанні, перадусім на Палессі. Іх радавым гняздом быў Тураў.
Міхал Глінскі атрымаў добрую для свайго часу адукацыю. 12 гадоў ён правёў у Заходняй Еўропе, умеў размаўляць на розных еўрапейскіх мовах. Падчас жыцця ў Еўропе ўдзельнічаў у розных ваенных кампаніях, да яго быў прыхільны сам імператар Святой Рымскай імперыі Максімільян I.
Вярнуўшыся ў ВКЛ у 1490-я гады, Міхал заняў высокае становішча пры двары вялікага князя Аляксандра, стаў яго фаварытам. Але пасля смерці свайго высокага патрона трапіў у няласку да новага ўладара, Жыгімонта I. Перамога ў Клецкай бітве не толькі не палепшыла ягонага становішча, але толькі ўзмацняла нянавісць шматлікіх ворагаў.
У такіх умовах у 1508 годзе Міхал Глінскі разам са сваімі братамі падняў узброены мяцеж, пасля задушэння якога выехаў у варожую да ВКЛ Маскву. Там ягоная кар'ера гойдалася як на арэлях. Бываў ён блізкі і да вяршыняў улады — ягоная пляменніца Алена стала жонкай вялікага князя маскоўскага Васілія III і маці будучага маскоўскага цара Івана IV Жахлівага, — але таксама два разы трапляў і ў турму, дзе агулам правёў больш за 15 гадоў. У зняволенні ён урэшце і памёр, прайграўшы супернікам змаганне за ўплывы пры велікакняскім двары падчас малалецтва Івана IV.



ФОТА АНДРЭЯ БЛІНЦА

**Барэльеф Міхала Глінскага.**



**Больш пра Міхала Глінскага і яго ролю ў Клецкай бітве можна прачытаць у гісторыка-антрапалагічным даследаванні Уладзіміра Канановіча «Рыцар на полі бітвы. Клецк, жнівень 1506 года», даступным у папяровай і электроннай версіях.**

складзе былі атрады менскага, наваградскага, гродзенскага паспалітага рушання, прыватныя початы Станіслава Кішкі, Міхала Глінскага, Яна Радзівіла, Яна Забярэзінскага, аддзелы рацаў і польская надворная харугва цяжкай кавалерыі. Усяго ад 7 да 10 тысяч ваяроў.

Марш працягваўся цэлыя суткі. За гэты час прайшлі каля 80 кіламетраў і па дарозе знішчылі татарскі чамбул колькасцю ў 500 шабляў. Вечарам 4 жніўня войска спынілася на начлег у Ліпе (сёння — вёскі Вялікая і Высокая Ліпа Нясвіжскага раёна). Перад бітвай трэба было адпачыць і людзям, і коням.

Вось тут раптоўна і захварэў гетман Станіслаў Кішка. Ён нават не мог сядзець на кані. Была гэта сапраўдная немач ці сімуляцыя напярэдадні бітвы, зыход якой ніхто не мог прадказаць, сказаць цяжка. На вайсковай нарадзе ўсе паўнамоцтвы атрымаў Міхал Глінскі. На яго ўскладалася ўся адказнасць за вынік выправы.

### На берагах рэчкі Сільны

Раніцай у сераду 5 жніўня 1506 года харугвы Глінскага ў баявых парадках рушылі да Клецка.

Ёсць меркаванне, што гетман здзейсніў абыходны манеўр і падышоў пад Клецк з поўдня, з Пінскага тракта. Гэта нібыта дазваляла адсекчы татарам дарогу да адступлення. Такая версія замацаваная і ў самім Клецку, на паўднёвым ускрайку якога стаіць памятны знак у гонар бітвы. Аднак жа дастаткова зірнуць на карту, каб пераканацца, што такі «манеўр» толькі павялічваў шлях да праціўніка і не даваў ніякіх пераваг. Гетман спяшаўся да татарскага лагера самай кароткай дарогай, таму ягонае войска падышло да Клецка з поўначы і спынілася на беразе ракі Сільны — адносна невялікай, але з балоцістымі берагамі, пераадолець якую з ходу было немагчыма. Да сёння гэта рэчка, дарэчы, ператварылася ў ледзь прыкметны ручай.

## Татарскія атрады маглі б уцячы, але яны не хацелі страціць нарабаванае

### 149 ахвяр

У 2011 годзе побач са старажытным дзяцінцам Клецка выявілі вялікую колькасць людскіх парэшткаў: косткі мужчын і жанчын, юнакоў і старых, засыпаныя зямлёй без ніякіх прыкмет арганізаванага пахавання. Усяго — парэшткі 149 чалавек. Пасярод костак знайшлі некалькі паўгрошаў часоў Аляксандра Ягелончыка, што дазволіла датаваць пахаванне пачаткам XVI стагоддзя — часам, калі Клецк двойчы аказваўся на шляху татарскіх набегаў. Ахвяраў нападу перапахавалі 22 чэрвеня 2011 года побач з крыжам у памяць пра бітву 1506 года.

На той момант не ўсе атрады вярнуліся ў татарскі лагер. Біці-Гірэй і Бурнаш сустрэлі ліцвінаў, маючы ў сваім распараджэнні каля 4 тысяч воінаў. Яны яшчэ мелі час для адступлення, але гэта вымусіла б пакінуць частку здабычы. Таму царэвічы вырашылі застацца на бітву. Іх лагер з трох бакоў атачалі рэкі Лань і Сільна, што давала дадатковую перавагу ў абароне, а жаданне захаваць нарабаванае павінна было прымусіць воінаў біцца з асаблівай упартасцю. На ўсялякі выпадак частку верхавых коней пераправілі на супрацьлеглы бераг і трымалі напагатове для магчымых уцёкаў.

Менавіта гэтых коней татары страцілі ў першую чаргу. Кавалерыйскі аддзел, які Глінскі адправіў наперадзе асноўных сіл, атакаваў крымцаў з флангу. Вершнікі адбілі статак і, магчыма, перахапілі асобны чамбул, які вяртаўся ў лагер са здабычай. ▸




**Татары выводзяць палон.** Гравюра XVI стагоддзя.

З'яўленне ліцвінаў там, дзе іх не чакалі, унесла паніку ў шэрагі татар яшчэ да пачатку бітвы. Ханскім сынам асабіста давялося аднаўляць парадак ва ўласным войску і рыхтаваць яго да бою.

Тым часам на галоўным напрамку ліцвіны на працягу трох гадзін рабілі гаці для пераправы цераз Сільну. Татары абстрэльвалі іх з лукаў, у адказ таксама ляцелі стрэлы, гучалі залпы гармат і ручніц. Нарэшце, пераправы былі гатовыя і кавалерыя пашыхтавалася для атакі. На правым флангу знаходзіліся харугвы наваградскай шляхты, на левым — менскай і гарадзенскай.

Некалькі ваяроў паспяшаліся на другі бераг, выклікаючы ворага на двубой, які скончыўся досыць хутка і не на нашу карысць. Шляхціц Копця, завадатар гэтай выправы, быў забіты, а яго адсечаную галаву татары насадзілі на дзіду і з лаянкай насілі па беразе. Зрэшты, гэта быў першы і апошні поспех крымцаў у бітве.

## У бітве вызвалілі 40 000 палонных ліцвінаў

### «Навіна для ўсяго хрысціянскага свету выратавальная»

Пасля прамовы Глінскага, пад гукі сурмаў і жалеек, са спевам «Багародзіцы» правае крыла пайшло ў атаку. Яно адкінула ворага ад пераправы і паволі прасоўвалася наперад.

Каб стрымаць рух наваградцаў, Біці-Гірэй і Бурнаш кінулі

**Міхалон Літвін,**

аўтар трактата «Пра норавы татар, ліцвінаў і маскавітаў», паведамляе, што крымцы выпраўляліся ў дарогу, не абцяжараныя абозамі. Далёка не кожны меў пры сабе шчыт і дзіду, затое ўсе везлі шмат скураных рамянёў, каб вязаць палонных. На аднаго вершніка прыпадала пяць-шэсць коней: для здабычы і для змены падчас маршу. Дзякуючы гэтаму, татары маглі рухацца вельмі хутка.

супраць іх усе наяўныя сілы. Гэта і было патрэбна гетману для вырашальнага ўдару. Пераканаўшыся, што непрыяцель сканцэнтраваны на адным флангу, ён асабіста павёў у атаку левае крыло. Імклівы ўдар рассек варожае войска на дзве часткі. Адну прыціснулі да берагоў Лані, а другая кінулася ўцякаць у адзіным даступным напрамку — на ўсход. З правага боку шлях перакрывалі балоты, з левага боку ішла конніца ліцвінаў. А праз некалькі кіламетраў ад Клецка перад крымцамі ўзнікла чарговая прыродная перашкода — рэчка Цапра. Вузкая грэбля цераз яе аказалася занадта цеснай для ўцекачоў. Ліцвіны білі іх з усіх бакоў, не сустракаючы супраціву.

З надыходам цемры ўсё заціхла. Але канец бітвы не азначаў завяршэння ўсёй аперацыі. Войска Глінскага яшчэ тры дні стаяла каля Клецка, пераймаючы чамбулы, якія не ведалі пра паразу і спяшаліся да месца збору. У гэтыя ж дні вялікія групы ўцекачоў былі разбітыя пад Капылём і Петрыкавам. Праўда, правадырам набегу пашанцавала выратавацца і вярнуцца ў Крым. У суботу, 8 жніўня 1506 года, перахапіўшы апошнія загоны татар, войска рушыла з-пад Клецка на Вільню.

Паводле сведчання сучаснікаў, усяго за час выправы адбілі 40 000 палонных людзей і 30 000 коней. Атрымаўшы вестку пра перамогу, вялікі князь Аляксандр плакаў ад радасці, а ў лісце да жыхароў Гданьска пісаў, што гэтая навіна «выратавальная для ўсяго хрысціянскага свету».

Важнасць выправы і праўда цяжка пераацаніць. Клецкая бітва стала першай перамогай у доўгім шэрагу паражэнняў, якія панесла Вялікае Княства на мяжы XV–XVI стагоддзяў. Упершыню нашы продкі разбілі ўсю арду і вызвалілі ўвесь палон. Гэта істотна ўзняло іх баявы дух і падрыхтавала да новых змаганняў.

З пункту гледжання ваеннага мастацтва Клецкая бітва стала ўзорам узаемадзеяння розных родаў войскаў: кавалерыі, стралкоў, дыверсійных і інжынерных аддзелаў. Пра бітву згадвалі сучаснікі, пісалі храністы. Канцлер і віленскі ваявода Мікалай Радзівіл у гонар перамогі заснаваў у Вільні кляштар кармелітаў абутых, а пры ім збудаваў касцёл з падвойнай назвай: Маці Божай Снежнай (5 жніўня, у дзень, калі адбылася бітва, адзначаецца свята Дзевы Марыі і «снежнага цуду») і Святога Юрыя — нябеснага апекуна воінаў, абаронцаў роднай зямлі. ◆

Падрабязней пра гэту бітву, а таксама пра іншую, якая адбылася пад тым жа Клецкам праз 200 гадоў, у 1706-м, ужо паміж расійскімі і шведскімі войскамі, можна прачытаць у кнізе Андрэя Блінца «Клецкія бітвы: 1506 і 1706 гг.», выдадзенай у 2015 годзе выдавецтвам «Янушкевіч».



# Насі
## Беларусь з сабой

Набыць футболкі гэтых ды іншых серый можна ў крамах:

**Мінск**, «Мой модны кут» (ГЦ «Маскоўска-Венскі», павільён 333 — гэта каля ЦУМа, метро Якуба Коласа, пр. Незалежнасці, 58)
**Мінск**, Symbal.by (пр-т Машэрава, 18, з 10:00 да 20:00 без выхадных)
**Мінск**, «Рагна» (вул. Сухая, 4)
**Мінск,** Vishivanka.by (ГЦ «Няміга-3», цокальны паверх, 73 павільён)
**Брэст**, «Князь Вітаўт» (вул. Савецкая, 55)
**Гродна**, «Цудоўня» (вул. Кірава, 3)

Або замаўляйце праз **Symbal.by**.

# Уздым Акулічаў і расправа над імі

## Як пачынала і чым скончыла эліта дакалгаснай вёскі

**Паўстагоддзя працавітыя і прадпрымальныя сем'і былых прыгонных з Лагойшчыны пашыралі і ўмацоўвалі свае гаспадаркі, але ўсё за пару гадоў пайшло на глум. Пра ўздым і падзенне наймацнейшых гаспадароў сваёй гістарычнай малой радзімы піша кандыдат гістарычных навук Вячаслаў Насевіч.**

Могілкі ля аграгарадка Корань, што на Лагойшчыне, найбольш вядомыя сваёй каларытнай мураванай брамай, а таксама тым, што на іх пахаваны бацька Янкі Купалы. Але літаральна за некалькі крокаў ад магілы Дамініка Луцэвіча стаіць не менш цікавы надмагільны помнік, пра гісторыю якога ведаюць толькі старажылы навакольных вёсак. Высечаны з суцэльнага граніту помнік выглядае багата нават па сучасных стандартах. Няцяжка ўявіць, якое ўражанне ён рабіў у час, калі быў пастаўлены — на пачатку XX стагоддзя.

На гранях помніка высечаныя па-польску імёны трох чалавек, прадстаўнікоў аднаго сялянскага роду. Гэта Іван Акуліч, што нарадзіўся ў 1835 годзе і памёр




**Старое ўкрыжаванне** на браме могілак у Корані.

1 жніўня 1905-га, яго жонка Марыя з Балцэвічаў, якая памерла ў 1879 годзе, пражыўшы 46 гадоў, і адзін з іх сыноў — Даніла, памерлы ў 38-гадовым узросце ў 1897-м. Астатнія сыны, якіх заставалася пяцёра, паставілі гэты помнік каля 1907 года не толькі ў памяць пра бацькоў і брата, але і як маніфест іх і свайго жыццёвага поспеху. На жаль, гісторыя гэта мела сумны фінал.

### Шанец для гаспадарлівых

Усё пачалося ў сярэдзіне 1860-х гадоў, калі ў Расійскай імперыі скасоўвалі прыгоннае права. У большасці губерняў рэформу праводзілі так, каб як мага даўжэй захаваць традыцыйную сістэму землекарыстання. Кожны сялянскі двор атрымліваў зямлю адпаведна з памерам сям'і. Пры гэтым за сялянскай грамадой пакідалася права час ад часу пераразмяркоўваць сямейныя надзелы, прыводзячы іх у адпаведнасць са станам кожнай гаспадаркі.

Але ў заходніх губернях кожны двор звычайна надзяляўся зямлёй раз і назаўжды, фактычна ў прыватную ўласнасць. Праўда, гэтую зямлю належала яшчэ выкупіць у дзяржавы, штогод выплачваючы ўнёсак на пагашэнне выкупной пазыкі. І толькі пасля выплаты ўсёй неабходнай сумы зямельны надзел канчаткова пераходзіў у поўную ўласнасць тых, хто яго апрацоўваў.

На такіх умовах была праведзена аграрная рэформа і ў маёнтку Красны Бор, землі якога прымыкалі з усходу да сяла Корань. Падданыя гэтага маёнтка, усе каталікі (ці, як казалі тады, «польскай веры»), складалі каля 40 працэнтаў прыхаджан Коранскага касцёла. Маёнтак ахопліваў 8 вёсак, у якіх разам было 157 двароў і крыху больш за 1 200 душ.

Паводле выкупнога акта, падпісанага 8 снежня 1865 года, за былымі прыгоннымі Краснага Бора былі замацаваныя надзелы з разліку прыкладна па 10 дзесяцін на душу мужчынскага полу. Па розных вёсках памеры надзелаў вагаліся, але ў сярэднім на адну гаспадарку прыпадала каля 22 га, у тым ліку 13,7 га найбольш каштоўнай, ворыўнай зямлі. А далей ужо ўсё залежала ад таго, як кожная гаспадарка скарыстаецца з адкрытых рэформай магчымасцяў.

У пачатку рэформы ўрад меркаваў, што сяляне будуць выплачваць выкуп за зямлю сваім былым панам у растэрміноўку, але ў 1866 годзе ўсю суму выплаціў памешчыкам дзяржаўны скарб. А для сялян гэта было афармлена як пазыка: нібыта яны пазычылі грошы ў дзяржавы, а цяпер мусяць вяртаць з працэнтамі. Пакуль пазыка не сплачана цалкам, яны былі абмежаваныя ў правах і зваліся «часоваабавязанымі».

Для былых падданых маёнтка Красны Бор штогадовыя выкупныя плацяжы ў канцы 1860-х – 1870-я гады складалі ў сярэднім каля 10 рублёў з гаспадаркі. Апрача таго, сяляне былі абцяжараныя падушным дзяржаўным падаткам (на тыповую гаспадарку з 7–8 чалавек ён складаў каля 12 рублёў). На земскія падаткі і зборы, што ішлі на мясцовыя патрэбы, і на абавязковае страхаванне прыходзілася разам яшчэ каля 10–15 рублёў. Такім чынам, штогод тыповая гаспадарка мусіла выплачваць прыблізна 30–40 рублёў.

Для кагосьці такія сумы былі па розных прычынах непад'ёмнымі, і іх прымусова раздзялялі на ўсю грамаду. Але для найбольш спраўных, забяспечаных працаздольнай моладдзю гаспадарак умовы аказаліся цалкам прымальнымі. У выніку да пачатку 1880-х гадоў з выкупам на Кораншчыне разлічыліся 7 гаспадарак: Івана Акуліча, Івана і Паўлюка Лісаў, Івана Шэйпы з вёскі Казыры, Піліпа Стасюлевіча і Івана ды Тамаша Ясюкевічаў з вёскі Грамніца.

Больш познія звесткі пра датэрміновае пагашэнне пазыкі ▶

адсутнічаюць. Відаць, толькі гэтым сямі гаспадарам тое і ўдалося, і яны, такім чынам, сталі найбольш паспяховымі сярод былых краснаборскіх прыгонных. А паколькі багацце не звалілася на іх з неба, а было вынікам цяжкай працы і гаспадарчай прадпрымальнасці, то здабытыя пазіцыі захоўваліся, як правіла, і цягам наступных дзесяцігоддзяў.

### На пару са шваграм

Адным з казырскіх гаспадароў, якія ў 1880 годзе першымі датэрмінова сплацілі выкупныя плацяжы, быў Іван Данілаў Акуліч, гранітны помнік якому



ФОТА АНДРЭЯ ДЫНЬКО

**Гранітны помнік на магіле заможных Акулічаў.** У 1907 годзе сынам Акулічам не было нагоды думаць, што росквіт іх працавітай сям'і хутка зменіцца сапраўднай бядой.

пазней паставілі ўдзячныя сыны. Паказальна, што амаль адразу пасля пагашэння пазыкі ён звярнуўся ў казённую палату з просьбай перавесці яго з сялянскага саслоўя ў мінскія мяшчане. Гэтае хадайніцтва было задаволена ў 1882 годзе. Тым самым сям'я Акулічаў канчаткова парвала з сельскай грамадой, перайшоўшы ў саслоўе з больш выгадным прававым статусам.

Іван Акуліч успадкаваў гаспадарку ад памерлага бацькі Данілы ў другой палове 1860-х гадоў, калі самому яму было трошкі больш за 30. Сыны яго ў той час былі яшчэ малыя. Старэйшаму з іх, Антону, у 1865 годзе было 10 гадоў, а самыя малодшыя, Сямён і Іван, нарадзіліся ўжо ў 1870-я гады. Але Іван з дарослых мужчын у гаспадарцы быў не адзін: яшчэ за часамі прыгону ажаніўся з Іванавай сястрой Мар'янай і перайшоў у гаспадарку ў прымы цёзка Івана па прозвішчы Васіль Тамашоў Акуліч. Менавіта ўпартая праца Івана і яго швагра-здольніка забяспечыла паспяховае пагашэнне пазыкі.

І пасля сям'я Акулічаў працягвала гаспадарыць вельмі паспяхова, тым больш што падраслі сыны і працоўнай сілы ў гаспадарцы дадалося. Дзякуючы

На магілу, якой 125 гадоў, **усё яшчэ кладуць цукеркі.**



таму незадоўга да смерці, каля 1904 года, Іван здолеў набыць хутар Востраў, размешчаны на вялікай выспе сярод балоцістай нізіны. Гэтая гаспадарка стала адзінай на Карэншчыне, апрача маёнтка Красны Бор, якая падчас аграрнага перапісу 1916 года была апісана асобна па форме, прадугледжанай для прыватных землеўладанняў, большых за 50 дзесяцін.

За хутарам Востраў на той час лічылася 280,5 дзесяціны (звыш 300 га), хоць пад ворывам з іх былі толькі 20. Апрача таго, сям'і Акулічаў належалі былая надзельная зямля пры вёсцы Казыры і набытая зямля ў суседняй Зембінскай воласці. У гаспадарцы меліся млын, конная малацілка, веялка, два сталёвыя плугі. З жывёлы — 3 дарослых коней, 3 маладых і 1 жарабя, 2 валоў, 2 бykі і маладыя бычкі, 4 каровы, 5 цялят і падцёлкаў, 9 авечак, 6 ягнят, 6 свіней і 5 парасят.

З шасці сыноў Івана на той час жывымі заставаліся чацвёра. З іх самы малодшы, Язэп, народжаны ў 1878 годзе, служыў у расійскай арміі, дзе даслужыўся да чыну штабс-капітана. А на хутары вялі гаспадарку тры браты: Франц, Язэп і Сямён, якім у 1916 годзе было, адпаведна, 60, 52 і 46 гадоў. З іх толькі Сямён быў жанаты і меў вялікую сям'ю: дваіх сыноў і пяць дачок ва ўзросце ад 18 да 2 гадоў.

### Лісы і Равіны

Адначасова з Акулічамі паўстагоддзя ад адмены прыгоннага права да Першай сусветнай вайны багацелі і некалькі іншых мясцовых гаспадароў, якія здолелі стаць уладальнікамі значных кавалкаў зямлі. Некаторыя з іх былі з той сямёркі, якая ў пачатку 1880-х

**Крыж са столікам на ўваходзе на могілкі.** Водгулле старой традыцыі — людзі пакідаюць на ім цукеркі. Фота зробленае на Тройцу.

ФОТА АНДРЭЯ ДЫНЬКО

першая разлічылася з выкупнымі плацяжамі, а іншыя здолелі падняцца пазней.

У гаспадарцы 60-гадовага ў 1865-м Івана Міхайлава Ліса з Казыроў было значна больш працоўных рук, чым у Акулічаў: у яго тады было пяцёра сыноў ва ўзросце ад 27 да 8 гадоў. Нават калі старэйшы з іх, Павел, неўзабаве аддзяліўся (на момант выплаты пазыкі ён меў 43 гады), ён мог, напэўна, пры неабходнасці разлічваць на дапамогу братоў. А колькасць працаўнікоў у гэтым выпадку была асабліва важная, бо Іван Ліс быў адным з шасці сялян, якія, акрамя надзельных земляў, атрымалі «за былыя заслугі» дадатковы бонус ад мясцовага памешчыка Казіміра Чудоўскага. Івану з гэтага перапала 15 дзесяцін ворыва і 5 дзесяцін сенакосу.

Пазней трое сыноў Івана Ліса на дадаткова дакупленых землях заснавалі хутар, які атрымаў назву Куты Лісавічы. Напярэдадні рэвалюцыі двое з Лісаў, Павел і Антон, таксама прыгадваюцца ўжо не як сяляне, а як мінскія мяшчане. У гаспадарцы Антона Ліса з'явілася адна з першых у акрузе конных малацілак.

Перад Першай сусветнай Антон Ліс, адзіны сярод нашчадкаў краснаборскіх прыгонных, рызыкнуў выправіць малодшага сына Язэпа, народжанага каля 1890 года, на заробкі ў Амерыку. Дзеля гэтага ўсёй сям'ёй яму сабралі 300 рублёў на дарогу. Пасля Язэп разлічваў вярнуцца, каб укласці зробленыя грошы ў гаспадарку. Але неўзабаве выбухнула рэвалюцыя, і Язэп назаўсёды застаўся ў штаце ▶






Іншыя цікавыя факты пра гісторыю сялянства Карэншчыны можна прачытаць у кнізе Вячаслава Насевіча «Традыцыйная беларуская вёска ў еўрапейскай перспектыве», выдадзенай выдавецтвам «Тэхналогія» ў 2004 годзе.

Ілінойс. Пасля Другой сусветнай вайны сваякі атрымалі ад яго ліст, але не рызыкнулі весці ліставанне з замежжам, і на гэтым сувязь абарвалася.

Яшчэ адзін мясцовы «багатыр», Іван Адамаў Равіна з вёскі Міхалкавічы, з дапамогай банкаўскай пазыкі ў 1901 годзе набыў больш за 54 дзесяціны (каля 60 га) зямлі ва ўрочышчы Равы, дзе заснаваў хутар з такой самай назвай. Неўзабаве, праўда, ён аддаў палову купленай зямлі ў пасаг дачцэ, якая выйшла замуж за Міхала Вароньку.

ФОТА АНДРЭЯ ДЫНЬКО

**Помнік на магіле бацькі Янкі Купалы — Даմініка Луцэвіча.** Справа — стэла на магіле Акулічаў.

## Канец хутара Востраў

Няцяжка ўявіць, які лёс напаткаў гэтыя элітныя гаспадаркі Карэншчыны пасля рэвалюцыі. Пасля канчатковага ўсталявання тут савецкай улады летам 1920 года большасць набытай цяжкай працай некалькіх пакаленняў зямлі была ў іх проста адабрана.

Па стане на 1922 год за жыхарамі хутара Востраў лічылася толькі 25 дзесяцін, з іх 15 ворыўных. Гэтак жа абрэзаныя былі і іншыя заможныя гаспадары, абвешчаныя кулакамі. На хутары Равы ў гаспадарцы Івана Равіны

**Двухверставая карта 1932 года, выкананая на падставе аналагічнай дарэвалюцыйнай.** На ёй бачныя і Корань, і Красны Бор, і Казыры, і хутары Востраў і Равы.

СА ЗБОРАЎ АЎТАРА

пасля абрэзкі засталося толькі 15 дзесяцін, а ў гаспадарцы ягонага зяця Міхала Вароньki — 10.

І гэта быў толькі пачатак. Менш чым праз дзесяць гадоў пачалася масавая калектывізацыя, якая суправаджалася кампаніяй раскулачвання. Гэтых людзей яна абмінуць не магла ніяк. У лютым 1930-га былі арыштаваныя гаспадары хутара Востраў: 67-гадовы Язэп і 60-гадовы Сямён Акулічы (іхні старэйшы брат Франц паспеў памерці раней). Абвінавачаныя ў «садзейнічанні бандзе» і антысавецкай агітацыі, яны ўжо 3 сакавіка былі прыгавораныя да расстрэлу.

Жонку і дзяцей Сямёна выслалі ў Архангельскую вобласць, у сумна вядомы Котлас. Высылкі пазбеглі толькі дзве старэйшыя дачкі, Аліна і Марыя, якія былі ўжо замужам. Іх нашчадкі памятаюць, як у канцы 1920-х Сямён Акуліч, які прадбачыў бяду, паспеў выдаць Марыю за жыхара Казыроў Язэпа Рашкевіча і набыў для маладых зямлю на хутары Ставок, каб яны маглі ўтварыць асобную гаспадарку. І гэта сапраўды іх выратавала. Астатнія ж — жонка Сямёна Ядзвіга, 22-гадовая дачка Соф'я, 20-гадовы сын Іван (Ясь), 17-гадовая Станіслава, 14-гадовая Уладзіслава і 11-гадовы Казімір — былі вывезеныя ў глухую тайгу, практычна на голае месца. Сям'я выжыла цаною жыцця Яся, які памёр ад непасільнай працы. Але ягоныя намаганні дазволілі неяк выжыць астатнім.

Неўзабаве выйшаў дазвол вяртаць са ссылкі непаўналетніх дзяцей, у якіх заставаліся родзічы на радзіме. Тады старэйшая сястра Аліна з мужам з'ездзілі ў Котлас і прывезлі з сабой Уладзіславу і Казіміра, тым самым, напэўна, выратаваўшы ім жыццё. Уладзіславу прытуліла спярша сям'я Аліны, а потым Марыі. Казіміра ж уладкавалі ў інтэрнат. Тым часам іх маці памерла, а Соф'я і Станіслава выйшлі замуж на месцы ссылкі і пазней засталіся жыць у Валагодскай вобласці. Так найбольш паспяховая сям'я Карэншчыны была раскідана па свеце.

### Гаспадарку канфіскавалі дарэшты

Вясной 1930 года хваля арыштаў закранула яшчэ некалькі найбольш заможных у мінулым гаспадарак. Абвінавачанні ўсюды былі аднолькавымі: удзел у бандзе падчас грамадзянскай вайны і антысавецкая агітацыя.

Гаспадарка Івана Равіны на хутары Равы была знішчана непамернымі паборамі. У сакавіку 1931-га было прынята рашэнне аб яе абкладанні падаткам у так званым «індывідуальным парадку». Гэта абгрунтоўвалася тым, што гаспадарка некалі была кулацкай, а зараз, маўляў, падтрымлівае сувязі з кулакамі Польшчы. У якасці пакарання раённая падатковая камісія ацаніла яе прыбытковасць фантастычнай сумай у 2 790 рублёў, з выплатай падатку ў памеры 1 175 рублёў (годам раней Равіна мусіў плаціць усяго 28 рублёў 15 капеек). Прытым гэтую суму належала ўнесці на працягу тыдня.

## Старых адпусцілі, але пакінулі без хаты. Яны начавалі пад платамі

Ураджэнец Міхалкавічаў Язэп Гладкі, аўтар некалькіх твораў мемуарнага і этнаграфічнага характару, напісаных на эміграцыі пад псеўданімам Адам Варлыга, прыгадваў далейшы лёс гэтай сям'і: «Паўтара кіламетра ад нашай вёскі на адзіноце жыў Равіна: тры сыны, дачка і двое ▸




**Лагер для спецпасяленцаў «Макарыха»**, 1930-я гады. Цяпер тут знаходзіцца горад Котлас, і ў ім дагэтуль час ад часу раскопваюць масавыя пахаванні загінулых ад холаду, голаду і цяжкай працы людзей. Беларусаў у Котласе таксама загінула шмат.



RADZIMA.ORG. АРЫГІНАЛ — ЦЭНТРАЛЬНАЯ НАВУКОВАЯ БІБЛІЯТЭКА НАНБ

**Коранскі касцёл** у пачатку XX стагоддзя.



ФОТА АНДРЭЯ ДЫНЬКО

**Крыж на месцы спаленага касцёла ў Корані.**

старых. Гаспадарку канфіскавалі дарэшты, але старых, якія мелі кожны каля 70 гадоў, з дарогі адпусцілі. Яны абое хадзілі па ваколіцы, начавалі пад платамі. Калгаснікі баяліся прымаць кулака нанач. Старая зімой 1936 года памерла ў Міхалкавічах пад плотам, а стары дажыў да 1941-га».

Зяць і сусед Равіны, 43-гадовы Міхал Варонька, пратрымаўся крыху даўжэй дзякуючы таму, што ў 1930 годзе ўступіў у калгас, з якога быў неўзабаве выключаны. У кастрычніку 1933 года ён быў арыштаваны па абвінавачанні ў незаконным пераходзе граніцы і антысавецкай агітацыі. Сцвярджалася, што ён займаўся кантрабандай і меў сувязі з бандытамі. Сапраўдным здзекам выглядае рашэнне прэзідыума Коранскага сельсавета аб абкладанні яго гаспадаркі (там засталіся жонка і трое дзяцей) падаткам у індывідуальным парадку, прынятае праз тыдзень пасля арышту гаспадара. Рашэнне абгрунтоўвалася тым, што перад уступленнем у калгас Варонька наўмысна «разбазарыў» усю маёмасць, а да рэвалюцыі нібыта меў 60 га зямлі (хоць палова на самай справе належала яго цесцю), трымаў 12 галоў буйной жывёлы і 25 — дробнай, 3 коней і 2 пары валоў, меў пастаяннага парабка і наймаў яшчэ часовых. У лютым 1934 года Міхал Варонька быў прысуджаны да 5-гадовага зняволення, а яго гаспадарка перастала існаваць.

Карэншчына не была нейкім выняткам: найбольш здольных гаспадароў, якія пры іншых умовах забяспечылі б гонар і росквіт роднай зямлі, дакладна гэтак сама нішчылі па ўсёй краіне. І наступствы гэтай негатыўнай селекцыі мы адчуваем па сённяшні. ◆



ФОТА АНДРЭЯ ДЫНЬКО

**Парафіяльны дом у Корані.** Мясцовы касцёл згарэў у вайну.




**Прапанова сцяга для планаванай 6-й стралковай дывізіі імя Кастуся Каліноўскага.** Гістарычная рэканструкцыя.

МАСТАК ВІКТАР ЛЯХАР

## Як Панцеляймон Панамарэнка задумаў стварыць

# Беларускую армію

**Пра некалькі няўдалых спроб стварыць уласныя ўзброеныя сілы Беларусі падчас Другой сусветнай вайны піша ваенны гісторык Віталь Чырвінскі.**

7 жніўня 1942 года. На савецка-германскім фронце ідуць жорсткія абарончыя баі савецкіх войскаў. З'явіліся і першыя ахвяры загараджальных атрадаў, штрафных рот і батальёнаў — за тыдзень да таго выйшаў загад № 227 «Ні кроку назад!». Нягледзячы на гэта, войскі вермахта (6-я палявая армія Фрыдрыха Паўлюса і 4-я танкавая армія Германа Гота) ужо за 30 кіламетраў ад Сталінграда. Нямецкая група армій «А» яшчэ больш прасунулася на Каўказе.

### Дакладная Сталіну

А ў маскоўскім Крамлі перад Іосіфам Сталіным ляжыць стосік сашчэпленых паміж сабой папер. На тытульным аркушы — машынапісная назва: *«Дзяржаўны камітэт абароны. Пастанова аб фарміраванні беларускіх армій»*. Далей ідзе грунтоўная — з лічбамі і датамі, канкрэтнымі прапазіцыямі, — падпісаная кіраўніком ЦК КП(б) Беларусі Панцеляймонам Панамарэнкам дакладная запіска з прапановай сфарміраваць дзве нацыянальныя беларускія арміі, якія ўжо пасля трох-чатырох месяцаў падрыхтоўкі можна накіраваць на самыя складаныя ўчасткі фронту.

«Такія арміі, скамплектаваныя з беларусаў, людзей, якія ненавідзяць немцаў, якія прагнуць помсты, будуць арміямі велічэзнага наступальнага парыву і ўдарнай моцы. Гэтыя арміі ўсімі

памкненнямі будуць накіраваныя на захад, на вызваленне родных мясцін. Пры вызваленні хоць бы часткі Беларусі арміі будуць мець велізарную крыніцу папаўнення самай высокай якасці», — запэўнівала Сталіна Панамарэнкава дакладная.

### Сакрэтны беларускі перапіс

Сталін можа перараканацца — калі палічыць патрэбным паглыбіцца ў паперы, — што выканаўцы праекта пастановы аб фармiраванні беларускіх армій зрабілі тытанічную папяровую працу.

У першую чаргу яны выявілі вайскоўцаў-беларусаў, якія займалі высокія камандныя і штабныя пасады. Арганізацыйным ядром дзвюх беларускіх армій (агульнай колькасцю 154 тысячы чалавек) прапаноўвалі зрабіць 20 тысяч байцоў-беларусаў з пяці стралковых дывізій (155-й, 5-й, 121-й, 33-й і 1-й гвардзейскай), якія да вайны размяшчаліся ў Заходняй асобай вайсковай акрузе і камплектаваліся збольшага мясцовымі жыхарамі.

40 тысяч вайскоўцаў-беларусаў планавалася сабраць з іншых часцей і злучэнняў Чырвонай арміі, у тым ліку франтавых. Налічылі 3 тысячы беларусаў сярод курсантаў вайсковых школ. 12 тысяч выявілі ва ўнутраных войсках НКВД, міліцыі і пагранвойсках. Таксама для мабілізацыі асобна вызначылі жанчын-беларусак (4 тысячы). Дадаткова адабралі 29 тысяч чалавек сярод тых, хто працаваў на прадпрыемствах народнай гаспадаркі за Уралам. Пад ружжо збіраліся паставіць і 4 тысячы беларускіх партыйных ды камсамольскіх актывістаў са «спісу рэзерву ЦК КП(б)Б, СНК БССР і ЦК ЛКСМБ».

Дапоўніць шэрагі дзвюх нацыянальных армій прапаноўвалася беларускімі партызанамі, якіх меркавалі аператыўна перакінуць праз Суражскія вароты на Віцебшчыне (40-кіламетровы пралом лініі савецка-германскага фронту, што ўтварыўся ў лютым 1942 года паміж Вяліжам і Усвятамі).

Відавочна, што беларускае рэспубліканскае кіраўніцтва валодала інфармацыяй усесаюзнага маштабу, вызначыўшы патэнцыйную колькасць беларусаў, якія на гэты момант знаходзіліся на вольнай ад нямецкіх акупантаў тэрыторыі. За два-тры месяцы, пры строгай сакрэтнасці мэты гэтага мерапрыемства, яно правяло своеасаблівы перапіс тых беларусаў (780 тысяч), якія ў выніку вайны вымушана пакінулі родную зямлю і расцерушыліся па савецкай краіне ад Масквы да Сахаліна.

### «Ты колькі забіў?»

А калі раптам Сталін засумуе, разглядаючы сухія лічбы, ён можа адгарнуць праект на аркуш з ідэалагічнымі ўстаноўкамі для беларускіх байцоў і камандзіраў, пра якія аўтары таксама паклапаціліся: «армія мсціўцаў-беларусаў», «армія выхоўваецца ў духу абсалютнай пагарды да смерці»; замест статутнага прывітання «Здравия желаю!» — «Смерць фашыстам!», а ў адказ павінна гучаць: «Смерць!».

«Армія павінна быць цалкам інфармавана пра ўсё тое, што здзейснена акупантамі на тэрыторыі Беларусі. Факты нечуванага тэрору, рэпрэсій, спаленне гарадоў і вёсак, знішчэнне нацыянальнай культуры, фізічнае вынішчэнне велізарнай колькасці беларусаў, разбурэнне прамысловасці, дзікі гвалт над жанчынамі і дзяўчатамі... — усё гэта байцы Беларускай асобай арміі павінны ведаць падрабязна на канкрэтных фактах...— усё гэта павінна быць накіравана на тое, каб узмацніць у байца пачуццё нянавісці, зрабіць яго накіраваным, непагасным».

Уся армія і кожны баец павінны былі лічыць, колькі немцаў яны ►




**Панцеляймон Панамарэнка (у цэнтры)** ля плана адбудовы Мінска, 1944 год.

забілі. Аўтары праекта пастановы верылі, што ўрэшце салдаты-беларусы нават асабістыя размовы будуць пачынаць з пытання: «Ты колькі забіў?».

Такім чынам, праект пераканаўчы і прываблівы.

**Замест статутнага прывітання «Здравия желаю!» прапаноўвалася «Смерць фашыстам!», а ў адказ павінна было гучаць: «Смерць!»**

Вось толькі Сталін яго не падпісвае. Хоць і не зусім зразае, а толькі вяртае на дапрацоўку.

### Другая спроба

14 кастрычніка 1942 года. На Сталінградскім кірунку дзень самых жорсткіх баёў за ўвесь перыяд абароны Сталінграда. Раніцай пасля магутнай артылерыйскай і авіяцыйнай падрыхтоўкі на напрамку галоўнага ўдару (участак па фронце ў 5 км) перайшлі ў наступленне пяць нямецкіх дывізій. Да вечара праціўнік прарваўся да Волгі, але з-за вялікіх страт вымушаны перайсці да стратэгічнай абароны.

У такі важны дзень першы сакратар ЦК КП(б)Б Панцеляймон Панамарэнка турбуе «таварыша Сталіна І. В.» чарговай дакладной запіскай: «Прашу зацвердзіць прадстаўлены праект пастановы Дзяржаўнага камітэта абароны аб арганізацыі Беларускай арміі і аб назве дывізій і палкоў згодна з пералікам».

Апетыты беларускага кіраўніцтва зменшыліся ўдвая. Цяпер яно прапаноўвала сфарміраваць толькі адну армію агульнай колькасцю 84 тысячы чалавек. Але застаўся ўпор на тое, што гэтая вайсковая адзінка стане «арміяй жалезнай дысцыпліны, якая не ведае страху перад ворагам».

### Свае назвы

Кожны полк і дывізія гэтай арміі павінны мець свае адмысловыя баявыя сцягі. «Колер чырвоны, у правым куце лозунг: “Смерць нямецкім акупантам, свабоду Беларусі!”, па цэнтры нумар часці і прысвоенае найменне, у левым куце герб Беларускай ССР... Для ўсяго асабовага складу арміі ўводзіцца нарукаўны або нагрудны знак-эмблема і ўносіцца пэўнае адрозненне ў форму, якое


Раздавім фашысцкую гадзіну
№ 65
1942
Помсці!

Газета-плакат «Раздавім фашысцкую гадзіну». Кастрычнік 1942 год. **У такім жа духу мелася выходзіць і прапанаваная Панамарэнкам газета для беларускіх армій.**

адрознівае армію, дывізіі і палкі... Армія мае свой традыцыйны марш. Кожная дывізія — сваю традыцыйную песню... Армейская газета — штодзённая. Выдаецца на беларускай і рускай мовах».

Палкі павінны атрымаць назвы беларускіх гарадоў (Мінскі, Слуцкі, Віцебскі, Полацкі, Гомельскі, Палескі, Тураўскі, Магілёўскі, Беластоцкі, Гродзенскі, Навагрудскі і іншыя), а стралковыя дывізіі — імёны беларускіх герояў, у пераважнай большасці савецкіх: Сяргея Грыцаўца, Льва Даватара, Мікалая Гастэлы, Ціхана Бумажкова, Феадосія Смалячкова. Але таксама — Кастуся Каліноўскага.

Палітычную работу ў беларускай арміі меркавалася праводзіць сіламі мясцовых партыйных і савецкіх работнікаў пад непасрэдным кіраўніцтвам ЦК КП(б)Б.

Сталіна зноў намагаюцца пераканаць, што беларусам варта даверыцца і яны не падвядуць. Лягуць касцьмі.

Але «айца народаў» зноў нешта спыняе. Паўторны праект Панамарэнкі пра стварэнне Беларускай арміі таксама застаецца без станоўчай рэзалюцыі.

### Праект Панамарэнкі

Калі пытанні прычын узнікнення самой ідэі стварэння Беларускай арміі, таксама як і імёны яе магчымых ініцыятараў, яшчэ патрабуюць дадатковага вывучэння, то імя галоўнага выканаўцы і рухавіка гэтага праекта вядомае — Панцеляймон Панамарэнка.

У канцы 1980-х гадоў у сховішчах тагачаснага партыйнага архіва (цяпер у складзе Нацыянальнага архіва Рэспублікі Беларусь) навукоўцы адшукалі чарнавікі «жнівеньскай» і «кастрычніцкай» дакладных для Сталіна.

Рука Панамарэнкі пакінула шматлікія сляды працы над імі. Крыжыкі, птушачкі, стрэлачкі, закрэсліванні і выпраўленні тэксту, спісы імёнаў і прозвішчаў, якія пісаліся па памяці, таму не заўсёды дакладна.

Сабраныя дакументы аб'ядналі ў справу пад назвай «Матэрыялы па пытанні стварэння Беларускай арміі» і намаганнямі беларускіх гісторыкаў увялі ў навуковы зварот. Неафіцыйна ж тэму празвалі «праектам Панамарэнкі». Верагодна, ён гэтага заслужыў. Менавіта Панамарэнка рызыкаваў пасадай або сваёй галавой, прапануючы Сталіну ідэю, якая магла патэнцыйна кваліфікавацца вярхоўным галоўнакамандуючым як падрыў дзейнай арміі, паколькі планавалася здымаць з фронту баявыя часці, адклікаць камандны склад.

## Адну з дывізій прапаноўвалася назваць імем Кастуся Каліноўскага

А галоўным злачынствам тут мог стаць беларускі сепаратызм, элементы якога можна было пры жаданні таксама ўгледзець паміж машынапіснымі радкамі. Хоць ураджэнец Краснадарскага краю Панцеляймон Панамарэнка зусім не хварэў на беларускі нацыянальны патрыятызм. І Сталін гэта добра ведаў. У выніку амбіцыйны і перспектыўны праект бязгучна (без ахвяраў і непрыемных наступстваў) проста пайшоў у стол.



ФОТА ВІТАЛЯ ЧЫРВІНСКАГА

**Рукапісны спіс генералаў-беларусаў**, складзены Панцеляймонам Панамарэнкам.

Відаць, Панамарэнка нейкі час яшчэ спадзяваўся, што Сталін адумаецца і праект стане зноў запатрабаваным. Але час сыходзіў, мянялася і становішча на фронце. У лютым 1943 года, выступаючы на V пленуме ЦК КП(б)Б з дакладам па партызанскім руху, Панамарэнка апошні раз згадаў пра магчымасць стварэння Беларускай арміі: «...было б нядрэнна вывесці з Беларусі тысяч 100 беларусаў, паміж намі кажучы, абсалютна канспіратыўна для таго, каб арганізаваць Беларускую армію, забяспечаную магутнай савецкай тэхнікай і камсаставам». Але адразу пасля пленума Панцеляймон Кандратавіч, перачытаўшы чарнавік стэнаграмы свайго даклада, сам выкрасліў гэтыя словы.

### «За. И. Сталин».

У той жа час сама ідэя стварэння падчас вайны нацыянальных часцей, якія будуць змагацца з ворагам, абараняючы не толькі неабсяжную краіну саветаў, але і сваю малую радзіму, нарадзілася, найверагодней, менавіта ў галоўным крамлёўскім кабінеце.

Па-першае, савецкае камандаванне хапалася за любую саломінку, каб пераламаць супрацьстаянне з Гітлерам у свой бок. Па-другое, частка насельніцтва СССР тады проста не ведала рускай мовы і не разумела рускамоўных афіцэраў. Па гэтых прычынах ужо летам — восенню 1941 года ў бой супраць ворага кінулі толькі што створаныя латышскія, азербайджанскія, армянскія, грузінскія дывізіі, а на Далёкаўсходнім фронце сфарміравалі асобную стралковую брыгаду з кітайцаў.

13 лістапада 1941 года ў маскоўскім Крамлі зацвердзілі пастанову Дзяржаўнага камітэта абароны № 849 «Аб фарміраванні нацыянальных вайсковых злучэнняў», дзе загадвалася сфарміраваць 20 кавалерыйскіх дывізій і 15 асобных стралковых брыгад з таджыкаў, казахаў, калмыкаў, кіргізаў, а таксама жыхароў Чачэна-Інгушскай і Кабардзіна-Балкарскай АССР. Іосіф Сталін сваім пазнавальным чырвоным алоўкам тлустым і шырокім росчыркам напісаў па дыяганалі таго дакумента: *«За. И. Сталин»*.

А вось на аналагічных дакументах «аб беларускіх арміях» такой рэзалюцыі не з'явілася. Чаму? На пытанне, якое вельмі цікавіць беларускіх ▶




МАСТАК ВІКТАР ЛЯХАР

**Нагрудны знак, які планаваўся для салдат Беларускай арміі.** На ім напісана: «Смерць нямецкім акупантам, свабоду Беларусі!». Гістарычная рэканструкцыя.

▶ даследчыкаў, дакладнага адказу пакуль няма.

Ёсць версія, што Сталін, вобразна кажучы, спачатку даў каманду зарадзіць беларускі баявы патрон, а потым спалохаўся нечаканага спрыту беларусаў і замяніў баявы патрон халастым. Недавер да беларускай нацыянальнай арміі нібыта падаграваўся і звесткамі з-за лініі фронту. Значная частка беларусаў рушыла ў партызаны, але была і другая, якая запісвалася да немцаў у Беларускі корпус самаахвовы.

Але, найхутчэй, усё тлумачылася прагматычнымі прычынамі. Беларусы, як носьбіты ўсходнеславянскай мовы, не мелі сур'ёзнага моўнага бар'еру, які замінаў бы ім разумець каманды і іншыя загады камандзіраў. Адпаведна, не было патрэбы і вылучаць іх у асобныя часці дзеля такіх практычных меркаванняў. А рабіць гэта чыста ідэйна Сталін патрэбным не палічыў. Ускосна гэта пацвярджаецца хоць бы тым, што ў той самы час не было таксама ў складзе Чырвонай арміі створана і ўкраінскіх вайсковых фарміраванняў.

## Папяровае міністэрства

У пачатку 1944 года гісторыя з нацыянальнымі беларускімі


NEWSGOMEL.BY

**Клуб запалкавай фабрыкі «Везувій»** у Гомелі, дзе нарадзіўся фіктыўны Наркамат абароны БССР. 1940-я.


ФОТА ВІТАЛЯ ЧЫРВІНСКАГА

103

СОВ. СЕКРЕТНО

ПОСТАНОВЛЕНИЕ
ГОСУДАРСТВЕННОГО КОМИТЕТА ОБОРОНЫ
№ 894сс

«13» ноября 1941 года г. Москва, Кремль.

О формировании национальных войсковых соединений.

Государственный Комитет Обороны ПОСТАНОВЛЯЕТ:

1. Разрешить ЦК КП/б/ и Совнаркомам Союзных и автономных республик формирование следующих национальных войсковых соединений:

а) В Башкирской АССР – 2 кавалерийских дивизии
б) В Туркменской ССР – 2 кавалерийских дивизии и 2 отд. стрелковых бригады.
в) В Узбекской ССР – 5 кавалерийских дивизий и 9 отд. стрелковых бригад.
г) В Таджикской ССР – 1 кавалерийскую дивизию и 2 отд. стрелковых бригады.
д) В Казахской ССР – 2 кавалерийских дивизии и 2 отд. стрелковых бригады.
е) В Калмыцкой АССР – 2 кавалерийских дивизии
ж) В Киргизской ССР – 3 кавалерийских дивизии
з) Чечено-Ингушская и Кабардино-Балкарская АССР – 2 кавалерийских дивизии, имея по 2 кав. полка каждой национальности.

ВСЕГО: – 20 кавалерийских дивизий и 15 отд. стрелковых бригад.

2. Дивизии укомплектовать здоровым и крепким личным составом местных национальностей, в возрасте не старше 40 лет.

Начальствующим составом обеспечить по возможности также из местных национальностей, недостающих пополнить русскими.

3. Обмундирование, людское и конское снаряжение, седла, продфуражное и прочее довольствие, конский состав, холодное и частично огнестрельное оружие за счет ресурсов союзных и автономных республик.

За. И. Сталин

**Пастанова Дзяржаўнага камітэта абароны аб фарміраванні нацыянальных вайсковых злучэнняў з рэзалюцыяй Іосіфа Сталіна.** 13 лістапада 1941 года.

узброенымі сіламі атрымала нечаканы працяг. 1 лютага 1944 года з высокай крамлёўскай трыбуны наркам замежных спраў СССР Вячаслаў Молатаў заявіў, што паўстала патрэба ў стварэнні наркаматаў абароны ў саюзных рэспубліках і пераўтварэнні агульнасаюзнага наркамата абароны ў саюзна-рэспубліканскі наркамат.

Вытокі гэтай заявы трэба шукаць у іранскім Тэгеране, дзе з 28 лістапада па 1 снежня 1943 года прайшла сустрэча першых асобаў СССР, ЗША і Вялікабрытаніі. Вымалёўваліся абрысы міжнароднай арганізацыі, якая павінна была б узяць на сябе пасля заканчэння вайны функцыі забеспячэння калектыўнай бяспекі ў свеце (будучая Арганізацыя Аб'яднаных Нацый). Рыхтаваўся статут арганізацыі, вызначаліся краіны-заснавальніцы і краіны-ўдзельніцы. Сталін імкнуўся ўключыць у спіс заснавальніц ААН максімальную колькасць савецкіх рэспублік. Але Вашынгтон і Лондан не пагаджаліся, спасылаючыся на адсутнасць у савецкіх рэспубліках такіх прыкмет суверэнітэту, як міністэрства замежных спраў і нацыянальныя арміі.

Выступленне Молатава для беларускага ўрада стала стрэлам стартавага пісталета. Нягледзячы на маўчанне Масквы, ад якой чакалі канкрэтных загадаў і ўказанняў, пайшлі ініцыятывы знізу. Напрыклад, пачаць фарміраванне 30-тысячнага Беларускага корпуса з вайскоўцаў-беларусаў і партызан, якія выйшлі з варожага тылу. Праўда, далей за размовы справа не пайшла.

Тым часам ЦК КП(б)Б і ўрад БССР, якія яшчэ 31 снежня 1943 года былі пераведзеныя з Масквы ў Навабеліцу (раён вызваленага, але дашчэнту разбуранага Гомеля), пачалі рыхтаваць «лёсавызначальны» пленум.

VI сесія Вярхоўнага Савета Беларускай ССР адбылася 21–24 сакавіка 1944 года. Яе пасяджэнні праходзілі ў клубе запалкавай фабрыкі «Везувій» — адзінага на той момант будынка горада, дзе захавалася сцэна і больш-менш прыдатная зала. Пытанне пра ўтварэнне Народнага камісарыята абароны Беларускай ССР стаяла апошнім.

Дэпутаты прамаўлялі ўзнёслыя словы, але агульная рыторыка дазваляла зразумець, што большасць з іх здагадвалася пра чыста дэкларатыўны характар новага народнага камісарыята. Закон аб утварэнні саюзна-рэспубліканскага Народнага камісарыята абароны БССР і дапаўненні ў Канстытуцыю

## Каранізацыя ў войску

Увогуле, нацыянальныя фарміраванні ў складзе Чырвонай арміі не былі феноменам толькі Другой сусветнай вайны. Яны дастаткова стыхійна і бясспланава, часцей за ўсё па ініцыятыве саміх нацыянал-камуністаў рознага паходжання, ствараліся яшчэ ў часы грамадзянскай вайны на руінах Расійскай імперыі ў 1918–1920 гадах. А ў 1920-я, ужо ў мірны час, стварэнне такіх фарміраванняў стала часткай палітыкі каранізацыі (то-бок стаўкі на мясцовыя кадры і спрыянне нацыянальнаму развіццю ўсіх карэнных народаў), якая афіцыйна праводзілася тады ва ўсім СССР. Згодна з пяцігадовай праграмай, прынятай у 1925 годзе, ва ўсёй краіне саветаў належала сфарміраваць 15 нацыянальных дывізій (кадравых і тэрытарыяльных) агульнай колькасцю амаль 60 000 чалавек. Пасля колькасць была зменшана да 45 000, але ўсё адно вайскоўцы з нацыянальных часцей павінны былі складаць каля 8–10% усяго асабовага складу тагачаснай Чырвонай арміі. Па стане на 1 снежня 1929 года ў Чырвонай арміі існавалі 22 асобныя нацыянальныя вайсковыя фарміраванні рознага ўзроўню: дывізіі, палкі, эскадроны, батальёны, брыгады і іншыя. Існавалі таксама буйнейшыя і драбнейшыя вайсковыя падраздзяленні (палкі, эскадроны, батарэі, роты, узводы) у складзе звычайных часцей. Свае нацыянальныя падраздзяленні розных узроўняў мелі ўкраінцы, народы Сярэдняй Азіі і Паўднёвага Каўказа, татары, башкіры, бураты, карэлы, паўночнакаўказскія горцы, савецкія немцы і палякі, чувашы, удмурты і іншыя.
Сярод іншых існавалі 2-я і 33-я Беларускія стралковыя дывізіі, камандныя кадры для якіх была закліканая рыхтаваць Аб'яднаная беларуская вайсковая школа ў Мінску (гл. пра яе артыкул «Базыль Маргелаў і Янка Якубоўскі: хто і што пісаў у "Чырвонаармейскую праўду"» ў нумары 3/2018 «Нашай гісторыі»). Але з сярэдзіны 1930-х гадоў гэты эксперымент пачаў згортвацца, і першымі яго званочкамі стала ліквідацыя беларускіх і ўкраінскіх нацыянальных часцей, якая адбылася ў 1934 годзе. У адным з дакументаў таго часу адзначалася: «Украінскія часці, таксама як і беларускія, паколькі ў іх праца вядзецца на дзяржаўнай [рускай] мове, як нацыянальныя не павінны вылучацца». Большасць астатніх падраздзяленняў пратрымаліся крыху больш, але курс на іх ліквідацыю таксама быў узяты. Паўплывалі на гэта розныя фактары: пераход да экстэрытарыяльнай сістэмы пабудовы войска, поўная адмова ад палітыкі каранізацыі, раскручванне махавіка сталінскіх рэпрэсій і іншае. Апошнія нацыянальныя падраздзяленні ў даваеннай Чырвонай арміі былі афіцыйна расфармаваныя летам 1938-га.

**Больш падрабязна пра нацыянальныя часці і падраздзяленні ў даваеннай Чырвонай арміі можна прачытаць у артыкуле расійскага гісторыка Аляксея Безугольнага «Нацыянальныя фарміраванні РСЧА ў 1930-я гг.»**






**Палявая форма адзення байцоў Беларускай асобай арміі.** Гістарычная рэканструкцыя.

БССР — «Артыкул 16-б. Беларуская Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка мае свае рэспубліканскія вайсковыя фарміраванні» — прынялі аднагалосна.

Некаторы час у будынку, дзе праходзіла гэтая сесія, засядаў наваствораны Наркамат замежных спраў БССР. Якое памяшканне выдзелілі для Наркамата абароны (сучаснай мовай — Міністэрства абароны), звестак не захавалася. Хутчэй за ўсё, ніякага. Увесь «наркамат» у выглядзе стосу паперак можна было схаваць у звычайны сейф. Так, напэўна, і адбылося.

ЦК КПБ і ўрад БССР у ліпені 1944 года вярнуліся ў вызвалены Мінск. Пасада наркама абароны БССР так і засталася вакантнай. Наколькі вядома, кандыдатура на гэтую пасаду нават не абмяркоўвалася. Але дэ-юрэ Міністэрства абароны Беларускай ССР праіснавала да новых зменаў у Канстытуцыі БССР — да 1978 года. Так было і ў іншых саюзных рэспубліках СССР. ◆

# Як зверствы нацыстаў выраслі з тэорыі Клаўзевіца

**Перад Хатынню была Бельгія ў Першую сусветную, расказвае Цімох Акудовіч.**

Трагедыя спалення сотняў беларускіх вёсак разам з людзьмі падчас Другой сусветнай вайны ў савецкім і постсавецкім разуменні непарыўна звязаная з нямецкім дакументам пад назвай «Генеральны план “Ост”». Напэўна, нават школьнік, апісваючы тую вайну, узгадае пра гэты план, згодна з якім, 75% беларусаў (славян) планавалася вывезці за Урал альбо знішчыць, а 25% асіміляваць.

Як пацвярджэнне таго, што гэты дакумент рэалізоўваўся на практыцы, абавязкова будзе ўзгаданая Хатынь. І на сайце самога мемарыяльнага комплексу адзін з чатырох гістарычных раздзелаў называецца «Генацыд беларускага народа», дзе асноўная частка тэксту прысвечаная разгляду плана «Ост».

Аднак мінімальнае заглыбленне ў тэму адразу ставіць пытанні пра сувязь паміж спаленнем беларускіх вёсак і гэтым дакументам.



Карл фон Клаўзевіц.

WIKIMEDIA COMMONS

## План «Ост» у тэорыі і на практыцы

«Генеральны план “Ост”» (*Generalplan Ost*) — маштабная праграма 30-гадовых пераўтварэнняў на захопленых землях — рыхтаваўся, найверагодней, з 1940 года пад эгідай рэйхсфюрара СС Генрыха Гімлера і быў завершаны пры канцы 1941 года. Арыгінальны тэкст дакумента не захаваўся, але ягоная асноўная логіка ўзноўленая па крытычных нататках, пратаколах і разборах.

Нямецкі план быў адным з самых пачварных праектаў у гісторыі чалавецтва. Шосты раздзел, прысвечаны беларусам, паведамляў: «Прымусова будзе выселена да 75% беларусаў. Таксама, па плане Галоўнага ўпраўлення імперскай бяспекі, 25% беларускага насельніцтва павінна падлягаць германізацыі».

Але, па-першае, ужо ў заўвагах да плана лічбы і методыкі асноўнага дакумента ставяцца пад сумнеў. Напрыклад, пішацца, што, верагодна, беларусы маюць «большую расавую каштоўнасць», чым мяркуецца, але для высвятлення гэтага пытання патрэбныя спецыяльныя

даследаванні. Розныя важныя заўвагі былі і па іншых народах.

Па-другое, у 1942 годзе дапрацоўка плана затармазілася, а ў 1943-м канчаткова спынілася па зразумелых прычынах.

Па-трэцяе, рэалізацыя плана ў любым яе выглядзе павінна была распачацца толькі пасля канчатковай перамогі над СССР.

А таму план «Ост» не меў прамога дачынення да дзеянняў карных экспедыцый, якія знішчалі вёскі і праводзілі расстрэлы цывільнага насельніцтва ў гарадах падчас вайны.

**Клаўзевіц выкладаў ваенную навуку будучаму прускаму каралю Фрыдрыху Вільгельму IV. Але калі Напалеон скарыў Прусію, Клаўзевіц пайшоў змагацца з ім простым салдатам у расійскае войска**

Больш за тое, неверагодная жорсткасць акупацыйных войскаў звязаная не толькі з шалёнай гітлераўскай ідэалогіяй, як нас вучылі ў школе. У чыстым выглядзе расавая тэорыя нацыстаў стала прычынай татальнага вынішчэння толькі яўрэйскага народа. Карані ж тэрору супраць іншых вырастаюць з зусім іншай ваеннай эпохі і дзіўным чынам звязаныя з нашымі землямі.

### Карл фон Клаўзевіц

У чэрвені 1812 года каля невялікай вёскі Астроўна пад Віцебскам адбыўся ар'ергардны бой расійскай Першай арміі Міхаіла Барклая-дэ-Толі, чыёй задачай было затрымаць наступленне французаў. У шэрагах расійскага войска ў той бітве браў удзел 32-гадовы саксонец Карл фон Клаўзевіц.

Ён быў прафесійным вайскоўцам, прычым не толькі практыкам, але і тэарэтыкам: у 1810 годзе Клаўзевіц выкладаў ваенную навуку будучаму прускаму каралю Фрыдрыху Вільгельму IV. Аднак калі Прусія скарылася Напалеону, саксонец вырашыў паслужыць у інтарэсах сваёй радзімы ў расійскім войску. Не ведаючы рускай мовы, ён не мог камандаваць салдатамі, таму стаў у строй звычайных шарагоўцаў, хадзіў у атаку ў баях пад Віцебскам і на Барадзінскім полі.

Ужо тады дасведчаны вайсковец актыўна цікавіўся тэорыяй ваеннай справы і не мог не звярнуць увагу на эфект партызанскіх атрадаў (стыхійных і спецыяльна сфармаваных), якія дзейнічалі супраць французаў.

### «Пра вайну»

Пасля вайны з Напалеонам Клаўзевіц шмат гадоў узначальваў Прускую вайсковую акадэмію, навучаў будучых афіцэраў і займаўся тэорыяй ваеннай справы. Але сваю галоўную працу, якую пісаў шмат гадоў і для якой вывучыў гісторыю больш як 130 ваенных кампаній розных часоў, скончыць не паспеў, бо ў 1831 годзе памёр ад халеры. Праз год ягоная жонка Марыя фон Клаўзевіц апублікавала незавершаную працу мужа пад кароткай назвай «Пра вайну».

Гэты твор стаў самым важным еўрапейскім даследаваннем вайны, напэўна, за ўсе часы. Аб'яднаўшы свой баявы досвед (у першую чаргу напалеонаўскай кампаніі) з тагачаснымі філасофскімі дасягненнямі (Імануіл Кант), Клаўзевіц прааналізаваў ваенную справу ад азначэння самога тэрміна «вайна» да логікі забеспячэння войскаў і правілаў абароны фартэцый.

Клаўзевіц раздзяліў вайну на татальную і лакальную, вылучыўшы тры асноўныя кампаненты вайны: гвалт, спароджаны прыродным інстынктам, «туман вайны» (сума нечаканасцяў, непазбежных у баявых дзеяннях) і ідэалогія — падпарадкаванасць вайны палітыцы і чыстаму розуму. З такіх пазіцый на вайну яшчэ ніхто ніколі не глядзеў. Фармулёўкі Клаўзевіца аказаліся такімі трапнымі, што да іх апелююць і сённяшнія ваенныя тэарэтыкі.

Клаўзевіц аддаваў перавагу хуткай, маланкавай, але ў той ▸


WIKIMEDIA COMMONS

**Кіраўнік Генштаба Прусіі Гельмут фон Мольтке** называў кнігу Клаўзевіца пра вайну сваёй настольнай.

жа час добра падрыхтаванай ваеннай аперацыі. Гэтым ён, дарэчы, тлумачыў, чаму тактык Напалеон перамагаў усіх стратэгаў Еўропы. І важнай небяспекай для поспеху такой вайны Клаўзевіц вызначыў мясцовае насельніцтва, якое можа ўзяцца за зброю і парушыць камунікацыйныя лініі, якія звязваюць арміі і атрады.

У адным з артыкулаў Клаўзевіц пісаў: «Мы павінны паставіць яго [праціўніка] у такое становішча, якое пры працягу вайны акажацца для яго больш цяжкім, чым капітуляцыя». У кнізе «Пра вайну» канчаткова не фармулюецца, але добра прасочваецца ідэя, што адзіным спосабам змагання з гэтай праблемай, на думку аўтара, застаецца максімальнае застрашванне мірнага насельніцтва.

## Выпрабаванне на практыцы

У 1870 годзе Прусія абвясціла вайну Францыі і за некалькі тыдняў дайшла да Парыжа, узяўшы яго ў аблогу. Гэта быў поспех, які шакаваў увесь свет. Галоўны архітэктар той перамогі, кіраўнік Генеральнага штаба Прусіі Гельмут фон Мольтке, называў кнігу Клаўзевіца сваёй настольнай.

Ён творча развіў ідэі свайго папярэдніка і падрыхтаваў план будучай аперацыі супраць Францыі, дзе было пралічана ўсё да апошняй дробязі: колькасць вайсковых аддзелаў, іх перамяшчэнне і ўзаемасувязь, колькасць неабходных снарадаў і правіянту, час пачатку і час заканчэння баёў. Ваенная аперацыя ў выкананні Мольтке выявілася не месцам, дзе змагаецца баявы дух салдат і нацый, а машынай, механізмам, дакладная падгонка дэталяў якога



Галоўны нямецкі ваенны тэарэтык мяжы XIX і XX стагоддзяў **Альфрэд фон Шліфен.**

гарантуе стапрацэнтную перамогу гаспадару гэтай машыны.

Калі нямецкія войскі занялі ладны кавалак Францыі, то ў іх тыле пачалі з'яўляцца партызанскія атрады. Нямецкае камандаванне было гатовае да такога сцэнара і жорстка падаўляла любыя выступленні мясцовага насельніцтва. Але ў выніку франціроры (фр. *francs-tireurs* — «вольныя стралкі», як называлі сябе партызаны) усё адно прынеслі клопату немцам ці не больш, чым уся французская армія.

Нямецкія генералы бачылі сваю армію як бездакорны механізм, які ствараўся для перамогі над ворагамі, таму праціўнік у выглядзе рэгулярнай арміі не быў праблемай для гэтай машыны — ён быў мэтай. А вось засады на дарогах, знішчэнне кур'ераў, ліквідацыя фуражу і іншыя дыверсіі ў тыле былі як бы збоямі ўнутры машыны і маглі вывесці яе са строю ці прынамсі вельмі запаволіць. А гэтага нельга было дапусціць, бо тэрміны вайны таксама былі часткай гэтай машыны.

І з гэтым трэба было нешта рабіць.

## Другая рэпетыцыя

Наступныя 40 гадоў еўрапейскай гісторыі прайшлі ў падрыхтоўцы да новай вайны, якая мусіла паставіць кропку ў змаганні ваенных тэорый. Французскія генералы распрацавалі канцэпцыю вайны духу, перамогі волі нацыі над супернікам. А немцы працягвалі развіваць ідэі вайны-машыны.

Улічваючы досвед кампаніі 1870 года, галоўны нямецкі ваенны тэарэтык мяжы XIX і XX стагоддзяў Альфрэд фон Шліфен прапанаваў «дактрыну знішчэння». У 1902 годзе нямецкі Генштаб выдаў *«Kriegsbrauch im Andkriege»* — афіцыйны кодэкс вядзення вайны. У ім дакладна раздзяляліся прынцыпы *Kriegsraison* — ваеннай неабходнасці і *Kriegsmanier* — законы і звычаі ваенных дзеянняў. Ваенная неабходнасць у гэтым кодэксе ставілася вышэй за законы і звычаі. Логіка была простая: нічога не павінна перашкодзіць функцыянаванню войска на занятых тэрыторыях.

І вось прыйшоў 1914 год. У Сараеве прагучаў стрэл, які адкрыў для вялікіх еўрапейскіх дзяржаў магчымасць праверыць, чыя ваенная машына лепшая. Германія планавала напасці на Францыю праз тэрыторыю Бельгіі. 3 жніўня нямецкі пасол перадаў бельгійцам ультыматум, а ўжо назаўтра нямецкія войскі перайшлі мяжу і ўзялі ў аблогу крэпасць Льеж.

І вось менавіта тут нямецкае камандаванне ўпершыню атрымала шанец прымяніць на практыцы свае тэарэтычныя

выкладкі па пацыфікацыі мясцовага насельніцтва. Бельгійскі кароль Альберт I прыняў нечаканае рашэнне — супраціўляцца немцам, і паміж войскамі дзвюх дзяржаў завязаліся бai. У той жа час усё цывільнае насельніцтва было папярэджанае пра несупраціўленне ворагу. Калі немцы заходзілі ў бельгійскія гарады, там на слупах віселі абвесткі, якія заклікалі не злаваць і не правакаваць акупацыйныя ўлады.

На гэтых жа слупах новыя ўлады вешалі абвесткі аб пакаранні за мінімальнае супрацьдзеянне. І ў першыя дні вайны супраціву сапраўды не было. Але немцы вырашылі дзейнічаць на апярэджанне сітуацыі. Ва ўсіх гарадах у закладнікі браліся бурмістр горада, святар і некалькі жыхароў. Пры мінімальным падазрэнні на дзейнасць партызанаў іх расстрэльвалі.

## Прэвентыўныя ахвяры

Ужо 4 жніўня былі расстраляныя 6 закладнікаў у вёсцы Варсаж і спаленая вёска Баціс. Генерал Гельмут Мольтке-малодшы (пляменнік славутага военачальніка) пісаў у сваім лісце ўжо 5 жніўня: «Відавочна, наша наступленне мае звярыны характар, але мы змагаемся за наша жыццё, і той, хто падумае стаць на нашай дарозе, мусіць усведамляць наступствы».

19 жніўня немцы захапілі невялікі гарадок Арсхот і расстралялі там 156 чалавек. Пасля быў горад Андэнэ і 211 ахвяр, на наступны дзень Тамінэс — 383 расстраляныя.

Самая буйная акцыя адбылася ў горадзе Дзінане 23 жніўня. Там на цэнтральнай плошчы сабралі ўсіх жыхароў горада, падзяліўшы іх на дзве калоны — мужчын і жанчын. Людзей паставілі на калені тварамі адно да аднаго. Пасля чаго два аддзяленні нямецкіх салдат шэрагамі выйшлі на плошчу і расстралялі ўсіх ва ўпор. У Дзінане загінула 674 чалавекі, сярод якіх быў хлопчык трох тыдняў ад нараджэння Феликс Фівё.

Усе гэтыя дзеянні не былі разрозненай рэакцыяй на дыверсіі партызан (якіх тады яшчэ амаль не было). Гэта было прымяненне





**Расстрэл у Дзінане.** Паштоўка.

на практыцы тэорый Клаўзевіца, Мольтке і Шліфена пра прадуманую да кожнай дробязі хуткую вайну, сарваць якую могуць толькі «незапланаваныя» акцыі ў тыле. І адзіны спосаб пазбегнуць гэтага — праявіць жорсткасць ад самага пачатку.

Дзіўным чынам, але сімвалам бельгійскай трагедыі сталі не знішчаныя людзі, а кнігі. 23 жніўня немцы захапілі старажытны горад Лёвен. Там яны забілі 248 мясцовых жыхароў і спалілі бібліятэку самага першага бельгійскага ўніверсітэта, які дзейнічаў у Лёвене з пачатку XV стагоддзя. У бібліятэцы пад гатычнымі сутарэннямі згарэла 300 000 старых кніг, сярод якіх некалькі соцень вельмі каштоўных сярэднявечных манускрыптаў.





**Знішчаны бельгійскі Дзінан.**

## Не дапамагло

Гэтыя падзеі шакавалі ўвесь свет. Амерыканская і брытанская прэса параўноўвала немцаў з новай ▶

армiяй Чынгiсхана, задаючыся пытаннем, цi сапраўды гэта той жа народ, адкуль выйшлi Гётэ i Кант.

Самi немцы апраўдвалi такiя дзеяннi акцыямi партызан. Амерыканскi пaвераны ў Лёвене пачуў ад новага губернатара горада, што нiбыта знiшчэнне людзей было расплатай за тое, што сын бурмiстра забiў нямецкага салдата. Але, як сумна пазней жартаваў амерыканец, ён столькi разоў у час вайны чуў гэту гiсторыю ад немцаў у розных гарадах, што складалася ўражанне, нiбыта бельгiйскiя бурмiстры спецыяльна выхоўвалi дзяцей-забойцаў.

## Хатынь, Дальва, Брусы i сотнi iншых беларускiх вёсак запалалi ад ланцужка тэарэтычных разважанняў, памножаных на чалавечую нянавiсць i «туман вайны»

Акцыi застрашвання цягнулiся прыблiзна месяц. А пасля раптоўна скончылiся. Па-першае, сваю ролю адыграла рэакцыя сусветнай супольнасцi, якая была проста шакаваная дзеяннямi немцаў, i гэта так цi iнакш паўплывала на пазiцыю нямецкага генералiтэту.

Але галоўным чыннiкам стала сама логiка баявых дзеянняў. План маланкавай вайны, якi распрацоўваўся i ў нямецкiм, i ў французскiм генштабах, праваліўся. Нiбыта жартуючы з людскiх планаў, у Еўропе завязалася самая доўгая пазiцыйная вайна, якая загнала ў акопы сотнi тысяч салдат на доўгiя чатыры гады. Лiнiя фронту прайшла па тэрыторыях, недалёкiх ад старых дзяржаўных межаў, таму маштабнае падаўленне партызанскага руху аказалася неактуальным.

Па падлiках гiсторыкаў, за час вайны ад нямецкiх пацыфiкацый загiнула каля 6 000 бельгiйцаў, пра што зараз нагадваюць мемарыялы ў большасцi гарадоў гэтай краiны.

У 1915 годзе, калi вайна прыйшла на тэрыторыю Беларусi, методыку «прафiлактычнага застрашвання» немцы ўжо не выкарыстоўвалi, палiчыўшы яе неэфектыўнай. Да таго ж у гэтым не было патрэбы. Жыхары заходнiх губерняў Расiйскай iмперыi не давалi для гэтага падстаў: праваслаўная частка насельнiцтва пераважна выправiлася ў бежанства, а астатняе, Расiяй звычайна дыскрымiнаванае, па расiйскiх парадках не надта сумавала. У вынiку ў беларускую гiстарычную памяць «першыя немцы» ўвайшлi збольшага як культурныя i цывiлiзаваныя вайскоўцы.

### «Сялян расстрэльваюць у любым выпадку…»

Непрадуктыўнасць i цалкам адваротны эфект палiтыкi бязлiтаснага тэрору супраць мiрнага насельнiцтва ўсведамлялi нават некаторыя высокiя нацысцкiя функцыянеры, у тым лiку гаўляйтар Беларусi Вiльгельм Кубэ. Выступаючы на нарадзе гебiтскамiсараў, кiраўнiкоў галоўных аддзелаў i аддзелаў Генеральнага камiсарыята Беларусi ў Мiнску 8 красавiка 1943 года (праз паўмесяца пасля спалення Хатынi), ён сярод iншага сказаў:

«Сяляне знаходзяцца памiж двух агнёў. Калi селянiн атрымлiвае загад прыняць партызанаў, што прыйшлi ў вёску, ён не можа адмовiцца: iнакш будзе расстраляны. Калi пасля туды прыходзiм мы — iзноў iдуць расстрэлы. Сялян расстрэльваюць у любым выпадку, i для iх склалася безвыходная сiтуацыя...

...Пытанне кiравання людзьмi мае тут немалаважнае значэнне. Тутэйшы генерал забаранiў насельнiцтву ўсялякiя кантакты з ворагам i заявiў, што за кожны выбух на чыгунцы ён загадае павесiць 10 чалавек з найблiжэйшай вёскi. Такiмi метадамi тут не скорыш насельнiцтва. Павесiць, вядома, лёгка, гэты метад вельмi зручны, але з-за такога самаўпраўства i ўмяшальнiцтва ў палiтычныя справы мы не зможам несцi адказнасць за выкананне палiтычных задач...

Генерал Бехтальдсгайм аднойчы сказаў мне: "Тутэйшае насельнiцтва не заслугоўвае нiчога, акрамя збiцця i расстрэлаў!" У такiм выпадку нельга i патрабаваць, каб нам пастаўлялi збожжа, жывёлу i г.д.! Дзейнiчаючы такiм чынам, мы не зможам агiтаваць за новую Еўропу... Я хацеў бы яшчэ раз звярнуць увагу гебiтскамiсараў на тое, што падобнага роду абыходжанне палiцыi з насельнiцтвам зусiм не адпавядае нашым палiтычным задачам».

Прадчуваннi Кубэ, што такое стаўленне да насельнiцтва да дабра не давядзе, былi не дарэмныя. Але сам прынцыпова змянiць ён нiчога не мог: «сiлавiкi» яму не падпарадкоўвалiся. А ў ягоным асабiстым лёсе развязаны нацыстамi тэрор адгукнуўся самым непасрэдным чынам — менш чым праз паўгода, 22 верасня 1943-га, Вiльгельм Кубэ быў забiты ў вынiку выбуху мiны, падкладзенай у ягоны ложак партызанамi.




**Паслядоўная нямецкая стратэгія застрашвання мясцовага насельніцтва** знайшла працяг і на тэрыторыі Беларусі падчас Другой сусветнай вайны.

### Добрая глеба для старой ідэі

Аднак заканчэнне Першай сусветнай вайны стала ў выніку пачаткам падрыхтоўкі да Другой. З прыходам Адольфа Гітлера да ўлады нямецкае камандаванне дастала з шуфлядкі старыя напрацоўкі пачатку XX стагоддзя і напоўніцу скарысталася імі.

Нявыкарыстаны для разгрому Францыі падчас Першай сусветнай вайны план генерала Шліфена прыдаўся падчас Другой. Французаў паспяхова разбілі ў 1940 годзе. А ў камплекце да шліфенаўскага плана ішла і думка пра пацыфікацыю мясцовага насельніцтва. Новаму рэжыму, які адмаўляў маральнасць на ўзроўні ідэі, такая логіка дзеянняў на захопленых тэрыторыях падыходзіла як найлепш.

Першы час знаходжання на беларускіх тэрыторыях нацысцкая палітыка вагалася паміж спробамі прыцягнуць «самы бяскрыўдны еўрапейскі народ» на свой бок і жорсткасцю ў дачыненні да мясцовых людзей. Але актывізацыя партызанскага руху ўсё больш скіроўвала нямецкае камандаванне да маштабнай пацыфікацыі. На акупаваных тэрыторыях нацысты ўвялі сістэму калектыўнай адказнасці мясцовага насельніцтва за дыверсіі партызан, паўтараючы сваю бельгійскую практыку 1914 года.

У адным з дакладаў вермахта пачатку 1942 года ёсць такія словы: «Страх перад нямецкімі захадамі павінен быць большым, чым боязь пагроз партызан». Гэта прамая адсылка (хоць, магчыма, і не ўсвядомленая) да тэорый Клаўзевіца і дактрын Шліфена пра тое, што мясцовае насельніцтва павінна зведаць увесь жах вайны, каб упрошваць свой урад спыніць супрацьстаянне і адмовіцца ад думак пра самастойную барацьбу. Жорсткасць гэтай пазіцыі апраўдвалася яе эфектыўнасцю.

Менавіта ад ланцужка гэтых тэарэтычных разважанняў, памножаных на чалавечую нянавісць і «туман вайны» (паводле Клаўзевіца), запалалі Хатынь, Дальва, Брусы і сотні іншых беларускіх і не толькі беларускіх вёсак.

Але на самай справе тэорыя застрашвання аказалася, як мы зараз ведаем, не такой і эфектыўнай. Ужо ў 1870 годзе жорсткасць немцаў хутчэй актывізавала французскіх партызанаў, чым наадварот. Тэрор у Бельгіі ў 1914 годзе супрацьпаставіў Германіі ўвесь свет і значна паўплываў на канчатковую паразу ў той вайне. А жахі нацысцкай палітыкі ў Другой сусветнай вайне таксама выклікалі масавы антынямецкі супраціў нават там, дзе насельніцтва ад пачатку было больш-менш схільнае захоўваць лаяльнасць да акупантаў. Адмова ад маралі ў вайне аказалася ўрэшце нявыгаднай.

## Адмова ад маралі ў вайне ўдарыла ўрэшце па саміх акупантах

Але ці мог пра ўсё гэта здагадвацца 32-гадовы саксонец, які ў чэрвені 1812 года шкандыбаў сярод расійскіх салдат пасля чарговай сутычкі з французамі за 200 км ад беларускай вёскі Хатынь? Пра існаванне якой на белым свеце ён, вядома, нічога не ведаў. ◆





**Павел Сухі**, можа, якраз за тым сталом, у якім захоўваў здымак роднага Глыбокага?

# Сухі – Сухій – Сухой

**Амаль кожны яго самалёт быў поспехам. А ў працоўным стале Павел Сухі захоўваў фота роднага Глыбокага. Піша падпалкоўнік Мікалай Кавалёў.**

Пра асобу славутага авіяканструктара ёмiста сказаў Алег Антонаў, таксама вядомы канструктар самалётаў: «Павел Сухі — квінтэсенцыя нашай авіяцыі».

## «Мы з вамі беларусы»

Род Сухіх бярэ пачатак з вёскі Пахомава Вілейскага павета. Цяпер месца, дзе яна калісьці была, — на дне Вілейскага вадасховішча. Але сам Павел нарадзіўся ў Глыбокім. Хоць у анкетах 1930-х гадоў, баючыся рэпрэсій, ён пазначаў месца нараджэння як «сяло Глыбокае, ля Гомеля», то-бок ва Усходняй, Савецкай Беларусі. Пры гэтым канструктар захоўваў фотакартку з краявідамі Глыбокага (а не Гомеля, як думалі) у працоўным стале ўсё жыццё.

### Павел Сухі

нарадзіўся ў Глыбокім у 1895 годзе ў настаўніцкай сям'і. У 1914-м паступіў у Маскоўскі ўніверсітэт, а праз год перавёўся ў Імператарскае Маскоўскае тэхнічнае вучылішча — тады самую прэстыжную тэхнічную ВНУ. Але хутка яго забралі ў войска, таму на студэнцкую лаву ён вернецца нават не адразу па вайне, а праз два гады пасля яе, калі расійскія ўніверсітэты адновяць сваю дзейнасць. Чакаючы працягу вучобы, працаваў выкладчыкам матэматыкі ў Лунінцы і Гомелі.

У 1925-м Павел Сухі нарэшце скончыў вучобу ў Маскоўскім вышэйшым тэхнічным вучылішчы імя Баўмана (так яно стала называцца пасля рэвалюцыі) і пачынае сваю, як далей высветліцца, бліскучую кар'еру авіяканструктара. За 20 гадоў ён прайшоў шлях ад інжынера-канструктара аэрагідрадынамічнага завода да генеральнага канструктара, галоўнага распрацоўшчыка савецкай рэактыўнай і звышгукавой рэактыўнай авіяцыі.

Памёр Сухі ў 1975-м, ва ўзросце 80 год, да гэтага атрымаўшы ўсе магчымыя дзяржаўныя прэміі. А заснаваны ў тым жа годзе медаль імя яго першага начальніка, Андрэя Тупалева, прысудзілі Сухому ўжо пасмяротна.

Сёння расійская кампанія, якая займаецца распрацоўкай і продажам самалётаў маркі «Су», так проста і называецца: «Кампанія "Сухой"».

Ну і тыповая трансфармацыя прозвішча (куды ж без яе беларусам?). Дзед, Андрэй Аляксеевіч, быў Сухі. Бацька, Восіп Андрэевіч, быў запісаны як Сухій. А як сам Павел Восіпавіч стаў насіць ужо прозвішча Сухой, ён сам пазней расказваў свайму калегу, Алегу Самайловічу: «Маё сапраўднае прозвішча не Сухой, а Сухі. Мы абодва з вамі беларусы, і толькі таму я вам гэта расказваю. Калі я нарадзіўся і мне давалі ў царкве імя, дзяк аб'явіў, што ён не ведае такога прозвішча — Сухій, таму ў дзіцяці будзе прозвішча Сухой».

## Стрыечны брат — нашанівец

Стрыечны брат Паўла Сухога, Андрэй Мікалаевіч Сухі, вучыўся ў пачатку 1910-х гадоў у Горы-Горацкім земляробчым вучылішчы разам з класікам беларускай літаратуры Максімам Гарэцкім, яны нават сябравалі. Разам з сябрам Андрэй Сухі актыўна ўдзельнічаў у нацыянальным жыцці: быў адным са стваральнікаў літаратурнага гуртка ў вучылішчы, распаўсюджваў газету «Наша Ніва» і беларускія календары. І нават сам пісаў карэспандэнцыі ў першую беларускую газету з рысункамі, падпісваючыся псеўданімам Мікола Мокры. У «Гісторыі беларускай літаратуры» Максіма Гарэцкага верш Якуба Коласа «Нашым ворагам», больш вядомы пад хрэстаматыйнай назвай «Ворагам», друкаваўся з пазнакай «Са спісу агранома — каморніка з Вілейшчыны Андрэя Сухога». Пасля заканчэння навучання Андрэй вярнуўся на радзіму, з 1923 года жыў у Вілейцы. А вось сын Андрэя Сухога, Мікалай Сухій (менавіта так афіцыйна пісалася ягонае прозвішча), стаў паспяховым савецкім чыноўнікам сярэдняга звяна. Пачынаючы з канца 1950-х гадоў ён будаваў партыйна-гаспадарчую кар'еру ў розных мясцовасцях Мінскай вобласці. Вяршыняй яе сталі пасады загадчыка сельскагаспадарчага аддзела ЦК КПБ у 1970–1975-х і старшыні Мінскага аблвыканкама ў 1975–1983 гадах.


WIKIMEDIA COMMONS

**Малазаўважны знішчальнік Су-57.** Першы палёт зрабіў у 2010 годзе, а летась запушчаны ў серыйную вытворчасць.

## Брат Сухога распаўсюджваў «Нашу Ніву»

Пасля Глыбоччыны сям'я пераехала ў Гомель. Бацька стаў там дырэктарам школы. Адна з кніг вялікай сямейнай бібліятэкі — томік першых вершаў Якуба Коласа — мела асабісты подпіс аўтара: «Паважанай Елізавеце Якаўлеўне на памяць!». Елізавета Якаўлеўна — мама будучага авіяканструктара.

### Па прыступках у неба

Менавіта ў Гомелі Павел першы раз у жыцці пабачыў сапраўдны аэраплан — машыну знакамітага расійскага «летуна» Сяргея Утачкіна, які гастраляваў па гарадах імперыі. А калі пазней Сухому на вочы трапіў артыкул бацькі рускай аэрадынамікі, будучага ягонага выкладчыка Мікалая Жукоўскага, ранейшае рашэнне, у які жыццёвы віхор кінуцца, саспела канчаткова. У Маскоўскім тэхнічным вучылішчы прафесар Жукоўскі не проста выкладаў, а кіраваў гуртком, дзе гартавалася будучая савецкая інтэлектуальная эліта: Павел Сухі, Андрэй Тупалеў, браты Аляксандр і Барыс Архангельскія і іншыя.

Пасля быў Паўночна-Заходні фронт. 22-гадовы ўчарашні студэнт, стаўшы афіцэрам, ваяваў у раёне сучаснага горада Екабпілса ў Латвіі. Ён бачыў баі вырабленых у Расіі аэрапланаў французскай канструкцыі «Маран» з нямецкімі «Альбатросамі», бачыў, як айчынны бамбавоз «Ілья Мурамец» бамбіў нямецкія пазіцыі і знішчыў некалькі варожых батарэй. Усё большая роля авіяцыі станавілася відавочнай.

Пасля Брэсцкага міру Павел дэмабілізаваўся пад Ржэвам. ▸

I яшчэ раз лёс закінуў яго ў родны край: з 1918 па 1920 гады настаўнік Сухі выкладаў матэматыку ў школах у Лунінцы, дзе знайшоў сваё каханне, і ў Гомелі, дзе жылі ягоныя бацькі. А далей пачаўся найбольш зорны і прадуктыўны час.

**У анкетах 1930-х гадоў, баючыся рэпрэсій, ён пазначаў як месца нараджэння «сяло Глыбокае ля Гомеля»**

### Для вайны

Першым самалётам, які стаў насіць імя канструктара, стаў Су-2 — лёгкі бамбавоз суцэльнаметалічнай канструкцыі, што адрознівала яго падчас конкурсу ад шасці драўляна-металічных канкурэнтаў. Менавіта ён у найбольшай ступені адпавядаў свайму працоўнаму шыфру «СЗ» — «Сталінскае заданне», а таму быў прыняты на ўзбраенне ў 1939 годзе. Дзякуючы выдатным лётна-тактычным характарыстыкам гэты самалёт пакінуў пра сябе добрую памяць у савецкіх лётчыкаў і нядобрую — у нямецкіх пілотаў.

Жывучасць машыны была таксама на вышыні. Су-2, атрымаўшы прабоіны, не загараўся як паходня дзякуючы таму, што ў ягоных паліўных баках сталі выкарыстоўваць вуглекіслотную абарону. Пра гэта сведчыў, напрыклад, лётчык Іван Пстыга, будучы маршал авіяцыі: «Мне даручылі весці новую шасцёрку Су-2. Адбамбілі, павярнулі да свайго аэрадрома, і тут нас сустрэлі “Месершміты”. Штурман Дзямешкін збіў аднаго. Астатнія люта накінуліся на нас. І пачалі неміласэрна “барабаніць” па нашых Су. Самалёт гарыць, але ляціць. “Месеры” страляюць, самалёт моцна пабіты, весці падпаленую машыну цяжка, але ляцім...».

### Слабое здароўе, якое вызначала паводзіны

З дзяцінства Павел не адзначаўся асабліва моцным здароўем. Яшчэ гімназістам ён быў за поспехі ў вучобе прэміраваны экскурсіяй у Туркестан, дзе падхапіў дызентэрыю, якая дала цяжкія ўскладненні. Пазней ён таксама хварэў на сыпны тыф і шкарлятыну. З-за перанесеных у дзяцінстве і маладосці хвароб ён усё жыццё мусіў трымацца строгай дыеты і ўмеранага ладу жыцця: не ўжываў тлустай ежы і алкаголю, не курыў, штодня рабіў гімнастыку і шмат гуляў на свежым паветры. Толькі гэта, відаць, дазволіла яму дажыць да старасці.

Павел меў добры музычны слых, а ў дзяцінстве і прыемны голас, але ў выніку шкарлятыны, якая дала ўскладненні на горла, здольнасці да спеваў былі страчаныя. Увогуле, гаварыць яму да канца жыцця было дастаткова цяжка, таму тыя, хто Сухога ведаў, запомнілі яго як чалавека вельмі нешматслоўнага.




**Маленькі Паўлік з сям’ёй.** Фота з музея ў сярэдняй школе №1 горада Глыбокае.

### Разам паўстагоддзя

Жонку Паўла Сухога звалі Соф’яй Феліксаўнай, дзявочае прозвішча — Тэнчынская. Пазнаёміўся з ёй будучы авіяканструктар падчас сваёй працы настаўнікам матэматыкі ў Лунінцы. Соф’я выкладала ў той жа школе французскую мову. Працягнулася знаёмства ўжо ў Маскве, куды Соф’я прыехала дапамагаць аўдавелай сястры. Шлюб аказаўся шчаслівы і трывалы, пара пражыла разам больш за 50 гадоў і мела дваіх дзяцей — дачку Ірыну і сына Дзмітрыя.


ФОТА МІХАІЛА ГУТА, PROGOMEL.BY

**Летась ля тэхнічнага ўніверсітэта імя Сухога ў Гомелі з'явіўся такі помнік.** На пастаменце ў выглядзе ўзлётнай паласы стаіць знятая з узбраення зусім нядаўна (у 2012 годзе) знішчальная машына Су-24М. У Гомель яе прывезлі з Баранавіцкага авіярамонтнага завода.

Але бывалі і канфузы. З-за незвычайнага выгляду на пачатку вайны Су-2 быў памылкова збіты легендарным савецкім лётчыкам — Аляксандрам Пакрышкіным. Паколькі ён паступіў на ўзбраенне толькі-толькі, а выглядам быў зусім не падобны да іншых савецкіх самалётаў, то ас прыняў яго за варожы «Месершміт».

А ў 1943 годзе цалкам прайшоў дзяржаўныя лётныя выпрабаванні ўжо новы штурмавік канструктарскага бюро — Су-6. Акт выпрабаванняў засведчыў перавагі распрацоўкі Сухога над да таго часу ўжо легендарным Іл-2: у ім былі вышэйшыя і максімальная хуткасць, і хуткаўздымнасць, і максімальная вышыня, і далёкасць палёту. Праўда, нягледзячы на рэкамендацыю, запусціць новы самалёт у серыйную вытворчасць было немагчыма: перабудова вытворчасці ў ваенных умовах была рызыкоўнай справай.

## Зробленыя, каб быць легендай

Сапраўдны росквіт канструктарскай творчасці нашага земляка прыпаў на пасляваенныя гады, на эру рэактыўнай авіяцыі. Пад яго кіраўніцтвам быў распрацаваны Су-9 — адзін з першых самалётаў з трохкутным крылом і першы ў свеце ўсепагодны звышгукавы вышынны знішчальнік-перахопнік, створаны як складовая частка комплексу для перахопу.

У 1956-м гэты самалёт, паказаны на паветраным парадзе ў Маскве, зрабіў такое вялікае ўражанне на сусветную авіясупольнасць, што ў замежным друку Сухога сталі называць «канструктарам, які выйшаў з ценю». Менавіта гэты самалёт адзначыўся ў інцыдэнце з вышынным амерыканскім разведчыкам U-2 Фрэнсіса Гэры Паўэрса ў 1960 годзе. Новенькі Су-9, які пераганяўся ў той момант з завода ў 61-ы знішчальны авіяполк — цяперашнюю авіябазу ў Баранавічах, — быў падняты па трывозе з задачай тараніць парушальніка паветраных межаў СССР на вышыні 20 км, без узбраення і без высотна-кампенсавальнага касцюма для пілота. Вядома, з бязглуздага загаду нічога не атрымалася, а разведвальны самалёт урэшце збілі зенітнай ракетай.

Нашчадкам Су-9 з'яўляецца легендарны Су-15 з бакавымі ▶

## Чалавеку і самалёту

Помнікі-бюсты Паўлу Сухому пастаўленыя сёння ў трох беларускіх гарадах, з якімі ён быў звязаны сваёй біяграфіяй: Глыбокім, Гомелі і Лунінцы. Ва ўсіх гэтых гарадах, а таксама ў Віцебску ёсць і вуліцы Сухога. Імя навукоўца прысвоена Гомельскаму дзяржаўнаму тэхнічнаму ўніверсітэту (ГДТУ), а з 1998 года кожныя два гады за найлепшую навукова-даследчую работу, выкананую ў гэтым універсітэце, прысуджаецца спецыяльная прэмія імя Сухога. На будынку былой Гомельскай гімназіі, які сёння з'яўляецца адным з карпусоў ГДТУ, усталяваная мемарыяльная дошка былому яе вучню. Імя Сухога з 2012 года носіць і сярэдняя школа №1 горада Глыбокае.
Не менш актыўна, чым сам знакаміты зямляк, у Беларусі мемарыялізуюцца ягоныя самалёты. Наперадзе ўсіх тут ягоная радзіма — горад Глыбокае, дзе цяпер стаяць у якасці помнікаў ажно тры самалёты, распрацаваныя пры ўдзеле Паўла Сухога. Першы з іх з'явіўся ў 1996 годзе пры ўездзе ў горад. А ў 2018-м тут паставілі яшчэ два: знішчальнік Су-27 у парку Перамогі і бамбавоз Су-24М каля сярэдняй школы №1. Яшчэ адзін самалёт-бамбавоз Су-24 пастаўлены ў 2019 годзе ў Гомелі ў скверы каля ГДТУ.




**Су-30 СМ 61 знішчальнай авіяцыйнай базы ў Баранавічах.**

паветразаборнікамі, які доўгі час складаў аснову супрацьпаветранай абароны СССР. Пра знішчальнік выказваўся маршал авіяцыі Яўген Савіцкі: «Каб зрабіў Павел Восіпавіч толькі адзін гэты самалёт — яго ўжо можна было б назваць выдатным канструктарам, а на ягоным рахунку колькі іншых высакакласных машын!»

Далей — больш. У 1966 годзе для забеспячэння неабходных характарыстык, якія патрабавалі дыяметральна супрацьлеглую форму крыла, Сухі першым выкарыстоўвае наватарскае рашэнне — крыло са змяняльнай геаметрыяй на новым самалёце, знішчальніку-бамбавозе Су-17. Гэты легендарны самалёт і яго экспартныя версіі, Су-20 і Су-22, удзельнічалі ў шэрагу ваенных канфліктаў — пачынаючы з вайны Суднага дня ў кастрычніку 1973 года паміж Ізраілем і кааліцыяй арабскіх дзяржаў, якую падтрымліваў СССР. Пра паспяховасць машыны гаворыць той факт, што яе мадыфікацыю дагэтуль актыўна эксплуатуюць ВПС Польшчы. Менавіта такі самалёт-помнік цяпер стаіць на ўездзе ў горад Глыбокае як даніна памяці знакамітаму земляку.

Пры жыцці геніяльнага канструктара былі створаныя суперсучасныя баявыя машыны — франтавы бамбавоз Су-24, які эксплуатаваўся да нядаўняга часу на аэрадроме Рось у Ваўкавыскім раёне, і штурмавік Су-25, што дагэтуль знаходзіцца на ўзбраенні беларускай 116-й гвардзейскай штурмавой авіябазы на самым старым, Лідскім, аэрадроме краіны. Нельга не ўзгадаць і высокаманеўраны шматцэлевы знішчальнік 4-га пакалення Су-27 — зорку ўсіх авіясалонаў свету, крылы якога доўга ахоўвалі неба Беларусі.

**«Усе геніяльныя авіяканструктары — высокаадукаваныя людзі, а Павел Восіпавіч Сухі ў навуцы быў усё ж вышэй за нас усіх!»**

Рэінкарнацыя ўсіх самалётаў Паўла Сухога, Су-30СМ, у 2019 годзе знайшла сваю новую прапіску на беларускай зямлі. Эскадрылля з 12-ці набытых у Расіі самалётаў, па ацэнках беларускіх вайсковых экспертаў, будзе здольная выканаць тыя ж задачы, якія выконвалі 132 беларускія Су-27, Су-24, Су-25 і МіГ-29. У гэтым і ёсць загадка поспеху Сухога, які ўвесь час глядзеў у будучыню і самалёты якога заўжды апераджалі канкурэнтаў.

## «Кобра Пугачова»

Менавіта на знішчальніку Су-27 сваю «кобру» на сусветным авіясалоне ў Ле-Буржэ (1989 год) выканаў савецкі лётчык-выпрабавальнік Віктар Пугачоў. Манеўр атрымаў такую назву, бо пры яго выкананні рэактыўны знішчальнік на хуткасці задзірае нос на 100–110 градусаў уверх і працягвае рухацца ў ранейшым кірунку, губляючы хуткасць, але не вышыню. Далей машына вяртаецца ў нармальнае становішча. Калі глядзець паэтапна на траекторыю, то бачна, што яна падобная да кідка кобры на ахвяру. Такі манеўр вельмі відовішчны і пры гэтым мае таксама практычны сэнс: ён дазваляе звышхуткаснай машыне рэзка затармазіць і сысці з лініі агню ці скінуць з хваста пераследнікаў. «Кобра Пугачова» ўразіла на авіясалоне ў тым ліку амерыканскіх вайскоўцаў, бо да гэтага такую фігуру найвышэйшага пілатажу выконвалі толькі на амерыканскім самалёце F-14 і пад вуглом, не большым за 90 градусаў. Дарэчы, самалёт пазнейшай мадэлі Су-37 навучыўся адкідаць нос ужо на 180 градусаў — ляцець нейкі час хвастом наперад.

**Дакументальныя кадры, як выглядала «кобра Пугачова»**, выкананая ў 1989 годзе ў Францыі, даступныя праз к’юар-код.





У 2015 годзе кінастудыя «Беларусьфільм» зняла невялікі дакументальны фільм рэжысёра Уладзіміра Луцкага па сцэнарыі Аляксея Лосева **«Павел Сухі. Узлётная паласа».**

Авіяканструктар Алег Антонаў сказаў яшчэ: «Усе геніяльныя авіяканструктары, безумоўна, высокаадукаваныя людзі, а Павел Восіпавіч Сухі ў навуцы быў усё ж вышэй за нас усіх!» Пацвярджэнне гэтым словам — першы і адзіны ў Расіі перспектыўны шматфункцыянальны знішчальнік пятага пакалення Су-57, спраектаваны ў 2000-х спрадкаемцамі генія ў вопытна-канструктарскім бюро імя Сухога. ◆

## Сухі музейны

У Беларусі сёння ёсць два музеі, якія мэтанакіравана збіраюць артэфакты, звязаныя з жыццём і дзейнасцю Паўла Сухога. Адзін з іх ужо 35 гадоў працуе пры сярэдняй школе №1 у Глыбокім. Яго стваральніцай была настаўніца гісторыі Тарэза Рабіза. Тут захоўваюцца аўтабіяграфія, дзённікі, лісты навукоўца, копіі шматлікіх дакументаў, розныя арыгінальныя элементы сканструяваных ім самалётаў. Ёсць у музеі і багатая відэатэка з навукова-папулярнымі фільмамі пра ўсе мадыфікацыі самалётаў мадэлі «Су». Вучнямі і педагогамі школы распрацаваныя таксама экскурсійныя маршруты — як уласна па музеі, так і па мясцінах Глыбокага, тым ці іншым чынам звязаных з Сухім і ягонымі продкамі. А яшчэ пры школе працуе гурток авіямадэлявання.

А найбольш поўная калекцыя асабістых прадметаў, звязаных з жыццём авіяканструктара, сабраная ў музеі Гомельскага дзяржаўнага тэхнічнага ўніверсітэта імя Сухога. Супрацоўнікі гэтага музея, маючы сталыя кантакты з сям'ёй навукоўца, здабылі шмат арыгінальных фотаздымкаў, кніг, лістоў, а таксама рэчаў, якія належалі як яму самому, так і членам ягонай сям'і. У экспазіцыі ёсць капялюш і партфель Сухога, яго лінейкі, гадзіннікі, акуляры. А побач з імі — дзіцячыя туфелькі ягоных унучак, жончыны сумачка, веер, флакон ад духоў «Шанэль №5»... Духі Сухому, дарэчы, падарыла сама стваральніца і ўладальніца славутага брэнда, Како Шанэль. Адбылося гэта тады, калі канструктар у 1961 годзе ўдзельнічаў у працы знакамітага парыжскага авіясалона Ле-Буржэ.

**Краўцэвіч, Алесь. Дзяржава волатаў. Альгерд і Кейстут — гаспадары Вялікага Княства Літоўскага (1345–1377 г.) = Realm of Giants. Alhierd and Kiejstut — the Rulers of the Grand Duchy of Lithuania (1345–1377) : нарыс** / Пад аг. рэд. Міхася Скоблы; мастак Ігар Гардзіёнак. — Мінск: Медыял, 2020. — 146 с.

Гісторыкі часам гавораць, што гісторыю твораць народы. Можна з гэтай тэзай згаджацца ці яе аспрэчваць, але несумненна адно: непасрэдныя рашэнні (у тым ліку і лёсаносныя для народаў) прымаюцца канкрэтнымі асобамі. Індывідуальнасць гэтых асобаў накладае свой непаўторны адбітак на ходу гістарычнага працэсу, надае яму менавіта тую, якая ёсць, а не іншую форму рэалізацыі.

Асоба ў гісторыі — гэта заўсёды цікава. А малавядомая беларусам гісторыя дзяржавы, якая стала калыскай для сучаснага беларускага народа, можа стаць да нас бліжэйшай, калі звязаць яе з жыццём і лёсам яе гаспадароў — вялікіх князёў літоўскіх. Гаспадар — так у нас даўней тытулавалі кіраўніка дзяржавы. Адсюль пайшло слова спадар — ветлівая форма звароту ў сучаснай беларускай мове, гэтаксама як у іншых народаў ад тытулаў каралёў паходзяць звароты: пан — у палякаў і чэхаў, сіньёр — у італьянцаў ды іспанцаў, месье — у французаў і г. д.




У нарысе «Дзяржава волатаў. Альгерд і Кейстут — гаспадары Вялікага Княства Літоўскага (1345–1377)» з серыі «Жыццяпісы вялікіх князёў літоўскіх» апавядаецца пра больш чым трыццацігадовае супольнае кіраванне ў Літве Альгерда і Кейстута Гедымінавічаў. Аўтар — прафесійны гісторык, доктар гістарычных навук. У кнізе — гісторыя вялікага сяброўства і братэрскай вернасці ў літаратурнай апрацоўцы, але на падставе гістарычных крыніц.

Кніга выдадзена адначасова на беларускай і англійскай мовах. Набыць яе можна ў мінскай кнігарні **«Акадэмкніга»** (пр. Незалежнасці, д. 72), інтэрнэт-кнігарнях **kniganosha.by** і **knihi.by**.

# Генерал, які даказаў імперыі, што беларусы існуюць

**Пра Паўла Баброўскага, які памятаў, што ён беларус, піша гісторык Васіль Герасімчык.**


WIKIMEDIA COMMONS

У 1863–1864 гадах, калі на тэрыторыі колішняй Рэчы Паспалітай разгортвалася паўстанне, на старонках расійскага перыядычнага друку ўпершыню шырока абмяркоўвалася пытанне: хто ж такія беларусы?

Картограф Родэрыг Эркерт, які ў 1863 годзе выпусціў атлас па так званым Заходнім краі Расійскай імперыі і паспеў напісаць шэраг нарысаў пра беларусаў, даказваў: «Усіх каталікоў варта залічваць да палякаў, а ўсіх праваслаўных — да рускіх».

У адказ пачалася дыскусія, падчас якой аргументавана прагучала думка, што беларусаў нельга дзяліць па рэлігійнай прыкмеце, таму што «ў грамадскіх адносінах паміж каталіком і праваслаўным беларусам няма ніякай розніцы, як няма ніякай розніцы ў іх мове, ладзе думак, норавах і звычаях».

Аўтар гэтых слоў — 31-гадовы падпалкоўнік царскай арміі Павел Баброўскі. Найбольш адметнымі рысамі беларусаў, да

якіх залічваў і сябе, ён называў мову і традыцыйную культуру. Унук уніяцкага святара, сын прафесара Віленскага ўніверсітэта, пляменнік аднаго з першых творцаў беларускага нацыянальнага адраджэння, ён дзякуючы ўласным здольнасцям дасягнуў высокіх прыступак у імперскай іерархіі.

### Уніяцкае паходжанне

Па словах самога Паўла Баброўскага, ён належаў «да старажытнага роду чарнарускіх славян» і паходзіў з Драгічынскай зямлі на Падляшшы. Прыкладамі для яго былі дзед, гонар усёй сям'і, якога ўнук не пабачыў на ўласныя вочы, але ўсё жыццё збіраў пра таго матэрыялы, і дзядзька, які прыклаў шмат намаганняў для выхавання пляменніка.

Дзед Паўла, Кірыла Баброўскі, да таго, як у 40 гадоў стаць уніяцкім святаром, паспеў страціць апошнюю частку некалі значных радавых уладанняў і павандраваць па свеце. Яго прыход размяшчаўся ў Вольцы Выганаўскай Бельскага павета (цяпер на тэрыторыі Польшчы). Кірыла рана страціў жонку, а з шасцярых сыноў выжылі толькі двое — Восіп і Міхаіл, якім ён намагаўся даць найлепшую адукацыю. У выніку абодва сталі прафесарамі Віленскага ўніверсітэта.

Міхаіл стаў доктарам тэалогіі, магістрам філалогіі і філасофіі, вядомым славістам і адным з пачынальнікаў беларусазнаўства. У прыватнасці, ён выявіў і першым даследаваў Супрасльскі зборнік — адзін з найбольш важных кірылічных помнікаў царкоўнаславянскай мовы, які ў 2007 годзе быў унесены ЮНЕСКА ў спіс «Памяць свету».

Міхаіл Баброўскі пасля выключэння па палітычных прычынах з Віленскага ўніверсітэта (падрабязней пра гэта гл. у артыкуле Паўла Церашковіча «Падляшане, якія абудзілі беларусаў» у № 3/2018 «Нашай гісторыі») паспеў паслужыць у храмах Вільні і Жыровічах, перш чым атрымаць у лістападзе 1833 года прыход у Шарашове Пружанскага павета, куды перавёз сваю вялізную бібліятэку. Як і яго бацька, атрымаў вядомасць сярод прыхаджан сваёй дапамогай падчас неўраджайных гадоў і набажэнствамі на народнай мове.

### Тры прафесары за сведкаў

У адрозненне ад малодшага брата, які ўслед за бацькам стаў уніяцкім святаром, Восіп Баброўскі абраў іншы шлях і здолеў пабудаваць добрую ўніверсітэцкую кар'еру. На яго вяселлі, якое ладзілася ў 1829 годзе па ўніяцкім абрадзе ў віленскім касцёле Святых Янаў, сведкамі былі адразу тры прафесары, а яшчэ адзін праводзіў набажэнства.

Жонкаю Восіпа стала маладзейшая за яго амаль на 30 гадоў Марыя са збяднелага роду Кухановічаў, якія спрадвеку жылі ў падляшскім мястэчку Кляшчэлі па суседстве з Баброўскімі.

Павел з'явіўся на свет 2 красавіка 1832 года ў маёнтку Вака, размешчаным непадалёк ад Вільні ў бок Гродна. Яго хросным бацькам стаў прафесар Віленскага ўніверсітэта, гісторык Юзаф Ярашэвіч, аўтар выдадзенай у 1844–1845 гадах трохтомнай працы «Вобраз Літвы з пункту гледжання цывілізацыі з найстаражытнейшых часоў і да канца XVIII стагоддзя».

**«Толькі пасля мы зразумелі, чым абавязаныя свайму дзядзьку — настаўніку і апекуну»**

Восіп рыхтаваў сына да навучання ў гімназіі, пакуль раптоўна не памёр у 1843 годзе, пакінуўшы 33-гадовую жонку з двума непаўналетнімі сынамі і шматлікімі пазыкамі. На дапамогу сваякам прыйшоў Міхаіл Баброўскі, які перавёз сям'ю брата да сябе пад Шарашова. З усёй характэрнай для яго адданасцю справе ён узяўся за выхаванне пляменнікаў. «Толькі пасля мы зразумелі, чым абавязаныя свайму дзядзьку — настаўніку і апекуну. Кожнага з нас ён вывучыў і кожнага намагаўся накіраваць згодна са здольнасцямі і схільнасцямі», — прызнаецца пазней Павел.



**Званіца ўніяцкай царквы** ў Шарашове на Пружаншчыне, паблізу якога рос Баброўскі.

## Цяжкі выбар

Міхаіл Баброўскі дапамог пляменніку падрыхтавацца да здачы экзаменаў у Пружанскае пяцікласнае дваранскае вучылішча і, адчуваючы ў ім запал даследчыка, дазваляў карыстацца сваёй багатай бібліятэкай. Аднак, кожны раз прыязджаючы ў Шарашова, Павел заўважаў, што кніг тут становіцца ўсё менш і менш. Толькі пазней ён даведаўся, што дзядзька Міхаіл, не маючы іншых сродкаў і жадаючы дапамагчы родным, пачаў паступова прадаваць свае каштоўныя зборы. Але сродкаў усё роўна не хапала, таму ў 1844 годзе дзядзька вымушаны быў згадзіцца на прапанову губернскіх уладаў аддаць пляменніка ў Полацкі кадэцкі корпус.

Выправіўшы ў свет любімага пляменніка, Міхаіл заняўся ўладкаваннем другога шлюбу яго маці Марыі, якую называў сястрой. Дзеля гэтага ў 1847 годзе ён прадаў сваю бібліятэку памешчыку Уладзіславу Трэнбіцкаму. Аднак усю дамоўленую суму сям'я Баброўскіх так ніколі і не атрымала.

А 21 верасня 1848 года святар памёр ад халеры і быў пахаваны ў Шарашове каля алтара могілкавай царквы. Яго шматлікія каштоўныя паперы параскрадалі. Павел не змог развітацца з дзядзькам, бо ў Полацку тады таксама была эпідэмія халеры і кадэцкі корпус перайшоў на жорсткі каранцін.



**Міхаіл Баброўскі.** Дзядзька Паўла Баброўскага.

## «З'явіліся тарантулы»

Дзённікавы запіс Паўла Баброўскага за 21 сакавіка 1854 года: «Ціхі, цёплы і ясны дзень змяніўся выдатным вечарам… Многія з нас у гэты вечар назіралі за каметай, якая паказалася на гарызонце. З'явіліся тарантулы — прыкмета надыходу вясны; укус тарантулаў прычыняе моцную пухліну; ад іх ратуюцца воўнаю, якую карысна класці ў палатках. Мы іх лавілі ў норках, апускаючы на ніткі васковы шарык, у які тарантул упіваецца кляшчамі. Звычайна іх знішчаюць авечкі».

## Пашчасціла!

У 1849 годзе Павел Баброўскі, дзякуючы поспехам у вучобе, перавёўся ў пецярбургскі Дваранскі полк, у якім рыхтаваліся будучыя афіцэры царскай арміі. Праз два гады ў ліку найлепшых выпускнікоў ён накіроўваецца ў сталічны лейб-гвардыі Літоўскі полк і адразу пачынае падрыхтоўку да паступлення ў Вайсковую акадэмію Генеральнага штаба.

Планы на далейшае навучанне прыйшлося перапыніць. Прычына таму — распачатая ў 1853 годзе Крымская вайна. Афіцэры Літоўскага палка звяртаюцца з просьбаю адправіць іх на фронт. Але найвышэйшае кіраўніцтва дазваляе зрабіць гэта толькі тром афіцэрам. Для іх вызначэння кідаюць жэрабя. Павел Баброўскі ўзгадваў: «Выцягнуты мною квіток быў з надпісам "камандзіроўка". Маёй долі зайздросцілі ўсе прапаршчыкі».

Маладому афіцэру не цярпіцца паўдзельнічаць у сапраўдным баі, але наступныя паўгода яго чакаюць амаль выключна маршы і дзяжурствы.

Напрыканцы 1854 года Павел Баброўскі вяртаецца ў Пецярбург і ў наступным годзе паступае на геадэзічнае аддзяленне ў Мікалаеўскую акадэмію.

## «Асобны край»

Пасля акадэміі Паўла Баброўскага накіравалі на радзіму, якую ён пакінуў яшчэ хлапчуком. Малады капітан 1-га армейскага корпуса, размешчанага ў Вільні, па ўласнай ініцыятыве арганізаваў заняткі па тапаграфіі з іншымі афіцэрамі. Дзейнасць Баброўскага заўважыла камандаванне, і яго прызначылі выкладаць тапаграфію юнкерам Новаінгерманландскага палка, які пазней удзельнічаў у задушэнні паўстання 1863–1864 гадоў на беларускіх землях.

Але ўрэшце распачатая ініцыятыва прывяла да таго, што ў 1859-м Паўла Баброўскага залічылі ў штат супрацоўнікаў Генеральнага штаба і даручылі адказнае заданне — узначаліць групу афіцэраў, якія займаліся зборам статыстычных і геаграфічных матэрыялаў па Гродзенскай губерні для зборніка.

Падобная праца ўжо выконвалася раней, калі ў ліку 17-ці тамоў вайскова-статыстычнага агляду Расійскай імперыі ў 1849 годзе выйшаў том, прысвечаны Гродзенскай губерні. Ён быў узорам. Але Баброўскі пайшоў значна далей. Да збору матэрыялаў, акрамя афіцэраў Генеральнага штаба, ён далучыў

мясцовых настаўнікаў, святароў і памешчыкаў.

Павел Бабро ўскі тры гады «шмат хадзіў па краі, ва ўсім прыглядаўся да народа, сам запісваў узоры яго мовы і твораў». І ўсё гэта ў той самы час, калі па Гродзеншчыне падарожнічаў Кастусь Каліноўскі. Урэшце, у 1863 годзе работы скончыліся і свет пабачыў ажно чатырохтомнік матэрыялаў па Гродзенскай губерні, які належыць да ліку найлепшых кніг з усёй серыі ў 39 тамоў.

Нягледзячы на абвінавачванні ў лібералізме, асабліва ў адлюстраванні гісторыі палякаў і яўрэяў, празмерна вялікім аб'ёме выдання і нават імкненні паказаць Гродзенскую губерню як «асобны край», працу Бабро ўскага ў цэлым сустрэлі станоўча. За яе ён атрымаў званне падпалкоўніка і малы залаты медаль ад Рускага геаграфічнага таварыства. Імператар Аляксандр II узнагародзіў Бабро ўскага ордэнам Святога Уладзіміра IV ступені. Гэта ўсё дазволіла Паўлу Бабро ўскаму далучыцца да дыскусіі паміж Міхаілам Каяловічам і Родэрыхам Эркертам пра так званую «Заходнюю Расію» і ідэнтычнасць яе жыхароў, якая разгортвалася ў друку ў 1863–1864 гадах.

## Моўная нацыянальнасць

У адрозненне ад Эркерта, які ключавым фактарам для размежавання народаў называў веравызнанне, Павел Бабро ўскі бачыў розніцу перш за ўсё ў мове, а таксама ў традыцыйнай культуры.

Бабро ўскі аргументавана даказваў, што нельга дзяліць беларусаў на каталікоў і праваслаўных, бо ўсё гэта адзін народ. З-за складанай гісторыі (стварэнне Уніяцкай царквы ў 1596-м, далучэнне яе да Праваслаўнай у 1839-м) у адносінах да рэлігіі пануе «абыякавасць у вачах беларусаў» і нават захаванне дахрысціянскіх вераванняў.

Пры гэтым Павел Бабро ўскі падкрэсліваў, што з-за «адступніцтва вышэйшага саслоўя ад сваёй веры і мовы», «працяглага рабства пад гнётам паланізму, свавольства шляхты» шмат запрыгоненых і неадукаваных сялян не ведаюць, хто яны ёсць насамрэч, і называюць сваю мову «простай». «Якая нам справа да таго, што беларусы называюць сябе не беларусамі, а простымі. Але яны гавораць па-беларуску... Яны, не ведаючы таго, што яны беларусы, захавалі і ў побытавым маўленні, і ў песнях, і ў прымаўках свае пэўныя, нацыянальныя, лагічныя формы, свой дух, свой пэўны характар». Назву ж «літоўцы», пад якой сялян Гродзенскай губерні часам запісвалі памешчыкі і ксяндзы, Бабро ўскі тлумачыў тым, што «беларусы калісьці ўваходзілі ў лік народнасцяў літоўскай дзяржавы».

У выніку дыскусіі погляды Родэрыха Эркерта былі прызнаныя памылковымі, і ён вымушаны быў з «Заходняга края» пераключыцца на Каўказ. У той жа час менавіта пры ўдзеле Паўла Бабро ўскага геаграфічнае паняцце «Беларусь» паступова ▶

### Бабро ўскі пра мову

«Мова — быццам бы радавы герб, завешчаны чалавеку яго продкамі, народу — яго карэнным племем, гэта люстэрка, у якім адчувальней за ўсё адлюстроўваецца маральны характар і нават уся гісторыя народа, мова жыве з народам, разам з ім развіваецца і памірае».

*Павел Бабро ўскі, 1864 год.*




**Этнаграфічная карта з атласа Родэрыха Эркерта. 1863 год.**

▸ ў Расійскай імперыі афіцыйна замацоўвалася за тэрыторыяй пражывання беларусаў як носьбітаў беларускай мовы. Гэта паказалі вынікі перапісу 1897 года і іх адлюстраванне на карце Яўхіма Карскага.

## Сенатар

Даследчая дзейнасць Паўла Баброўскага ў Беларусі, на жаль, была перарваная ў 1863 годзе. Яго постаццю зацікавіўся вайсковы міністр Дзмітрый Мілюцін, які выношваў план рэформы ўзброеных сілаў Расійскай імперыі. Павел Баброўскі патрэбны быў для арганізацыі новых навучальных установ — юнкерскіх вучылішчаў. Пасля ён застаўся ў сістэме вайсковай адукацыі яшчэ і кіраўніком Вайскова-юрыдычнай акадэміі і Вайскова-юрыдычнага вучылішча.

Толькі ў 1880-я Баброўскаму ўдалося зноў заняцца гістарычнымі даследаваннямі. Спачатку ён вывучаў рэформы перыяду кіравання Пятра I, а пасля вярнуўся і да беларускай тэматыкі, што было звязана з падрыхтоўкай да 50-годдзя далучэння ўніятаў да праваслаўя. Ён узяўся за даследаванне барацьбы сярод уніяцкіх іерархаў за рэфармаванне царквы пры імператару Аляксандру I. Праца над кнігаю дазволіла Паўлу Баброўскаму сабраць частку страчанага архіва свайго дзядзькі, які ён пасля, у 1890 годзе, падараваў бібліятэцы Акадэміі навук. Даследаванне крытыкаваў гісторык Міхаіл Каяловіч, які абвінавачаў аўтара не ў пошуку гістарычнай праўды, а ў імкненні ўзгадаць пэўных гістарычных асоб, у тым ліку і свайго дзядзьку.

У 1890-я гады ў Паўла Баброўскага з'явілася новае,




**Дачка Яўгенія і ўнук Павел.**

у значнай ступені кан'юнктурнае захапленне — даследаванне гісторыі палкоў расійскага войска. Напісанне гэтых прац было ініцыявана міністэрствам у межах кампаніі па палітычнай апрацоўцы грамадскага меркавання. У цэлым яны, напісаныя з вялікадзяржаўных пазіцый, уяўлялі сабою апалагетыку «рускай зброі» і апраўданне захопу новых тэрыторый прасоўваннем больш прагрэсіўнай культуры.

У 1897 годзе Павел Баброўскі стаў членам Урадавага сената. У апошнія гады ён цяжка хварэў, але пры гэтым не кідаў гістарычных даследаванняў. Але вестка пра правал далёкаўсходняй кампаніі расійскай арміі падчас вайны з Японіяй, а таксама рэвалюцыйныя падзеі студзеня 1905 года пагоршылі яго стан, і 16 лютага 1905 года Павел Баброўскі памёр.

## Сям'я

Павел Баброўскі ажаніўся з Марыяй Панцялеевай, дачкой сапраўднага стацкага саветніка. Яна рана памерла, пакінуўшы мужу шасцярых дзяцей. Трое яго сыноў пайшлі па шляху бацькі і звязалі жыццё з войскам. Малодшы, Васіль, палкоўнік лейб-гвардыі Егерскага палка, загінуў ў першыя дні Лютаўскай рэвалюцыі ў Петраградзе ў 1917 годзе. Міхаіл быў харунжым Кубанскага пластунскага батальёна і загінуў падчас Грамадзянскай вайны ў Расіі. Толькі старэйшаму, Сяргею, вядомаму ў свой час вайсковаму інжынеру, які даслужыўся да звання генерал-маёр, удалося выжыць падчас грамадзянскай вайны і эміграваць у Аргенціну. Дачка Яўгенія (па мужу — Лукніцкая, 1879–1940) — таленавітая мастачка, лятала на аэраплане разам з Сяргеем Утачкіным і была адной з першых жанчын у Расіі, якія атрымалі пасведчанне кіроўцы. Яе сын, названы ў гонар дзеда Лукніцкі Павел Мікалаевіч (1902–1973), быў вядомым для свайго часу пісьменнікам і журналістам, падарожнікам (у яго гонар названая адна з вяршыняў у Заходнім Паміры), збіральнік матэрыялаў пра Ганну Ахматаву і Мікалая Гумілёва. Яго сын Сяргей (1954–2008), праўнук Паўла Баброўскага, быў кандыдатам геаграфічных і доктарам сацыялагічных навук, сапраўдным членам Рускага геаграфічнага таварыства РАН, юрыстам, навукоўцам, які 20 гадоў прысвяціў рэабілітацыі Мікалая Гумілёва, тым самым выканаўшы абяцанне, дадзенае бацьку.

Ён быў навукоўцам і чалавекам свайго часу, і з сённяшняга гледзішча многае з яго дзейнасці можа падацца састарэлым. Але ўнёсак Паўла Баброўскага ў развіццё беларускай нацыянальнай ідэі яшчэ чакае належнай ацэнкі. ◆

# Унорыца
# рай над Дняпром

**Пра мілае сэрцу радавое гняздо піша Ганна Севярынец.**

Колькі ёсць на свеце Севярынцаў — усе яны паходзяць з Унорыцы, маленькай вёскі ля Рэчыцы на правым, крутым беразе Дняпра. У вёсцы гэтай няма вуліц, яна цягнецца акуратнай стужкай уздоўж старога светлагорскага шляху, роўненька на кіламетр, ад слупа да слупа. На пачатку вёскі — могілкі і буслянка, напрыканцы — масток цераз рачулку Каменку.

Адразу за агародамі, толькі збегчы з высокай стромы, якой абрываецца любы правабаковы ўнорыцкі надзел, — шырачэзны Дняпро. Праз пяцьсот метраў за агародамі з левага боку — велізарны, светлы і чысты лес, поўны чарніц і грыбоў. Дасканалы беларускі, старадаўняга радзіміцкага ўзору сусвет, у які я, гарадская па нараджэнні дзяўчынка, вяртаюся кожнае лета вось ужо 45 гадоў, ніводнага лета не прамінаючы.

## Слоўныя таямніцы

Назва «Унорыца» — вялікая лінгвістычная таямніца. Мой дзед Павел, прыкладам, меў надзвычай хітрамудрае для яе тлумачэнне. Нібыта жыў калісьці на самым ускрайку вёскі, ля Каменкі, кітаец па прозвішчы Ца. Жыў пустэльнікам, у выкапанай пад дрэвам нары, заробак меў з гандлю рознай бліскучай драбязой, хадзілі да яго дзеўкі з усяго наваколля па ўпрыгожанні, таму і назвалі вёску — «у нары Ца».

Калі дзед гэта расказваў, сам не мог утрымацца ад смеху. Дакументальна пацверджаных кітайцаў ва Унорыцы ніколі не было, а вось рака была заўсёды. Дый саміх унорыцкіх жыхароў называюць «нарачане». Таму, думаецца, этымалагічна Унорыца нарадзілася са спалучэння «на рацэ», і мне з дзяцінства падабалася, што мы, унорыцкія, адначасова і «на рацэ», і «ў рацэ», што цалкам адпавядала праўдзе майго маленства.

Дарэчы, азяране, жыхары блізкай Азершчыны, звалі нарачан яшчэ «мурашамі», бо нарачане з ранку да вечара бегаюць з гарода на раку, з ракі ў лес, а адтуль зноў у гарод.

**Назва Унорыца** можа паходзіць ад дыялектнай назвы мышы-палёўкі «нары́ца».

Нарачане ж па-свойску завуць азяран «шчаўлікамі», бо менавіта азершчынскае шчаўе на мясцовым рынку самае смачнае.

Унутры ж унорыцкага сусвету назвы яшчэ цікавейшыя.

Па-першае — **Пад гарой**. «Ababралі тыя вішні, што Пад гарой...», «Гэта я ж капаніцу была Пад гарой кінула...» Пад гарой — гэта значыць там, дзе канчаецца агарод, абрываецца зямля і ўнізе ляжыць Дняпро. Амаль ува ўсіх гаспадароў, што маюць сядзібы на дняпроўскім баку вёскі, Пад гарой былі зробленыя каменныя прыступкі, каб спусціцца да ракі, а на самым беразе стаяла ўласная лодка, прыкутая да якога дрэва ланцугом.

Цяпер — **Грыўка**. Гэта месца паміж «Пад гарой» і ракой. На Грыўцы расце самая мяккая ў свеце траўка, якую рвуць парсючкам і цялятам, а таксама вербы, маладыя і старыя. Грыўка цягнецца пад вёскай да самых могілак, а пачынаецца яна **Шпыльком**, вузкім месцам, на якое спакон веку спакушаецца Дняпро і перыядычна ўтварае там новае рэчышча. На другім канцы Шпылька месціцца лужок з дзіўнай назвай **Прысярод** — чаму так называецца бераг, куды вадзілі статак унорыцкіх кароў на вадапой, невядома. Шырокая сцежка ад Грыўкі да Прысяроду называлася **Цярцежык** — зранку і ўвечары Цярцежыкам ішлі каровы, а ўдзень вясковыя хлопцы ганялі ў футбол.

Гэта ўсё прыдняпроўскія назвы, а злева ад вёскі, ля лесу, калісьці былі **Машкі́** (з націскам на апошні склад) — балоцісты ўзлесак, дзе пачыналіся ўжо чарнічнікі і трапляліся чародамі баравікі.

## Дзюс-дзюс-дзюс і вуці-вуці

Ніколі не было ва Унорыцы ніякіх «сапак», «цяпак» альбо «матык» — толькі **капаніца**, невялікая, пад руку, прылада для самых розных агародных прац. Маленькі хлявок, дзе захоўваліся розныя інструменты, семяно альбо патрэбнае і непатрэбнае рыззё, зваўся **павеццю**, але чамусьці ў нас казалі не«ў павеці», а «пад павеццю».

**Звалі нашых кароў заўсёды альбо Ночка (калі морда чорная), альбо Зорка (калі на пысе свяціліся белыя плямы)**

З граматычных формаў таксама ўспамінаецца бабуліна **«пайду бы́ку травы»** ці **«Анька, схадзі бы́ку травы»** — гэта значыла, трэба нарваць спецыяльнай прыдняпроўскай траўкі-мураўкі маладзенькаму бычку. Перад тым, як скласці стог, сена зграбалі ў **копы**, месца пад страхой, куды закладалі сена на зіму, звалася **вышкамі**. Свінню калолі **швайкай**, пакуль не прыдумалі страляць у вуха з пісталета — дзядзька мой быў міліцыянерам і меў табельную зброю.

Уся хатняя жыўнасць мела абагульненую назву **худоба** — акрамя, канешне, катоў. Галоўнай у царстве худобы была, вядома ж, кароўка. Звалі нашых кароў заўсёды альбо Ночка (калі морда чорная), альбо Зорка (калі на пысе свяціліся белыя плямы). Часам у нас, гарадскіх унукаў, узнікалі спрэчкі: ранейшая сёлета Зорка на заднім двары альбо ўжо новая. Яшчэ Ночак ад Зорак можна было адрозніць, а вось самі Зоркі паміж сабой адрозніваліся не надта.

Кожную жывёліну падзывалі па-свойму. Кабанчыкаў — **дзюс-дзюс-дзюс**, курэй — **пыль-пыль-пыль**, качак, канечне, **вуці-вуці**. Калі трэба было загнаць свіней ►



**Родная хата —** з традыцыйнымі для Падняпроўя аканіцамі.

у хлеў, бабуля крычала на іх «**аюц!**» альбо «**аля!**» — абодва словы з націскам на апошні склад.

## Голымі рукамі

Разнастайным быў рыбны і рыбакоўскі сусвет. Рыба, якую найчасцей лавілі ў Дняпры малалетнія рыбакі, называлася **сібíль** — невялікая сярэбраная рыбка, па-вучонаму верхаводка, якую звычайна не елі нават, а аддавалі катам. Старэйшыя дзядзькі, канечне, сібілямі не цікавіліся: яны прыносілі дадому і на продаж акунёў, гусцеру (так звалі маладых падлешчыкаў), самога ляшча, ліня, шчупака, бычкоў. Тлустых, раскошных ментузоў звалі **мяні, мянькі**. Сустракаліся і самы. Увесну, калі Дняпро шырока разліваўся на навакольныя лугі, бабуля лавіла шчупакоў, што блыталіся ў высокай траве, проста рукамі і прыносіла дадому ў падале.


Унорыцкая дзятва, 1950-я гады.

Наогул, лоўля рыбы рукамі — адно з найцікавейшых унорыцкіх уменняў. Канечне, рукамі ловяць для забавы, з любові да чыстага мастацтва, бо асноўны промысел — гэта сеткі, таптухі, браднікі, крыгі, але рукамі. Лавіць рукамі рыбу едуць уначы, загадзя нарыхтаваўшы **кукáны** — спецыяльна надламаныя і заточаныя галінкі, на якія праз жабры будзе надзявацца рыба. На вёслы садзіцца самы дасведчаны вясляр, бо трэба плысці ціха-ціха, каб не пабудзіць акунёў, плотак

На **Мінск** туды

**Гомель** там

Дняпро

**Рэчыца** там

Грывы, плёсы і выспы на Дняпры. Пушчы і новыя, радкамі саджаныя бары. І вёска, што расцягнулася ўздоўж старога тракта, што ішоў высокім берагам. **Гэта ваколіцы Унорыцы на *Google Earth*.**

ды язёў: яны вельмі чуйна спяць. Плывуць далёка, туды, дзе ёсць загадзя нагледжаныя **карчы** са зблытанымі ў вадзе каранямі — старыя велічэзныя дрэвы, што пападалі з берага ў раку.

Даплыўшы да карча, швартуюцца. Рыбак асцярожна выходзіць з лодкі ў ваду, астатнія — стойваюць дыханне іператвараюцца ў зірк і слых. Рыбаку трэба асцярожненька абследаваць корч рукамі пад вадой, намацаць сонную рыбіну — і ціхенька выцягнуць яе на паверхню. Лодка звычайна стаіць далекавата, таму рыбак моцна размахваецца — і шпурляе здабычу над вадой. Срэбраная рыбіна ляціць над срэбранай ракой, усё гэта блішчыць і пераліваецца у месяцовым святле, гледачам крычаць і пішчаць ад радасці забаронена, таму сэрца проста рвецца ад нявыказанага шчасця і ўсясветнай прыгажосці, а куканы цяжэюць з кожнай хвілінай, і рыба б'ецца аб дно лодкі пругкім хвастом.



**Пад гарой. Від на Дняпро з нашага агарода.** Злева — мой дзед Павел Севярынец, справа — Косцік Севярынец, бацька.

### Чымергес

Адзін з найлюбімых маіх заняткаў з самага дзяцінства — сесці і слухаць каларытныя бацькоўскія байкі пра аднавяскоўцаў.

Ну вось як пра Колю Лізавіча. Лізавічы — гэта ўнорыцкая мянушка адной з севярынцаўскіх галін: прыкладам, нас, нашчадкаў прадзеда Пятра Севярынца, звалі Пятровымі, а яшчэ — Дэкрэтамі, бо мой прадзед Пятро ў вясковых спрэчках неабвержным аргументам заўсёды меў які-небудзь дэкрэт, як наяўны, так і прыдуманы ім тут жа, у гарачай гутарцы. А нашчадкаў дробненькай, але ўчэпістай і сварлівай бабы Лізы звалі і па сёння завуць Лізавічамі.

Дык вось Коля Лізавіч быў легендарны ўнорыцкі гарманіст, у яго ў дзяцінстве нават на рэбрах былі сінякі на ўзор гармонікавых басоў: калі мамка адбірала інструмент, ён лупіў пальцамі па целе, уяўляючы, што грае папраўдзе. Калісьці баба Ліза з нейкіх



**Баба Маруся — паштальёнка.**

цяжкай працай зробленых грошай купіла гармонік свайму старэйшаму сыну, Майсейку Лізавічу, але ў Майсейкі справа ішла надзвычай туга, ніяк не мог ён уцяміць сакрэт непаслухмянага інструмента, затое малы падшыванец Колька, толькі ўзяўшы гармонік у рукі, пачаў вырабляць з ім усялякія музычныя цуды.

Граў ён віртуозна, упадаючы ў транс, ногі самі ішлі ў скокі, і таму малога Кольку бралі з сабой на гулянкі дарослыя хлопцы, маладыя франтавікі, якія толькі-толькі папрыходзілі з вайны, пажаніліся — і дагульвалі недагуляную маладосць. Пакідаюць жонак на гаспадарцы, возьмуць сані, запрагуць каня, пасядуць у тыя сані гуртом — бязногія, бязрукія, хто без вока, хто з парэпаным шнарамі тварам, але вясёлыя і зухаватыя. Свіснуць Кольку, той прыбяжыць са сваім гармонікам — яго закідаюць ▸



**Брат Павел.** У гэтых бляшанках ляжыць кінаплёнка — ва Унорыцу прывезлі кіно.



**Грывы на Дняпры —** наносы, валы вакол рэчышча, парослыя кустоўем, рай для дзіцячых гульняў.

кажухамі, каб не пабачыла баба Ліза, і едуць у Азершчыну да дзевак.

Наогул, бавілі час былыя ваякі ўсмак, жорстка. От, скажам, зломіць нагу які калгасны жарэбчык. Яго, вядома ж, забіваюць, мяса здаюць у райцэнтр, а вантробы з масла́мі кладуць у вядро і проста ля стайні, на так званым «обшчым двары», раскладаюць вогнішча. На вогнішчы тым у вядры варыцца дармавы пачастунак, тады самага малодшага з таварышаў з другім вядром адпраўляюць у краму. У краме на ўваходзе заўсёды — дзве бочкі: у адной — салёная рыба хамса, у другой — таннае віно. З гэтай бочкі наліваецца паўвядра віна, астатні аб'ём запаўняецца «трайным» адэкалонам, і ўсё гэта выпіваецца з агульнага кубка пад каніну. Называлася гэтая інфернальная сумесь **чымергесам**.

Я, канечне, такога ўжо не бачыла і памятаю тых франтавікоў старымі суровымі дзядамі, а вось гармонік Колі Лізавіча чула. Праўда, граў ён часцей ужо нешта цягучае і сумнаватае.



Вучні Унорыцкай пачатковай школы і **настаўнік Рыгор Гаўрылавіч Жалезка.**

## Нарачанкі

Калі я думаю пра ўнорыцкіх жанчын, першай успамінаю маю цётку Куліну. Яна памерла зусім маладой, надарваўшыся ў вайну. У сорак трэцім годзе памерла ад тыфу іхняя матка, баба Таня. Засталося пяцёра малых, над імі — шаснаццацігадовая Куліна, а мой дзед, старэйшы з бабытаніных дзяцей, у той час ужо ляжаў у шпіталі з адарванай нагой. Куліна — а была яна надзвычай моцная, ваду з калодзежа насіла па два вядры

нібы гуляючы — пласталася на агародзе, гатавала ежу, прала і мыла, глядзела малых, а малыя моцна сумавалі па маме і ўвесь час скуголілі. Дык тады Куліна прыдумала такі паратунак: з самага ранку, накарміўшы малых, вяла іх чародкай праз усю вёску на могілкі да мамкі. Сцяліла там покрыўку, кідала малым якіх галінак і чурачак гуляцца — а сама міталем дадому, рабіць справы. Увечары, як управіцца, бегла назад і забірала дзяцей.

Кажуць, сэрца рвалася глядзець на гэты дзіцячы ланцужок: зранку да мамкі на магілку, увечары — назад. Тады ўнорыцкія жанчыны напісалі мужу Тані, Пятру Рыгоравічу, на фронт: і пра Таню, і пра Куліну, і пра ланцужок. Вайна кацілася на захад, і прадзеда майго камісавалі ды адправілі дадому падымаць сірот. Прадзед прыехаў — і Куліна злягла, у яе без бачнай прычыны раптам адняліся ногі. Ляжала яна доўга, гадоў мо з восем, вышывала буйнымі рознакаляровымі кветкамі абрусы і ручнікі, а потым ціха памерла. Яе фатаграфічны,


Забілі кабана **(у цэнтры ў хустцы — баба Маруся).** 1970-я гады.

моцна адрэтушаваны партрэт заўсёды вісеў у хаце побач з партрэтам прабабкі Тані.

Бабуля мая, Маруся, працавала за Дняпром у Чорным аграномам. Неяк на танцах пазнаёмілася з маладым унорыцкім хлопцам, Паўлам Севярынцам, які ў свае дваццаць быў ужо без нагі, але з ордэнам. Нарачане ездзілі ў Чорнае на гулі, а потым лодкамі вярталіся дадому, дык узялі з сабой пракаціцца дзяўчат. Бабуля мая — тады, канечне, маладая дзяўчына — зайшла ў дзедаву хату, пабачыла гэтых ягоных малых братоў і сястрычак, абязножаную Куліну і разгубленага іхняга бацьку, зайшлася ў шкадаванні і пагадзілася выйсці за Паўла замуж. Яна так і казала ўсё жыццё: я не за дзеда вашага выходзіла, а за ягоную няшчасную сям'ю. Дзедавы браты-сёстры, параз'ехаўшыся потым па ўсім Саюзе ў пошуках долі, усё жыццё шанавалі нашу бабу Марусю як родную матку.


**На лавачцы,** 1970-я гады.

На пенсіі бабуля працавала паштальёнкай: вазіла пошту ў Чорнае і з Чорнага. Вядома, вазіла лодкай, а ўзімку хадзіла па лёдзе цераз Дняпро. Самае няпростае ў гэтай справе адбывалася ўвосень, калі чарняне пачыналі слаць пасылкамі сваім дзецям у горад яблыкі, грушы і гародніну. Тады даводзілася плаваць туды-сюды некалькі разоў, бо скрыні былі надта цяжкімі.

### Найгоршая ганьба

Я яшчэ заспела агульную вясковую працу — летні сенакос. На кожную гаспадарку, дзе была карова, размяркоўвалі ▸

так званую **пайку**, кавалак лугу, які можна выкасіць. Які дадуць табе кавалак, залежала ад колькасці здадзенага дзяржаве малака. Памятаю, як бабуля іншы раз перажывала: «Ты чуў, ты бачыў! Якую ж пайку далі! Адна асака!» Як толькі выходзіла на пагоду — уся вёска скіроўвалася на луг. Адцягнуць ці выйсці ў нейкі іншы дзень было нельга: перамыюць костачкі так, што год не адбрыкаешся. Людзей заўсёды было шмат, спецыяльна ехалі сыны-дочкі-ўнукі на дапамогу, бо, часцей за ўсё, управіцца трэба было як хутчэй, каб не папсаваў сена нечаканы дождж. З самай раніцы першага дня на луг ішлі мужчыны, каб па расе пакласці пракосы. На другі дзень рэй вялі жанчыны: грэбці і пераварочваць траву, каб хутчэй пасохла. Як пасохне — на пайкі высыпае ўся вёска: кладуць траву ў невялічкія копы, а ўвечары на луг заязджаюць вазы і трактары — везці сена дадому. Увесь апошні дзень луг звініць галасамі, пачынаюцца жарцікі, кпіны, рогат. Хто скончыў сваю пайку хутчэй — адразу пераходзіць да сваякоў, каб дапамагчы.



**Унорыцкія дзяўчаты**, 1970-я гады.

Памятаю, на першым сваім сенакосе я стала ў дзявочы ланцужок грэбці і пераварочваць траву. Іду па пракосе, махаю граблямі і думаю сама сабе: «Эх, якая я малайчынка! Не горшая за ўсіх! Няхай бачаць, сама гарадская — а якая хвацкая!» І на самым піку майго сенакоснага самалюбавання падбег да мяне мой дзядзька і ціхенька шапнуў на вуха: «Анька! Граблі перахапі! Хто ж іх так трымае? Во, адной рукой зверху, адной — знізу, а то зараз зганьбіш нас усіх!» Зганьбіцца на вачах усёй вёскі — найгоршае ў жыцці.

## Развітальны матыў

*Калі ў жыцці закончыцца патрэба,*
*І ў сэрцы адгрыміць апошні бой,*
*Па-над Дняпром, дзе вербы*
*лашчаць неба,*
*Хачу прычаліць вечны човен свой.*

*Апошні раз раса спатоліць смагу,*
*Укрыюць коўдрай травы-мурагі,*
*Паміж радні я ў жвір дняпроўскі лягу,*
*Які таптаў калісьці без тугі.*

*Каб мог я чуць і днём, і цёмнай ноччу,*
*Калі запаляць бакены агні,*
*Як калыханку вербы мне шапочуць,*
*У сон, дзе я мацую карані...*

*Кастусь Севярынец*

### Летапісы і летапісцы

Унорыца — вёска невялікая і для акадэмічнай гісторыі не надта цікавая. Ёй нават не цікавіліся немцы — іх тут ніколі не было, хіба толькі ездзілі праз Унорыцу па светлагорскай шашы з Азершчынскага гарнізона ў Глыбаўскі. Як толькі даведаюцца нарачане, што немцы будуць праязджаць праз вёску, выводзяць кароў і свіней — і бягом з худобай у блізкі лес. Немцы праедуць — тады вяртаюцца.



**Унорыцкія фацэты на аўтобусным прыпынку**, 1970-я гады.

**«Анька! Граблі перахапі! Хто ж іх так трымае?»**

З мірных унорыцкіх жыхароў ад нямецкай кулі загінуў толькі адзін. Неяк пачулі, што едуць немцы, кінуліся бегчы, а дзядзька Рыгор, што жыў у першай ад могілак хаце, заўпарціўся: што я са свайго двара буду бегаць, як

заяц! Матацыклы ўсё бліжэй, дык дзядзька залез пад лодку і ляжыць. А немцы едуць — і па баках пастрэльваюць з аўтаматаў. Нейкая адна такая куля прабіла лодку — і дзядзьку Рыгора забіла. Што ж тычыцца тых, хто з Унорыцы пайшоў на фронт, дык палегла на апошняй вайне ажно 37 чалавек. Для маленькай вёскі — вялікая страта.

У перапісе 1926 года яшчэ можна адшукаць звесткі пра нарачан, якія жылі не ў самой вёсцы, а ў пасёлку, што зваўся Амерыкай — крыху воддаль ад дарогі пабудавалі ладныя дамкі тыя хвацкія нарачане, што ездзілі на заробкі за акіян. Здаецца, усе

**Унорыца і Дняпро**, знятыя дронам з вышыні птушынага палёту.



нашыя «амерыканцы» ўрэшце вярнуліся дадому. Працавалі яны пераважна на аўтамабільных заводах і доўга расказвалі, што жывуць за акіянам нейкія небаракі: з раніцы як вылупяць вочы, як пабягуць на працу, так да ночы і працуюць. Ні табе рыбы налавіць, ні табе ў лес збегаць: і часу ў іх няма, і ракі з лесам таксама.

Абмінулі Унорыцу, на шчасце, і калектывізацыя, і высылкі, і рэпрэсіі. Калгаса тут ніколі не было — быў так званы «вучгас», вучэбная гаспадарка Рэчыцкага зааветтэхнікума. Таму не знойдзеш нашу вёску ў газетных справаздачах і сумных мартыралогах.

Ну, а больш за ўсё цяпер згадак пра Унорыцу — у мастацкай літаратуры. Сярод нарачан, апроч іншых цікавых людзей, шмат паэтаў і пісьменнікаў. Прозвішчы называць не буду. Ясна ж, з якім прозвішчам можна пайсці ў свет з Унорыцы. ◆

**Фоты з сямейнага архіва, архіваў Сяргея Севярынца, Уладзіміра Дворніка.**

**Вялікі і дружны род Севярынцаў** каля бацькоўскай і дзедаўскай хаты.

# Крохкія сімвалы дзяржаўнасці

**Статуснае сталовае шкло павінна заняць сваё месца ў «Нацыянальнай скарбніцы», перакананы доктар гісторыі Алесь Белы. А такая скарбніца, на ягоную думку, павінна ў Беларусі быць створаная.**

Амаль усё XX стагоддзе для Беларусі прайшло пад драматычным знакам стратаў. Людскіх і матэрыяльных рэсурсаў. Сімвалічных каштоўнасцяў, якія ўвасаблялі сувязь краіны з яе гістарычным мінулым. Гэта адбывалася і праз прамое знішчэнне знакавых артэфактаў пры пагромах панскіх маёнткаў і хрысціянскіх святыняў, і праз рабаванне нацыстамі, і праз санкцыянаваны самім кіраўніцтвам рэспублікі вываз культурных каштоўнасцяў БССР у «больш адукаваныя» саюзныя цэнтры — Маскву і Ленінград.

**Вялікі тоставы келіх.** Налібоцкая шкляная мануфактура Радзівілаў. Прыкладна 1740-я. Вышыня — 36,5 см, дыяметр падстаўкі — 18 см, дыяметр чашы — 15,5 см.

Сярод усіх катэгорый сімвалічна важных рэчаў хочацца асабліва адзначыць самую крохкую — сталовае шкло. У прыватнасці, тое, што свядома стваралася як маестатнае*, прэстыжнае, пакліканае засведчыць высокі статус не толькі канкрэтнай асобы (напрыклад, манарха), але і ўсёй дзяржавы, дынастыі, магдэбургскага горада, рамеснага цэха. З такіх кубкаў або шклянак, насамрэч, рэдка пілі — хіба толькі пры асабліва ўрачыстых нагодах, часам раз ці два за цэлае пакаленне. Або пры каралеўскім стале, неад'емнай часткай культуры і прыдворнага цырыманіялу якога яны былі.

Крохкасць шкла не перашкодзіла многім краінам захаваць такія сімвалы з-за іх выключнай важнасці. Часцей за ўсё яны дэманструюцца ў скарбніцах разам з агульнадзяржаўнымі, рэгіянальнымі або гарадскімі рарытэтамі. А для нас шкляныя экспанаты могуць служыць яскравай метафарай крохкасці культуры, яе безабароннасці перад варварствам.

## Літоўскі прыклад

Наша «сястра-супэрніца» ў змаганні за спадчыну ВКЛ, Літоўская Рэспубліка, таксама шмат чаго страціла ў мінулым стагоддзі. Але калі на пачатку XXI стагоддзя паўстаў амбіцыйны план аднаўлення ў Вільні Ніжняга замка, яго ініцыятарам было відавочна, што экспазіцыі Музея палаца вялікіх князёў трэба максімальна напоўніць статуснымі прадметамі, вартымі даўняй рэзідэнцыі літоўскай манархіі. У тым ліку і знакавымі ўзорамі сталовага шкла, хай нават на той момант іх у Літве і не было. Гэта ўсведамлялася як справа агульнадзяржаўнага прэстыжу.

Таму ў 2009 годзе ў мюнхенскім антыкварыяце *Gertrud Rudigier — Alte Kunst* Літва набыла шкляніцу невядомага саксонскага майстра вырабу 1703 года, гіпатэтычна шкляной майстэрні Гейдэльбаха. Гэта даволі высокі (26,7 см) цыліндрычны сасуд з шырокай ножкай і багатым дэкорам. У цэнтральнай частцы шкляніцы знаходзіцца маляўнічы складаны герб — кампазіцыя з польскага «Арла», літоўскай «Пагоні» і геральдычнага шчыта дынастыі Ветынаў. Над гербам знаходзіцца залатая карона, а вышэй — загалоўныя літары *F. A. R. P.* (*Fridericus Augustus Rex Poloniae* — лац. «Фрыдрых Аўгуст, кароль польскі»).

Такія ўзоры шкляных вырабаў былі вядомыя амаль адразу пасля 1697 года, ад часу абрання саксонскага курфюрста Фрыдрыха Аўгуста польскім каралём і вялікім князем літоўскім пад іменем Аўгуста II (гл. пра яго артыкул Кірыла

* Маестатны, маестатычны — старое слова, якое значыла «поўны годнасці і павагі; велічны, статусны».

Карлюка ў №5/2020 «Нашай гісторыі»). Саксонія была адным з галоўных еўрапейскіх цэнтраў вытворчасці мастацкага шкла, і ў недалёкай будучыні гэта дало магчымасць стварэння радзівілаўскіх шкляных мануфактур з запрошанымі саксонскімі майстрамі. У далейшым падобныя ўзоры шкла выпускаліся неаднаразова на ўсім працягу праўлення Саксонскай (Саскай) дынастыі ў Рэчы Паспалітай.

### Беларускія экспанаты

У беларускіх музеях на сёння ёсць сама меней адзін экспанат падобнага кшталту — **шклянка з тымі ж каралеўскімі ініцыяламі *F. A. R. P. E. S.*** (дзве апошнія літары азначаюць лацінскую тытулатуру саксонскага курфюрста — *Elector Saxoniae*) і аналагічным геральдычным сюжэтам. Яна экспануецца ў Мірскім замку, ілюструючы характэрную матэрыяльную культуру XVIII–XIX стагоддзяў. Праўда, шклянка гэтая непараўнальна меншых памераў і малюнак на ёй не такі дасканалы.

Яшчэ менш статуснасці ў **кілішкаў-ромераў** з зеленкаватага шкла, якія экспануюцца ў Гарадзенскім дзяржаўным гісторыка-археалагічным музеі. Паводле мясцовай легенды, гэта вырабы адной з гарадзенскіх мануфактур Антонія Тызенгаўза. Вядома, яны таксама каштоўныя экспанаты, але ў гэтым артыкуле ўсё ж гаворыцца пра іншы ўзровень сімвалічнасці, магнетызму.

У зборах Нацыянальнага гістарычнага музея ў Мінску таксама захоўваецца даволі рэпрэзентатыўны высокі (22 см) флет з празрыстага шкла. На ім пад каронай выгравіравана манаграма караля



ФОТА ІГАРА ЛОЖАЧНІКА

**Экспанат музея ў Мірскім замку — шклянка з гербамі Польшчы, ВКЛ і Саксоніі.** Вышыня — 9,8 см, дыяметр — 6,4 см. Выробленая ў Саксоніі ў пачатку XVIII стагоддзя. Празрыстае шкло, каляровыя эмалі, роспіс.

Аўгуста III — A3R (*Augustus 3 Rex*). Выраблены ён, падобна, на адной з мануфактур Рэчы Паспалітай у сярэдзіне XVIII стагоддзя і паходзіць з калекцыі колішняга Беларускага дзяржаўнага музея.

### Капіраваць — можна

У тым самым 2009 годзе, калі літоўскі Музей палаца вялікіх князёў набыў шкляніцу 1703 года, ён узбагаціўся яшчэ на адзін каштоўны экспанат — копію шкляного кубка, створанага ў канцы XV стагоддзя венецыянскімі майстрамі для вялікага князя Аляксандра Ягелончыка. Копію зрабілі на замову кіраўніцтва Ягелонскага ўніверсітэта, дзе захоўваецца арыгінал, у знак удзячнасці за колішнюю фундацыю Ягелонамі гэтай навучальнай установы. Экспанат тым больш каштоўны, што ягоны арыгінал, несумненна, прысутнічаў у самім замку ў канцы XV – пачатку XVI стагоддзяў. Яго трымаў у руках вялікі князь Аляксандр і, верагодна, ягоныя пераемнікі — Жыгімонт Стары і Жыгімонт Аўгуст.

Як бачым, немагчымасць набыць арыгінал не абавязкова з'яўляецца перашкодай для пабудовы якаснай музейнай калекцыі. Значна важней мець адпаведную пляцоўку-скарбніцу. І палітычную волю, каб напоўніць яе годнымі экспанатамі.

З падборам аналагічнай пляцоўкі ў Беларусі, з хоць часткова сувымернай энергетыкай, усё было б, праўда, не так проста. Нават калі б сёння раптам знайшліся сродкі і воля для набыцця экспанатаў. Тут ёсць пэўная аналогія з нядаўняй кампаніяй за перапахаванне ў Беларусі парэшткаў Кастуся Каліноўскага. Дзе ў нас можна было б размясціць такую гіпатэтычную скарбніцу, у якой не сорамна было б змясціць, напрыклад, Крыж Еўфрасінні Полацкай, калі б ён раптам знайшоўся? У гарадзенскіх замках? На Замкавай гары ў Навагрудку? У новым будынку Нацыянальнага гістарычнага музея?

Калі казаць пра Навагрудак, то менавіта з гэтым славутым ▶


MUSEUMS.BY

**Кілішкі тыпу «ромер» канца XVIII стагоддзя.** Гарадзенскі дзяржаўны гісторыка-археалагічны музей (Новы замак).




**Копія келіха вялікага князя Аляксандра.** Арыгінал датуецца канцом XV стагоддзя.

▶ горадам мае сувязь найбольш старажытны са звязаных з нашай зямлёй і гісторыяй славутых шкляных кубкаў — гэтак званы **Кубак Святой Ядзвігі**. Гэты ўнікальны артэфакт з выразанымі рэльефамі грыфона, ільва і дрэва жыцця быў знойдзены пры раскопках на Малым замку ў Навагрудку славутай экспедыцыяй пад кіраўніцтвам Фрыды Гурэвіч у 1950–1970-я гады.

На сёння ў свеце захавалася ўсяго каля 20 падобных кубкаў рознай ступені цэласці. Як правіла, яны маюць каля 14 см у дыяметры і такую ж вышыню, гэта значыць, іх аб'ём каля 2,15 літра. Тры з іх належалі кананізаванай пасля смерці сілезскай княгіні Ядзвізе (1174–1243). Адсюль і нямецкая назва гэтай серыі сасудаў — *Hedwigsglaser*. Паводле легенды, вада ў іх магла ператварацца ў віно.

Існуюць розныя версіі, як кубак мог трапіць у Наваградак. Уся партыя магла быць вывезена з Канстанцінопаля падчас II крыжовага паходу 1147–1149 гадоў, калі крыжакі двойчы рабавалі візантыйскую сталіцу, а потым развезлі дабро па Еўропе. Больш пачэснай для нас (хоць і менш верагоднай) з'яўляецца выказаная ўраджэнцам Навагрудчыны Мікалаем Нікалаевым думка, што гэта мог быць падарунак Міндоўгу (ад візантыйскага імператара?) з нагоды каранацыі 1253 года.

Усе аналагічныя кубкі раней захоўваліся або былі знойдзены пры раскопках у розных сталічных або кафедральных гарадах Еўропы: Уроцлаве, Кракаве, Брно, Гётынгене, Намюры і г. д. Вельмі прэстыжна, што да іх ліку адносіцца і наш Наваградак — гэта сведчыць пра выключную важнасць горада ў XII–XIII стагоддзях, пацвярджаючы версію пра яго сталічны статус у тагачасным Панямонні. Вядома, калі б такі кубак вярнуўся ў Беларусь, то ён мусіў бы лічыцца нацыянальнай рэліквіяй.

Дарэчы, у Еўропе на той момант такое шкло вырабляць яшчэ не ўмелі. Як мяркуецца, кубкі Святой Ядзвігі вырабляліся ў Егіпце або Сірыі, якія знаходзіліся тады на больш высокім узроўні тэхналагічнага і культурнага развіцця, чым хрысціянскі Захад. Але сімволіка малюнкаў на кубках хутчэй хрысціянская, так што іх маглі вырабляць і хрысціянізаваныя арабы ў дзяржавах крыжакоў. Або рамеснікі ў мусульманскіх краінах, свядома разлічваючы на плацежаздольных хрысціянскіх уладароў.

Шкада, што кубак быў адразу ж пасля знаходжання перададзены на захоўванне ў пецярбургскі Эрмітаж, паколькі самой Беларусі захоўваць такі скарб было «не па чыне».

### Крышталёвы «Іван»

Некаторыя кубкі-рэліквіі з нашай тэрыторыі на сёння лічацца страчанымі, але нават іх віртуальны вобраз, з улікам гістарычных акалічнасцяў, дазваляе лічыць іх нацыянальнымі каштоўнасцямі. Адпаведна, спадзявацца калі не на вяртанне,

### Саксонская эпоха

пакінула нам яшчэ адзін важны масіў мастацкіх артэфактаў — налібоцкае і ўрэцкае шкло. Яго стваралі на радзівілаўскіх мануфактурах майстры, запрошаныя з Саксоніі, якія з часам урасталі ў тутэйшую глебу і перадавалі сакрэты сваім мясцовым выхаванцам. Некаторыя з гэтых узораў таксама маюць выключнае значэнне — не толькі гістарычнае і мастацкае, але і сімвалічна-ўладнае. Гаворка перадусім пра некаторыя налібоцкія келіхі, якія сёння экспануюцца ў Каралеўскім замку ў Варшаве, падкрэсліваючы пераемнасць дзяржаўнай традыцыі сучаснай і каралеўскай Польшчы. Адзін з іх — вялікі тоставы келіх вышынёй ажно ў 36,5 см, прызначаны выключна для ўрачыстых тостаў самога манарха. Келіх мае тыя самыя ініцыялы і падбор гербаў і датуецца прыблізна 1740-мі гадамі.








**Кубак Святой Ядзвігі — таўстасценная пасудзіна з дымчатага шкла, дэкарыраваная разьбой і шліфоўкай.** На сценках выразаныя фігуры льва, грыфона і Дрэва Жыцця. Кубак Святой Ядзвігі з Наваградка быў знойдзены разбітым, некаторых яго частак не стае.

то, прынамсі, на стварэнне рэплікі або рэканструкцыі.

Больш за два стагоддзі ў Ружанскім палацы Сапегаў захоўваўся славуты кубак «Іван», выраблены з цэльнага кавалка горнага крышталю ў форме вазы, ёмістасцю 1 гарнец (каля 3 літраў). А таксама меншага памеру авальны кубак з таго ж матэрыялу, празваны «Іваніха».

Паводле падання, з гэтага кубка адзін з першых Сапегаў, падляшскі ваявода Іван, частаваў у Ружанах польскага караля і вялікага князя літоўскага Жыгімонта Старога. Гэта падаецца памылкай, бо ў часы Жыгімонта Старога Ружаны яшчэ знаходзіліся ва ўладанні Тышкевічаў. Магчыма, гэтая падзея мела месца ў іншым замку Сапегаў. Часам называецца і дакладная дата вырабу кубка — 1519 год. У такім разе летась яму споўнілася (або магло б споўніцца) 500 гадоў.

Таксама ёсць версія польскага краязнаўца родам з Ваўкавышчыны Вітольда Карпызы, што першым каралём, які наведаў Ружаны і піў з гэтага кубка, быў Жыгімонт III Ваза, а прымаў яго Ян Станіслаў Сапега (1589–1635). Празваны «Іванам» кубак быў менавіта ў гонар гэтага прадстаўніка роду (магчыма, яшчэ ягоным бацькам, славутым Львом Сапегам).

Дакладна вядома, што кубак захоўваўся ў Ружанскім палацы пазней. У студзені 1644 года па запрашэнні Казіміра Льва Сапегі тут гасцяваў кароль Уладзіслаў IV з жонкай Цэцыляй Рэнатай Аўстрыйскай. Адпіўшы віна з «Івана», кароль параіў гаспадару, каб каштоўную рэліквію схавалі ў спецыяльнай шафе (крэдэнсе) і выносілі толькі ў суправаджэнні прыдворных у парадных строях, пад гукі ўрачыстай музыкі і 100 гарматных стрэлаў.

У сярэдзіне XIX стагоддзя сляды славутага кубка згубіліся. Паводле адной з версій, ён быў канфіскаваны ў Сапегаў расійскімі ўладамі за ўдзел роду ў паўстанні 1863–1864 гадоў. На думку князя Яўстахія Сапегі, які чуў шмат сямейных паданняў і меркаванняў пра лёс рэліквіі, кубак таксама можа захоўвацца ў Эрмітажы. Тыя, хто яго вывозіў, маглі нават не ведаць пра гісторыю славутага «Івана». Для іх вялікі кубак быў каштоўным, але безыменным рарытэтам. І з часам ён мог проста згубіцца — калі не фізічна, то атрыбуцыйна. Калі б «Іван» знайшоўся і нейкім цудам быў вернуты ў Беларусь, ён таксама мог бы прэтэндаваць на статус значна большы, чым чыста фамільная рэліквія Сапегаў.

Дарэчы, сам Ружанскі палац у пэўны момант сваёй гісторыі, пасля захопу Вільні маскоўскім войскам у 1655 годзе, быў часовым месцам захавання часткі дзяржаўнага скарбу, архіва і некаторых дзяржаўных рэліквій ВКЛ, сярод якіх вылучаюцца сваім статусам парэшткі святога Казіміра. Так што і Ружаны разам з Наваградкам, Гародняй і, верагодна, сталічным Мінскам прэтэндуюць на ролю адной са статусных скарбніцаў дзяржаватворчай традыцыі, дома для каранаваных прывідаў... ◆

## Раструхан Астрожскіх

Адна з найбольш старых экзатычных пасудзін для пітва — гэтак званы «раструхан». Гэта вялікі і вытанчана дэкарыраваны келіх, найчасцей срэбраны, назва якога паходзіць ад турэцкага *tustahan* («міса»). У польскай і старабеларускай мовах яна скажона вымаўлялася як «раструхан», «дастухан» і да т. п. Як правіла, раструханам надавалі форму нейкай жывёлы: каня, аленя, ільва, страуса, арла — і выкарыстоўвалі на надзвычай урачыстых бяседах. Дазволіць сабе такую раскошу маглі толькі вельмі багатыя асобы. Ці не ўпершыню згадваецца гэтае дзіва ў рахунках стала Ядзвігі і Ягайлы (канец XIV стагоддзя), але сустракаецца яшчэ і ў XVII стагоддзі. Раструхан у форме павы, паказаны на фота, паходзіць з канца XVI стагоддзя і некалі належаў славутаму ў беларускай гісторыі роду князёў Астрожскіх.



# Што новага ў Львове?



SHUTTERSTOCK.COM, BY DROP OF LIGHT

**Калі вы, раз за разам бываючы ў Львове, не ведаеце, куды пайсці, акрамя «Крыіўкі», то гэты артыкул для вас. Пра новыя кавярні ды музеі, а таксама пра паляпшэнні ў інфраструктуры сталіцы Заходняй Украіны піша львавянін Андрэй Кусій.**

Многія беларусы ўжо наведвалі Львоў, а то і не аднойчы. Архітэктурная жамчужына Заходняй Украіны. Горад, абавязаны сваім ростам і росквітам прадстаўнікам розных культур: польскай, нямецкай, яўрэйскай, грэчаскай... Музейная Мекка, сталіца IT-тэхналогій, радзіма знанага калісьці аўтобуснага завода «ЛАЗ» і вытворцы тэлевізараў «Электрон».

Але я хачу больш апісаць сучасны горад. Той, што тут і цяпер. Як ён змяняецца і які ён. Перыяд зменаў давайце возьмем адносна нядаўні — з пачатку 2018 года. Бо нават за такі кароткі час з'явілася і знікла ў горадзе нямала.

## Другая «Раберня»

Пачнём з таго, чым Львоў вядомы большасці беларускіх турыстаў, — з гастраноміі.

Калі паважаны чытач ужо быў у слаўным Львове, ён, напэўна, ужо ведае «Крыіўку», «Капальню кавы», «Майстэрню шакаладу», «Мазох-кафэ»... Усе ўстановы належаць адной бізнэс-сетцы — холдынгу эмоцый *!Fest*. Пра большасць з іх мы ўжо пісалі ў артыкуле пра Львоў, надрукаваным у № 5/2018 «Нашай гісторыі».

Кіраўніцтва праекта — творчыя людзі. Яны не спыняюцца на дасягнутым і адкрываюць усё новыя месцы.

Напрыклад, з пачатку 2018 года каля маляўнічага парку «Узнясенне» («Знесіння») (непадалёк ад цэнтральнай часткі горада) запрацавала прастора пад назвай ***Fest Republic*** — спалучэнне некалькіх праектаў на месцы закінутага бутэлькавага завода «Галічшкло». У свой час гэта быў вядомы і магутны прамысловы аб'ект. Але з заняпадам прамысловасці ў 1990-я завод стаў непатрэбным. *!Fest* уклаў грошы ў рэвіталізацыю гэтай прасторы. Толькі замест шклянога прадпрыемства тут адкрылі клуб для фестываляў і вечарынак, крафтавую піваварню, друкарню і выдавецтва, прыватную школу, пякарню, сучасную сталоўку,

кравецкую майстэрню, а таксама ячшэ адну лакацыю рэстарана «**Раберня**». Таго самага, дзе смажаныя свіныя рэбры падаюць на драўляных дошчачках, а есці усё гэта трэба рукамі.

«Раберня» на *Fest Republic* — гэта другі рэстаран пасля больш вядомай «Раберні пад Арсеналам». Апошняя размяшчаецца пад Музеем зброі ў гістарычным цэнтры Львова. Але ў выхадныя дні і турыстычны сезон перад уваходам у гэтую «Раберню» стаіць даўжэзная чарга, так што варта праехаць (7–10 хвілін) альбо прайсці пешшу (40 хвілін) маляўнічым зялёным паркам да *Fest Republic* і не губляць час на чэргі.

Яшчэ на тэрыторыі гэтай «рэспублікі» робяць марожанае, ганчарныя вырабы, а таксама вырошчваюць агародніну, бо месца аддаленае ад загазаваных машынамі дарог.

### Grand Leopolis Restaurant

Аднак калі вы падумалі, што гісторыя холдынгу *!Fest* — суцэльны поспех, то паспяшаюся расчараваць: бывае, закрываюцца нават досыць паспяховыя ўстановы гэтай кампаніі. Напрыклад, у красавіку 2019 года закрыўся вядомы ці не кожнаму, хто хоць раз быў у Львове, рэстаран «Дом легендаў». Той самы, што з цмокам на фасадзе. І з машынай на даху. Можаце зірнуць на фота і пусціць слязу. Лакацыя зачынілася з-за непаразумення з уладальнікам будынка, у якім *!Fest* 10 гадоў арандаваў памяшканне і цешыў турыстаў рознымі цікавінкамі.

У апошнія два гады яшчэ дзве ўстановы кардынальна змяніліся: замест кавярні «Ратуша» ў галоўным будынку горада адкрылі кафэ ***Grand Leopolis Restaurant***. А замест рэстарана «Левы Бераг» у скляпеннях Львоўскай оперы адкрылі кактэйль-бар ***Opera Underground***. Абедзве мадэрнізаваныя лакацыі належаць усё таму ж холдынгу *!Fest*.

Але Львоў вядомы не толькі тэматычнымі кавярнямі. За апошняе дзесяцігоддзе тут адкрылася больш за 300 кампаній, якія распрацоўваюць, тэстуюць, удасканальваюць праграмнае забеспячэнне. Польскі прадпрымальнік (які жыве ва Украіне 10 гадоў) Рафал Шымански вырашыў спалучыць львоўскія традыцыі спажывання ежы з сучаснымі тэхналогіямі. Вынікам гэтага стаў мінулагодні стартап — ***AppFood***. Гэта мабільны дадатак, створаны для аднайменнага фастфуд-кафэ, дзе няма ні афіцыянтаў, ні касіраў. Заказ ажыццяўляецца выключна праз дадатак і аплачваецца анлайн. У дадатку паказаны час гатоўнасці замовы (звычайна да 4-х хвілін), якая падаецца на канвеер. Асартымент уключае супы, смажаныя крэветкі, бульбу фры, пончыкі, багеты, марожанае, смажаныя кавалачкі мяса. Гэткі «Макдональдс» па-львоўску.

### Прытулак для рэабілітацыі бурых мядзведзяў

Але разглядаць Львоў як сталіцу ежы — гэта як ацэньваць слана з пазіцыі мураша. Не толькі рэстаранамі вядомы слаўны горад. І не толькі IT-кампаніямі.

У першую чаргу людзьмі. Паколькі ў горадзе жыве шмат актывістаў і ініцыятараў грамадскіх зменаў, цалкам лагічна, што існуе шэраг сацыяльных праектаў, якія імкнуцца клапаціцца пра людзей, і не толькі пра людзей. Нямецкая арганізацыя *Four Paws* адкрыла пад Львовам прытулак для рэабілітацыі бурых мядзведзяў «**Дамажыр**». Сюды касалапыя трапляюць з цкавальных станцый або ў выніку выкупу іх у жорсткіх ці безадказных гаспадароў. Падчас візіту ў Львоў наведаць прытулак можа быць цудоўнай ідэяй. Знаходзіцца ён у сяле Жорныска Яварaўскага раёна, гэта 15 км ад Львова.

Яшчэ адзін падобны праект — «**Дом выратаваных жывёл**», які знаходзіцца практычна ў цэнтры горада (вул. Доўбуша, 24, каля будынка дырэкцыі парку «Узнясенне»).

У 2018 годзе жыхар Львова Арэст Заліпскі стварыў прытулак для жывёл, якіх выкінулі на вуліцу або якія мелі траўмы ці праблемы са здароўем і маглі памерці. Праз суполку ў Фэйсбуку неабыякавыя львавяне перадаюць корм і грошы для ўтрымання жывёл у «Доме». Сярод выратаваных — птушкі (гракі, сарока, фазаны, сава, дэкаратыўныя галубы, буслы), лясныя жывёлы (казуля, лісы, янот, янотападобныя сабакі, вавёрка), сабакі і каты, само сабой. Але, мабыць, найбольшую цікавасць у наведвальнікаў прытулку выклікаюць сябры — конік з аслом, якія заўсёды пасуцца разам. А таксама пара ваўкоў. У дзікую прыроду ▶




**Украіна выходзіць з каранціну асцярожна.** У львоўскіх кавярнях просяць трымаць сацыяльную дыстанцыю.




**Кавярня ў ратушы *Grand Cafe Leopolis*. *Leopolis*** — не што іншае, як лацінская назва Львова.




**Гэтак падаюць express кактэйлі ў скляпеннях** Львоўскай оперы — у кавярні *Opera Underground*.

іх не пускаюць, бо жывёлы з нараджэння знаходзіліся ў чатырох сценах — у Жытомірскім СІЗА — і амаль ручныя. Кожны дзень «Дом» працуе з 9 раніцы да 21 вечара, уваход вольны (але варта нешта пакінуць на корм жывёлам).

## Новыя музеі

Ну і як не згадаць нядаўна адкрытыя музеі, улічваючы, што Львоў славіцца багатай гісторыяй і культурнай спадчынай. Абмінаю ўвагай Львоўскі гістарычны музей з яго шматлікімі аддзеламі, а таксама Львоўскую мастацкую галерэю (якая кіруе ў тым ліку некалькімі маляўнічымі замкамі на тэрыторыі Львоўскай вобласці). Ніякім чынам не адмаўляю важнасці гэтых устаноў. Проста зноў жа акцэнтую ўвагу на навінках.

Адна з іх — **Музей цацак**. Ён займае памяшканне ў прыватнай кватэры (адразу за оперным тэатрам, вул. Гандлёвая (Торгова), 15), дзе сабрана больш за 2,5 тысячы экспанатаў: лялькі, машыны, мядзведзі, Дзяды Марозы і Снягуркі, святочныя паштоўкі, карнавальныя касцюмы, навагоднія цацкі. Найстарэйшым экспанатам каля 100 гадоў (лялькі 1930-х).

Грошы ад уваходных білетаў ідуць на аплату арэнды, а таксама на дапамогу дзецям-сіротам. Практычна ўсе наведвальнікі ў захапленні. Прычым не толькі дзеці. Нават людзі, якім за 80, калі бачаць цацкі свайго дзяцінства, адчуваюць настальгію і разумеюць, што дзяцінства — не столькі час, колькі стан душы.

Паралельна ў горадзе Льва адкрыўся інтэрактыўны музей, прысвечаны электрычнасці. Тэма стала зноў актуальнай для адукацыі ў святле распаўсюду электрамабіляў.




Від зверху на былы бутэлькавы завод, дзе цяпер размяшчаецца **культурніцкая прастора *Fest Republic*.**

А таксама ўлічваючы той факт, што ўсе элементы гарадской сістэмы электразабеспячэння дзейнічаюць да сёння (больш за 100 гадоў). **Музей гісторыі электрыфікацыі Львоўшчыны** і электрычнасці ў цэлым знаходзіцца не зусім у цэнтры горада, але і недалёка (вул. Мушака, 56; адкрыты па чацвяргах; наведаць можна і ў іншыя дні, але па папярэдняй дамоўленасці).

## 15% з больш чым 700-тысячнага насельніцтва Львова — студэнты

У музеі шмат экспанатаў. Акрамя фотаздымкаў і старых картаў горада, у калекцыі даваенныя лічыльнікі, засцерагальнікі, кабельныя лініі, квітанцыі аб аплаце, рэклама электратэхнічных тавараў. А таксама планіроўка вулічнага ліхтара 1909 года, шпулька *Tesla* для бесправаднога запальвання лямпаў, схема шахты як прамысловага спажыўца электраэнергіі (і параўнанне, наколькі прасцей стала здабываць вугаль пасля электрыфікацыі). Трамвай — копія першага электрычнага трамвая 1894 года, якім можна пакіраваць. А калі трамвай раптам вас не зацікавіць, ёсць плазменная лямпа, да якой можна дакрануцца і адчуць сябе Перуном, які рэгулюе маланкі ўнутры шклянога шара. У цэлым экспазіцыя пабудаваная такім



FACEBOOK.COM/APPFOOD.ONLINE

Львоўскае інтэрнэт-выданне 032.ua называе нядаўна адкрыты **AppFood «раем для інтравертаў».**

чынам, што выклікае захапленне і ў малога дзіцяці, якое нічога не ведае пра электраэнергію, і ў інжынера-энергетыка, які мае велізарныя веды пра яе.

У дадатак да аб'ектаў культуры, якія адкрыліся з нуля, назаву абноўленыя. Напрыклад, прыватны музей «Тэрыторыя тэрору» (праспект Чарнавола, 45) і філіял Львоўскага гістарычнага музея — «Чорная камяніца» (аднайменны гістарычны будынак на плошчы Рынак, 4).

**«Тэрыторыя тэрору»** абнаўляецца проста цяпер. Ставіцца інтэрактыўная экспазіцыя, дзе кожная музейная зала будзе мець форму жылых пакояў, гаспадарчых пабудоў, турэмных баракаў. І праз асабістыя ўспаміны ўдзельнікаў бурлівых падзей мінулага стагоддзя будзе падавацца інфармацыя пра трагічныя і гераічныя старонкі гісторыі горада. Таму калі прыедзеце ў Львоў наступны раз, пабачыце ▶


DYVYS.INFO

**З такімі цацкамі гуляліся савецкія дзеці.** Экспазіцыя Музея цацак у Львове.

шмат пра часы Першай і Другой сусветных войнаў, пра Львоўскае гета — найбуйнейшае на тэрыторыі былога СССР, пра Янаўскі лагер прымусовых работ, ну і пра побыт міжваеннага часу і двух савецкіх перыядаў (1939–1941 і 1944–1991).

## Беларусаў, якія прыязджаюць у Львоў цягніком, чакае прыемны сюрпрыз

**«Чорная камяніца»** знакамітая перш за ўсё сваім каляровым фасадам — цяпер адноўленым, а таксама тым, што гадамі ў ім функцыянаваў аддзел гісторыі Заходняй Украіны. Львоўскі гістарычны музей выйграў грант Пасольскага фонду ЗША на захаванне культурнай спадчыны. Сума гранту — 275 тысяч долараў. Планавалася, што музей дадасць яшчэ $27 тысяч, але падчас рамонту зрабілі шэраг незапланаваных работ, напрыклад, поўны рамонт даху замест частковага, ліквідацыю расколін у сценах; у выніку прапорцыі па грашах атрымаліся дзесьці 50/50. У лістападзе 2019-га рэстаўрацыя завяршылася. Так што музей чакае вас кожны дзень (акрамя серады) ад 10 раніцы да 5 вечара.



SHUTTERSTOCK.COM, BY IURII DZIVINSKYI

**Славутаму Леапольду фон Захер-Мазоху** таксама давялося перажыць каранцін.

### Што яшчэ новага?

Інфраструктура горада апошнім часам таксама мяняецца. Адзін з пазітыўных зрухаў — рэканструкцыя чыгуначнай станцыі. З вясны 2019-га і да канца мінулага года шмат пасажыраў нацярпелася ад нязручнасцяў, выкліканых закрыццём прывакзальнай плошчы. Затое звычайна гармідарная прастора рэзка змянілася. Павялічыліся памеры пешаходнай зоны, рух рэарганізаваны так, каб пазбегнуць затораў, пабудаваныя тратуары, пасаджаныя дрэвы ўздоўж алеі. Шмат беларусаў прыязджае ў Львоў якраз цягніком, таму новых наведвальнікаў чакае прыемны сюрпрыз.

### З улікам каранавіруса

Натуральна, што ва ўмовах пандэміі сёння атрымаецца трапіць не ва ўсе пералічаныя лакацыі. Нешта зачыненае на каранцін, нешта працуе ў змененым рэжыме.

Рэстараны і кавярні, якія маюць летнюю тэрасу (у тым ліку «Раберня» на *Fest Republic* і *Grand Cafe Leopolis*), адчыненыя, працуюць з выкананнем неабходных мер засцярогі — дзе-нідзе наведвальнікам нават бескантактна мераюць тэмпературу на ўваходзе. Калі такой тэрасы няма, як у *Opera Underground*, то працаваць да канца каранціну ўстанове нельга.




FACEBOOK.COM/ELECTROPOLIS.LVIV

Шмат гадоў энергічны даследчык Андрэй Крыжаноўскі шукаў у архівах важныя дакументы і інфармацыю. Музей гісторыі электрыфікацыі адкрыўся ў сакавіку 2018 года пры садзейнічанні Прыватнага акцыянернага таварыства «Львівобленерго». На фота — **украінскамоўная рэклама ліхтарыка *Daimon* (1930-я), адзін з экспанатаў музея.**

Працуе і *AppFood*, якому пайшло на карысць, што там няма кантакту наведвальніка з персаналам. Праўда, лакацыя пераехала з цэнтра і невядома, ці збіраецца вяртацца бліжэй да турыстаў.

Вельмі падобная на рэстаранную сітуацыя з наведваннем музеяў. Падчас каранціну засталіся адкрытымі толькі тыя з іх, што маюць экспазіцыі на вуліцы. Фактычна для наведвальнікаў працуюць толькі чатыры музеі: згаданы намі музей «Тэрыторыя тэрору», Лычакаўскія могілкі, Музей народнай архітэктуры і часткова Музей Івана Франка.

Але ўсе названыя намі лакацыі збіраюцца перажыць нялёгкі час і адчыніць свае дзверы, як толькі ўсё наладзіцца. Спадзяёмся, у іх гэта атрымаецца. ◆

# Таўканіца, крышаны, гарбузовая каша



ФОТА ГАННЫ КІСЛІЦЫНАЙ

**Доктарка філалагічных навук Ганна Кісліцына ўспамінае радасці дзяцінства, якое прайшло ў Драгічыне.**

Я перыядычна кажу, што паляшучка. І тады мае сябры і блізкія кпяць: «Мы ведаем і садок са школай, куды ты хадзіла, і дом у Мінску, дзе ты расла. Якое Палессе?» Не прызнаюць яны за мной гэта права — паляшучкай звацца. Затое я «сваіх» заўсёды пазнаю. Бывае, гаворыць чалавек нешта па-руску, а я пытаю: «А вы з-пад Брэста?» І чалавек вачыма лыпае: як здагадалася? Ну як-як: асаблівасці нашага маўлення непаравучальныя, ведаю, сама спрабавала! А вось ува мне паляшучку вызначылі толькі аднойчы і тое вельмі дзіўным чынам.

Было так. Доктарка ў гематалагічным аддзяленні параіла мне адвесці сына да шаптухі, якая тады працавала ў кабінеце ЛФК пры першай бальніцы. Шаптуха, жанчына ў гадах, пашаптала над сынам, а пасля папрасіла паклікаць мужа. «Калі ласка, — кажа яму сам-насам, — прыводзьце сына самі, бо побач з гэтымі палескімі ведзьмамі працаваць я не магу». Пры гэтым бабулька не ведала нават майго імя, не тое што ўсё астатняе. Я пасмяялася тады, а муж моцна напалохаўся і ніколі больш з маёй палескасці не кпіў.

### Бабіна лета

Аддана люблю невялікі горад Драгічын. Тут у агульнай магіле ляжыць мой дзед Канстанцін Кабаковіч, настаўнік, якога разам з вучнямі расстралялі незадоўга да мамінага нараджэння ў 1943 годзе немцы. Каля Драгічына, у прыгожай вёсцы Гутава, жыла яго жонка, мая бабуля Надзея Замкавец разам са сваім другім мужам і дзецьмі. Менавіта яна была побач са мной у першыя гады жыцця, бо мама мая яшчэ падчас цяжарнасці паступіла ў Маскоўскі літаратурны інстытут і неўзабаве паехала туды вучыцца, пакінуўшы мяне на руках у бабулі і свайго айчыма.

Таму гадавалася я практычна з нараджэння на каровіным ▸

малацэ, і, мяркуючы па фотаздымках, дзе стаю ўся круглая, у пераціжачках, як вараная кілбаса, шкоды яно дзецям не нясе. Мама была там наездамі, яна ўсё вучылася і вучылася, за яе плячыма былі журфак, літінстытут, аспірантура, абарона, таму, натуральна, усе летнія месяцы я жыла па бабулях. То ў сваёй, то ў драгічынскай — роднай сястры расстралянага дзеда, Ганны Луцэвіч, бабулі Ані, то ва Украіне, у бацькавай цёткі Харытыны (мая родная ўкраінская бабуля Ганна памерла зусім маладой яшчэ перад вайной у Львове).

Не дзіўна, што мая першая любімая кухня — заходнепалеская.

## Бабуля-грыбавар

Бабуля мая яшчэ пры Польшчы вывучылася ў пінскай вучэльні грыбавараў. Таму збіранне і прыгатаванне грыбоў было для яе самым лепшым, хоць і рэдкім адпачынкам. У яе быў неверагодна востры зрок, але вялікая вага. Таму па лесе яна ішла марудна, пасля ўсіх, нікуды не збочваючы, але набірала больш, чым усе мы разам. Ці трэба гаварыць, што яна ведала ўсе грыбы, усе іх назвы і што з імі рабіць?

Грыбы, дарэчы, на Палессі троху іншыя, чым на Міншчыне. Напрыклад, там шырока





**Маленькая паляшучка Ганна з мамай Алай Кабаковіч —** таксама літаратуразнаўцай, літаратурным крытыкам.

збіраюць *рэшэтяхы* (рашэтнікі), якія соляць з дубовым лісцем, а таксама *поддубнякі* (паддубнікі)*. Паддубнікі былі любімымі грыбамі бабулі, бо іх там было шмат увосень, якраз тады, калі ў яе з'яўляўся вольны час. Іх яна гатавала так: смажыла на смальцы з цыбуляй, каляндрай і кропам (ужо сухімі), залівала гарачымі ў паўлітровыя слоікі і закатвала ці закрывала звычайнымі пластыкавымі накрыўкамі. Роўныя шэрагі слоікаў стаялі без усякай лядоўні амаль да вясны, каб аднойчы іх адкрылі і вывернулі на гарачую, з парай бульбу. Водар ад іх стаяў неверагодны! Пахлі яны лесам нават больш, чым марынаваныя белыя ці маслякі, хоць сам па сабе свежы грыб не сказаць каб быў моцна духмяны.

## З маладым кропам

Наогул, на Палессі, як на мой погляд, вельмі адрозніваецца ежа па сезонах. Вось, напрыклад, **крышаны́**, летні суп, які елі, калі з'яўляўся малады кроп. Я яго абажала, бо ў ім было мала інгрэдыентаў, яго было можна зрабіць хутка і самастойна. Вада, морква, цыбуля, шмат бульбы, якую крышылі двойчы (спачатку ў чыгун, пасля ў талерцы лыжкай) і шмат-шмат кропу.

Калі пачыналася касьба, то бабуля адразала туды ж тонкі кавалачак ад *сцягна* — свінога кумпяка, які звычайна вісеў у каморы, прыкрыты белай палатнянай анучай. Елі крышаны і са смальцам, і са скібкай хлеба, намазанага смальцам. Крышаны былі лёгкім супам, які елі не толькі ў абед, але і цягам дня, напрыклад, раніцай, калі меркавалі, што ўдзень будзе цяжкая фізічная праца.

Летам было і шчаўё, і капуста, і грыбны суп з маладымі лісічкамі, а ўвосень маім фаварытам быў густы суп з сушанымі грыбамі, морквай, бульбай і груцай, які густа забельвалі смятанай. Дарэчы, у нашай сям'і забельвалі ўсе супы, акрамя хіба малочных, таму я і па сёння кладу смятану нават у талерку з мінестронэ ці томі-ям. Кажуць, са смятанай елі раней на Палессі і густы вішнёвы кісель.

## Пакуль мяса не аддзеліцца ад костак

У гаспадарцы было некалькі кароў, а таксама свінні, куры і гусі, якіх нельга было рэзаць да позняй восені, пакуль яны не падгадуюцца. Калі хто не ведае, скубці гуся ад пер'я — цяжкая праца, якую без досведу і спрыту не так проста зрабіць! І ўдвайне няпроста, калі ты тых гусей пас і ведаеш кожнага па характары і пер'і. Неяк прачытала

## Драгічынская товканыця

Адварваем падсоленую бульбу, таўчом яе, дадаём загадзя пасмажаныя скваркі з цыбуляй (або толькі смажаную цыбулю), перамешваем. Пасля складваем у форму ці на патэльню і запякаем у не празмерна гарачай духоўцы ці аэрагрылі, пакуль не ўтворыцца тонкая скарынка. Разразаем на кавалкі — і смачна есці!

* Важна ведаць! У 1980-я навукоўцы адкрылі, што паддубнікі есці нельга. Яны разбуральна ўздзейнічаюць на печань. Таму раней іх ужывалі масава, але цяпер перасталі.

ў Вікіпедыі, што Пятрусь Броўка ў дзяцінстве пасвіў гусей, і падумала, што і мне можна запраста дадаць такі ж факт у біяграфію!

Гуся бабуля скубла, абсмальвала, пасля рэзала на кавалкі, дадавала буйна рэзаную цыбулю, усё тыя ж сухую каляндру, кроп і лаўровы ліст і адпраўляла ў печ, дзе ўсё гэта прэла з ранку ажно да вечара, каб мяса, якое было цёмнага, амаль чорнага колеру, ажно адвальвалася ад костак. Калі раптам да бабулі прыязджалі госці летам, то яна клала кроп свежы, але не лісцікі, а ўсю расліну, адно што без кораня. Перад падачай на стол сцяблiны выкідаліся, але дух заставаўся неверагодны — густы і запамінальны. Я і дагэтуль не магу прайсці абыякава міма абскубаных і абсмаленых на адкрытым полымі тушак свойскіх гусей, так яны мне смачна пахнуць дзяцінствам.

> **З гусей рабілі і кішку: начынялі скуру ад шыі, на якой заставаўся тлушч**

З гусей рабілі і **кішку**: начынялі скуру ад шыі, на якой заставаўся тлушч, дзертай бульбай з цыбуляй, зашывалі і запякалі. Гэтак жа рабілі кішку і з грэчкай уперамешку з цыбуляй. Галоўнай фішкай тут быў водар гусінага смальцу і хрусткая скарыначка.

## З кіслым малаком

Я заўсёды любіла стравы простыя, таму сярод маіх фаварытаў была **товканыца**. Рабілі яе, натуральна, з тоўчанай варанай бульбы, у якую дабаўлялі смажаную цыбулю і скваркі. Усё гэта з горкай выкладалі на патэльню, рабілі лыжкай насечкі, як рыбіная луска, і ставілі ў печ на лёгкі дух, каб яна не перапякалася і верх быў цвёрдым, але не перасыхаў.

Елі яе рэзаную кавалкамі, якія захоўвалі цвёрдую форму і не развальваліся, і запівалі *кіслым малаком* альбо *сыроваткай*, якой шмат заставалася пасля тварагу. Тварог, дарэчы, елі не са смятанай, а з малаком. У падлеткавым узросце мяне, гарадскую жыхарку, гэта здзіўляла і нават чамусьці злавала, а цяпер я і сама так ем, у думках просячы прабачэння ў родных за тыя свае стэрэатыпы.

## Тазік салаты? Так і было!

Што цікава, сама бабуля любіла якраз гарадскія стравы. Аліўе, вінегрэт, піражкі з самымі рознымі начынкамі — ад павідла да рысу з вараным яйкам. Гатавала яна іх па звычайных рэцэптах, але ў неверагоднай колькасці. Калі я чую жарт пра тазік аліўе, то ўспрымаю гэта літаральна, бо ў халодны час у каморы можна было знайсці эмаліраваны таз з аліўе ці вінегрэтам, халоднымі, аж зубы ламіла. Звычка гатаваць многа тлумачылася тым, што ў бабулі было чацвёра дзяцей, якія рэгулярна наведваліся ў госці.

А летам гэты ж здаравенны тазік запаўняўся залацістымі піражкамі, якія я заўсёды разглядала з усіх бакоў, спрабуючы адгадаць, якая ў іх начынка. Бо піражкі былі аднолькавымі, а начынкі рознымі. Пахлі піражкі нерафінаваным алеем, які і цяпер, пры разуменні ўсёй яго шкоднасці, вельмі люблю.

А самымі прыгожымі стравамі былі для мяне **кашы з проса**. Летам гэта была вараная ў печы каша, у якую ў апошні момант перад прыгатаваннем убівалі яйкі і таксама ставілі на лёгкі дух, каб даходзіла. Каша была шчыльная, не рассыпалася, яе рэзалі ў чыгунку, і на кавалку былі ўзоры — жоўтага проса, бялка і жаўтка.

Самым важным у прыгатаванні проса, як ні смешна, з'яўляецца мыццё. Ваду з гэтых крупаў трэба зліваць разоў з дзесяць, каб яна не была горкай. А апошні раз крупу добра яшчэ і заліць кіпнем, які таксама трэба зліць. Каша гэтая была абсалютна нейтральнай па смаку, есці яе можна было з усім.

А з восені, калі выбіралі з гарбузоў семкі, пачыналі гатаваць гарбузовую прасяную кашу. Яна неверагодна яркага жоўтага колеру, салодкая, малочная — ну проста кавалак сонца ў халодны дзень! Я і зараз яе гатую, усё па тым жа рэцэпце, з цукрам і малаком, адно што цяпер магу дадаць карыцы ці ванілі, бо не люблю водар гарбуза і заўсёды яго прыхоўваю спецыямі. ◆



SHUTTERSTOCK.COM. BY OLGAALISA

ФОТА АНДРЭЯ ДЫНЬКО

# Гродзенская турма

# Дзвесце гадоў на адным месцы

**Няма ў горадзе над Нёманам больш трывалай установы, піша Андрэй Вашкевіч. Яна ніколі не пуставала.**

Звесткі пра першыя турмы на тэрыторыі Гродна адносяцца да XVI стагоддзя. Самая першая знаходзілася пад уязной вежай Старога замка. Тут утрымліваліся шляхцічы, асуджаныя княжацкім або замкавым судом.

Гарадская турма, у сваю чаргу, размяшчалася ў ратушы на гарадскім Рынку.

У Рэчы Паспалітай зняволенне не было асноўным метадам пакарання. Артыкулы Статута Вялікага Княства Літоўскага 1588 года, якія прадугледжвалі турэмныя тэрміны, адносна нешматлікія. У турму звычайна садзілі толькі на час следства.

А тое, што стане ў будучыні турмой, будавалася зусім для іншага.

У XVII стагоддзі езуіты выкупілі цэлы квартал горада ў межах вуліц Рэзніцкая (цяпер Кірава) — Калючынская — Гараднічанская — Брыгіцкая (цяпер Карла Маркса) і пачалі будаваць сваю навучальную ўстанову — калегіум. Самыя старыя будынкі калегіума ўзведзеныя ў 1680-я гады і захаваліся да сёння. А пасля забароны ордэна езуітаў у 1773 годзе гэтыя будынкі адышлі часткова да Рыма-каталіцкай царквы, а часткова — гарадскім службам. У іх пасля і размясцілі турму.

### Турэмны замак

У 1795 годзе беларускія землі адышлі да Расіі. Першае дзесяцігоддзе XIX стагоддзя гарадская турма па-ранейшаму размяшчалася ў ратушы. У той вязніцы было толькі 4 пакоі, адзін з якіх выкарыстоўваўся аховай. І толькі пасля вайны 1812 года паводле тыпавога

праекта, складзенага ў 1811-м, у Гродне было распачата будаўніцтва «турэмнага замка». Ён быў дабудаваны і пачаў функцыянаваць у 1820 годзе, заняўшы тэрыторыю былых езуіцкіх агародаў. Самі будынкі калегіума тады яшчэ турме не належалі.

З боку вуліцы Калючынскай за сцяной знаходзіўся будынак-брама, дзе размяшчаліся пакоі варты, бальніца, а на другім паверсе — камеры для дваран. У асноўным будынку, так званай «турэмнай казарме», былі камеры для простага люду — досыць вялікія, асобныя для мужчын і жанчын. На другім паверсе гэтага будынка былі тры «сакрэтныя» камеры для асабліва небяспечных злачынцаў. Пазней там будуць трымаць палітычных вязняў. На тэрыторыі «турэмнага замка» таксама знаходзіліся агульныя прыбіральні, калодзеж, цэйхгаўз, бальніцы для мужчын і жанчын і асвечаная ў 1820-х гадах капліца Святога Пятра ў кайданах.

### Наглядчыкі

Ахову турмаў у Расійскай імперыі першапачаткова несла так званая ўнутраная варта або гарнізонныя часці расійскай арміі. Пачынаючы з сярэдзіны XIX стагоддзя пачала фарміравацца асобная служба. Па дакументах відаць, што ахвотна браліся на службу асобы праваслаўнага веравызнання, якія прайшлі службу ў войску. Трэба было прынесці прысягу і падпісаць своеасаблівы кантракт тэрмінам на два гады. Існавала свая ўзнагародная сістэма. У часы Аляксандра III і Мікалая II выдаваўся нават медаль «За бездакорную службу ў турэмнай варце».
З 1890-х гадоў работнікі турэмнага ведамства адносіліся да міністэрства юстыцыі, таму хоць іхняя форма і нагадвала форму паліцыі, але ўсе канты і выпушкі былі сіняга колеру (у гарадавых — чырвонага). Кожны работнік турмы, выходзячы на працу, атрымліваў спецыяльны жэтон і толькі з ім меў права знаходзіцца ў турме. На жэтоне былі выбітыя так званы «слуп закона» (сімвал міністэрства юстыцыі) і назва турмы.

## Дарога на Сібір

Першапачаткова гродзенская турма, як і большасць турмаў на захадзе і ў цэнтры Расійскай імперыі, планавалася як перасыльная. У ёй не павінны былі доўга трымаць зняволеных, бо амаль усіх у выніку чакала Сібір. Жыхары горада часцяком назіралі працэсію вязняў, закаваных у ручныя альбо нажныя кайданы. Для гэтых мэтаў у турме працавала адмысловая кузня: каваль раскоўваў вязняў на ноч, каб пасля зноў закаваць і адправіць далей.

На катаржнікаў, якія выпраўляліся ў цяжкую слёзную дарогу за Урал, апранаўся так званы турэмны халат. Шылі яго з сукна рознай якасці. Ужо на этапе на спіну на гэты халат нашываўся бубновы туз чырвонага, чорнага або жоўтага колеру, паколькі гэты знак быў добрай мішэнню для стральбы салдатам канвою падчас уцёкаў. На галаве катаржнікі насілі ці традыцыйную бесказырку, ці больш арыгінальныя цёплыя шапкі.

## Сімвал царскай улады

Аднак вельмі хутка, літаральна праз некалькі гадоў пасля паўстання 1830–1831 гадоў, гродзенская турма становіцца нечым большым, чым проста перасыльным пунктам на дарозе ў Сібір. Яна робіцца сімвалам і напамінам. Пачынаючы з паўстання 1830–1831 гадоў і асабліва з моманту, калі ў турме знаходзіцца павешаны ў 1833-м на загад Міхаіла Мураўёва, тады гродзенскага губернатара, паўстанец Міхал Валовіч, турма пачынае выконваць самую галоўную функцыю — нагадваць кожнаму жыхару губернскага Гродна, што любы пратэст супраць царскага самаўладдзя смяротна небяспечны.

### Міхал Валовіч

(1806–1833) — рэвалюцыянер, сацыяліст-утапіст. У 1822–1825 гадах вучыўся ў Віленскім універсітэце, быў блізкі да таварыстваў філаматаў і філарэтаў. Удзельнічаў у паўстанні 1830–1831 гадоў, пасля яго паражэння эміграваў у Францыю. Прытрымліваўся радыкальных поглядаў на шляхі сацыяльнай перабудовы грамадства. Выступаў за ліквідацыю буйнога памешчыцкага землеўладання, скасаванне прыгону і бязвыплатную перадачу зямлі сялянам у калектыўную ўласнасць. У 1833 годзе перайшоў з атрадам аднадумцаў на тэрыторыю Расійскай імперыі, каб узняць сялянскае паўстанне, дзейнічаў на тэрыторыі Слонімшчыны і Гродзеншчыны. Схоплены расійскімі ўладамі і павешаны.

У час паўстання 1863–1864 гадоў зняволеных стала так шмат, што турэмнае ведамства спачатку арандавала, а пасля забрала сабе будынкі былога езуіцкага калегіума. Там размяшчалася вайскова-следчая камісія і былі змешчаныя ўдзельнікі паўстання, колькасць якіх адначасова даходзіла да пяцісот. У былых келлях езуітаў дошкамі або цэглай заклалі да сярэдзіны вокны, і на гэтым прыстасаванне езуіцкай бурсы пад турму скончылася. Двойчы з тэрыторыі турмы выходзілі канвоі з асуджанымі на расстрэл удзельнікамі паўстання. ▸

## «Невыносны смурод»

Захавалася апісанне турмы, пакінутае Фантэск'ю Андэрсанам, англійскім пастарам і настаўнікам, які, абвінавачаны ў сувязі з паўстанцамі, правёў некалькі дзён у ёй летам 1863 года: «Калі я зайшоў у камеру, мае органы пачуццяў былі атакаваныя самым невыносным смуродам ад нечыстотаў, якія пакінуў пасля сябе папярэдні зняволены.

Пачалі апускацца вечаровыя цені, і тое слабое святло, што яшчэ заставалася, ледзь трапляла ў маю камеру; бо ў камеры было толькі адно акно, вельмі высока ад падлогі, і ягоная ніжняя частка была закладзена цэглай, а верхняя забітая дошкамі. Па сутнасці, толькі праз шчыліны ў некаторых з верхніх дошак можна было ўгледзець трохі блакітнага неба, ды і тое з цяжкасцямі, нават удзень.

Правёўшы ў адзіноце каля дзвюх гадзін, я пачуў, як адмыкаюць краты і мае дзверы, і ўбачыў іншага казака з брудным служкам, які паставіў на стол маю вячэру. Яна складалася з кавалка грубага хлеба і місы рэдкай і вельмі тлустай кашы, ад якой ішоў вельмі непрыемны пах».

Праз гродзенскую турму ў XIX стагоддзі прайшлі многія заслужаныя людзі. Тут пабывалі будучы знакаміты фізік Жыгімонт Урублеўскі, лекар Аляксандр Акінчыц, першы муж Элізы Ажэшка Пятро Ажэшка, будучы парыжскі фатограф Пятро Шумаў, тры разы праходзіў з этапам мала каму тады вядомы сацыяліст Фелікс Дзяржынскі...

А яшчэ ўжо праз год пасля падаўлення паўстання тут апынуўся вядомы мастак Напалеон Орда, які пакінуў унікальныя малюнкі, напісаныя проста ў двары няіснага цяпер турэмнага замка. Праўда, сам будынак турэмнай казармы ён намаляваў толькі часткова (відаць ягоны кут з прыступкамі), аднак двухпавярховыя вароты, сцяна, калодзеж і цэйхгаўз прапісаныя ў яго вельмі добра.

**Асуджаных за не вельмі цяжкія злачынствы выпускалі за муры турмы, каб яны збіралі міласціну**

## І супу з блёкатам

Трагічныя гісторыі вязняў, як гэта звычайна бывае ў жыцці, перамяжоўваліся з камічнымі. Напрыклад, уцёкі з турмы планаваліся вельмі па-рознаму. Аднойчы зняволеныя пакармілі ахоўнікаў супам з... блёкатам, увагнаўшы іх у наркатычны сон. А яшчэ старая, пачатку ХХ стагоддзя, «Наша Ніва» пісала, што асуджаныя ўцякалі па вяроўцы з прасцінаў, разламаўшы перад тым аконныя краты. Дзе былі ў гэты час ахоўнікі, невядома.

Увогуле, да сярэдзіны XIX стагоддзя турма рабіла дзіўнае ўражанне. Асуджаныя за не вельмі цяжкія злачынствы асобы хадзілі па яе тэрыторыі і нават





Камера XIX стагоддзя для ўтрымання катаржніка-паўстанца, а таксама прылады для кляймення.





Фоты Андрэя Вашкевіча



**Гродзенская турма на малюнку Напалеона Орды 1860-х гадоў.** Пакоі былога калегіума езуітаў пераўтвораныя ў камеры, вокны да паловы закладзены цэглай.

## Валянцін Таўлай. Мінуў астрожны дзень

### Вечар

Апаў паволі цень,
Паволі гоман сціх:
Мінуў астрожны дзень,
Як многа дзён другіх.

Вячэраць я не мог,
Вячэра — слоў шкада:
Казалі, што гарох,
Далі — адна вада.

Пасля прыйшлі жадаць
Спакойнае начы:
Лічыць і замыкаць
На ўсе замкі, ключы.

Мінуў астрожны дзень,
Як многа дзён другіх,
А колькі ж праміне
Яшчэ дзянькоў такіх?

*Гродна, астрог,*
*3 снежня 1929 года*

выпускаліся за муры, каб збіраць міласціну, бо за дзяржаўныя грошы выжыць было проста немагчыма.

Асноўным прадуктам для вязняў цягам XIX стагоддзя быў хлеб. Дзённая норма — два з паловай фунты (фунт — 400 грам). Цікава, што грошы да 1838 года выдаваліся на рукі, ежа куплялася праз падрадчыкаў індывідуальна, і толькі пазней прыйшла цэнтралізацыя. Калі вязень атрымліваў 12 капеек, то 9 ішло на хлеб, а рэшта на «прыварак»: капусту, буракі, бульбу, селядзец і г. д.

У турме таксама доўгія гады заставалася вакантнай пасада ка́та, які мусіў выконваць цялесныя пакаранні вязняў. Ката, як правіла, наймалі з ліку зняволеных. Ён жыў у асобным дамку на тэрыторыі турмы, значна лепш харчаваўся ▸

## Тарашкевіч перакладаў «Іліяду», а Пестрак вучыў эсперанта

Пасля таго, як Гродзеншчына адышла да Польшчы, раптам горад на Нёмане сам стаў своеасаблівай Сібір'ю. Вязняў далей ужо не было куды адпраўляць, таму ў міжваеннай гродзенскай турме часам сядзела максімальная колькасць вязняў — да 1 000 чалавек адначасова. Прыкладна 25–30% складалі палітычныя зняволеныя — галоўным чынам беларусы, яўрэі і трохі літоўцаў.

У першай палове 1920-х гадоў гэта былі пераважна беларуска-літоўскія партызаны з паўночных ваколіц Гродна, а пазней палітычную частку турэмнага «кантынгенту» збольшага складалі яўрэйскія ды беларускія камуністы. Тут варта згадаць хоць бы знакамітых паэтаў Валянціна Таўлая і Піліпа Пестрака, а таксама лідара Беларускай сялянска-работніцкай грамады Браніслава Тарашкевіча. Тарашкевіч быў чалавекам вельмі вядомым, але не карыстаўся ніякімі льготамі, паўтара года прасядзеўшы ў адзіночнай камеры № 45. Камера была вільготнай і даволі цёмнай, але Тарашкевіч працягваў навуковую працу, чытаў газеты і часопісы, займаўся перакладам на беларускую мову «Іліяды» Гамера. А вось Таўлай і Пестрак былі звычайнымі «вывратоўцамі» — так па-польску называлі «антыдзяржаўных дзеячаў», — таму ім было горш. Турэмны клімат пагражаў сухотамі, кармілі слаба.

Меню было наступнае: цыкорыя замест кавы, хлеб (400 г штораніцы) і розныя супы з капусты, буракоў, гароху з дадаткам сала і нейкіх прыпраў. Гэта, аднак, не перашкаджала Пестраку вывучаць мову эсперанта. У выдадзеным у 1930-я гады даведніку польскіх эсперантыстаў нават ёсць запіс «Піліп Пестрак» і пададзены ягоны адрас для перапіскі: «Гродна, турма».

і апранаўся. Аднак яго страшэнна ненавідзелі зняволеныя, а таму ахвотныя заняць гэтую пасаду знаходзіліся рэдка. Больш за тое, біццё зняволеных бізуном (а гэта была асноўная «праца» ката) патрабавала пэўнага прафесіяналізму: удары можна было наносіць не занадта моцна, а можна было некалькімі ўдарамі забіць чалавека. Часта таксама выкарыстоўваліся пакаранні калодкамі або дыбай. Вялікую цікавасць выклікае працэс «кляймення». Фактычна ў нашым разуменні гэта было татуіраванне чалавека знакам «ВОР», якое праводзіў турэмны лекар.

### Месінг і Каханоўскі

1 верасня 1939 года на горад упалі першыя нямецкія бомбы. Адна з іх трапіла ў двор турмы, забіўшы і параніўшы некалькіх наглядчыкаў. 17 верасня 1939 года турэмная варта пакінула свае працоўныя месцы, а зняволеныя выйшлі на волю. Пасля казалі, што дзівакаваты Піліп Пестрак нібыта




**Густаў Херлінг-Грудзінскі** — вядомы польскі пісьменнік, які прайшоў праз гродзенскую турму ў 1940 годзе.

так прывык да сваёй камеры, што нават пасля вызвалення, ужо будучы фактычна савецкім чыноўнікам, некаторы час хадзіў у турму начаваць. Праўда, месца там было нядоўга, бо савецкія ўлады хутка напоўнілі турму сваімі ворагамі.

Кароткі час тут сядзеў нават вядомы артыст-ілюзіяніст яўрэйскага паходжання Вольф Месінг: гэта было ў 1940 годзе, калі ён ратаваўся ад нацыстаў уцёкамі ў СССР. Казалі, што менавіта ў Гродне Месінг прадэманстраваў свае здольнасці супрацоўнікам НКВД, пасля чаго адразу быў накіраваны ў Маскву.

У чэрвені 1941-га зняволеным турмы пашанцавала. На яе тэрыторыю зноў упалі нямецкія бомбы, разбурыўшы частку калегіума, аднак зняволеных не паспелі ні эвакуіраваць, ні расстраляць, як гэта было ў некаторых іншых беларускіх турмах. Немцы выпусцілі з турмы большасць палітычных зняволеных. Праўда, праз год яны ж пачалі ізноў вяртаць прадстаўнікоў гродзенскай інтэлігенцыі ў тыя самыя камеры.

**За спробу ўцёкаў у 1982 годзе пяць чалавек расстралялі**



**Камуністы — вязні гродзенскай турмы** пасля вызвалення ў 1939 годзе. У цэнтры — паэт Піліп Пестрак.

### «Чырвоная» турма

Перыяд пасля Другой сусветнай вайны ў гісторыі турмы дасюль нікім толкам не апісаны. Вядома, што гродзенская турма ў СССР традыцыйна лічылася «чырвонай», дзе рэй вялі не зладзеі ў законе, а турэмная адміністрацыя. Сюды «на перавыхаванне» прысылалі закаранелых рэцыдывістаў.

У 1982 годзе была апошняя на сённяшні момант спроба ўцёкаў з турмы, і яна мела трагічныя наступствы. Некалькі рэцыдывістаў задушылі аднаго ахоўніка і цяжка паранілі другога, вырваліся з турэмнага корпуса і кінуліся да сцяны. Сітуацыю выратаваў яшчэ адзін ахоўнік, які, дарэчы, па месцы працы раней характарызаваўся вельмі адмоўна.

## Самаахвярнасць заснавальніка гродзенскага заапарку

Заснавальнік заапарку Ян Каханоўскі прасядзеў у гродзенскай турме з верасня 1940-га па чэрвень 1941-га па падазрэнні ў антысавецкай дзейнасці, а ў кастрычніку 1941-га быў арыштаваны ўжо немцамі як закладнік за забітага студэнтам Вітольдам Матушэўскім нямецкага паліцыянта. Каханоўскага павінны былі выпусціць з турмы, але ён папрасіўся аддаць сваё жыццё за знаёмага настаўніка Юзафа Вевюрскага і быў расстраляны на форце №2 гродзенскай крэпасці.


**Вуліца Калючынская** ў 1950-х.

Ён не разгубіўся і пачаў страляць па зэках, параніўшы некалькіх з іх.

За турэмную сцяну ўдалося вырвацца толькі дваім зняволеным, якія з высокай сцяны скочылі на дах тралейбуса, што праязджаў па вуліцы Кірава. Аднаго з іх адразу схапілі вайскоўцы, якія выходзілі з кінатэатра «Гродна», а вось другога злавілі толькі праз некалькі дзён. Суд прысудзіў пяцёх удзельнікаў уцёкаў да найвышэйшай меры пакарання — расстрэлу.

Сёння гродзенская турма — адна з дзвюх «крытых» (гэта значыць у якіх адбываюць пакаранне замест калоніі) турмаў Беларусі. Колькі тут знаходзіцца вязняў — службовая таямніца. Асуджаныя на шматгадовыя тэрміны злачынцы сядзяць у карпусах былога калегіума езуітаў, а тыя, чые справы знаходзяцца ў судзе, — у пабудаваным у канцы XIX стагоддзя «корпусе адзіночнага ўтрымання».

### Гатэль замест турмы: пакуль у марах

І гродзенцы, і ўлады добра разумеюць, што знаходжанне велізарнай турмы ў самым турыстычным цэнтры горада эканамічна не апраўданае. Яшчэ ў 2007-м абласныя ўлады звярталіся да тагачаснага прэм’ера Беларусі Сяргея Сідорскага з просьбай да 2011 года збудаваць новую турму і вызваліць былы езуіцкі калегіум для турыстаў або якой установы. Маўляў, знаходзяцца ж карпусы Полацкага ўніверсітэта ў езуіцкім калегіуме часоў Баторыя! Аднак ініцыятыва засталася без адказу.

У мінулым годзе чарговую надзею падаў гродзенскі прадпрымальнік Станіслаў Сямашка, які акурат разбудоўвае насупраць турмы чарговую сваю гасцініцу. У інтэрв’ю «Нашай Ніве» Сямашка сказаў: «У цэнтры Гродна стаіць вялікая турма. У ідэале я б хацеў пабудаваць новую турму, сучасную. А ў гэтай знесці сцены і зрабіць музей... Турыст туды адразу пойдзе. Можа быць, гатэль таксама адкрыць: там не нумар будзе, а “хата”!»

Што ж, тут можна толькі пажадаць поспеху. Вельмі хацелася б дажыць да таго часу, калі шматгадовы сімвал нядолі саступіць месца гатэльным нумарам з пахам свежай кавы. ◆

**Прыбіральня-«славойка»**
на міжваенным Палессі.

# «Ты ўжо, чытач, мне выбачай!»

## Як беларусы да ветру хадзілі ў старыя добрыя часы

**Кандыдат філалагічных навук Анатоль Трафімчык закранае незвычайную тэму — гісторыю... туалетаў.**

Можна сказаць, што кухня і прыбіральня — гэта альфа і амега чалавечага жыцця. Аднак прыбіральні, у адрозненне ад кухні, даследчыкі прысвячаюць мала ўвагі. Гэта тэма негалосна табуяваная, хоць наяўнасць ці адсутнасць праблем у гэтым «кабінеціку» — адзін з найважнейшых паказчыкаў здароўя. Як у старым вершыку, аўтарства якога часта прыпісваюць класіку расійскай літаратуры Аляксандру Пушкіну:

Кто каждодневно поутру
Идёт на двор без принужденья —
Тому всё в жизни по нутру,
Ему доступны наслажденья!

Працэсы, якія адбываюцца ў названым «кабінеціку», у розных народаў могуць мець адрозненні і асаблівасці. І ў беларусаў таксама існуе свая гісторыя прыбіральняў і адпаведнай культуры, з імі звязанай.

### Суткі — гэта не толькі 24 гадзіны

Пра даўнія часы да нас дайшло звестак няшмат. Спраўленне натуральных патрэб — занадта далікатная сфера, каб шырока адлюстроўвацца ў дакументах. Але паколькі лад штодзённага жыцця нашых продкаў пачаў прынцыпова змяняцца толькі ў XX стагоддзі, то можна меркаваць, што цягам цэлых папярэдніх стагоддзяў практыкі тут не нашмат адрозніваліся ад тых, якія заспела яшчэ нават старэйшае пакаленне сённяшніх беларусаў.

Адлюстравалася гэта нават у мове. І сёння, бывае, мужчыны пасля пэўных дзеянняў па аблягчэнні арганізму кажуць, што схадзілі «да ветру». Этымалогія выразу простая, паколькі малую патрэбу звычайна спраўлялі за вуглом будынка, дзе магло быць ветрана. Калі ж турбавала патрэба больш сур'ёзная, то часцей за ўсё бегалі за хлеў.

Бывалі гаспадары да смешнага ашчадныя і практычныя. Ведаючы, што чалавечы арганізм выпрацоўвае вельмі добрае ўгнаенне, яны мэтанакіравана спраўлялі патрэбу на сваім полі. Аўтару гэтых радкоў даводзілася нават чуць гісторыі пра землякоў, якія, знаходзячыся ў дарозе, адмыслова трывалі, каб узбагаціць спажыўнымі рэчывамі свой надзел.

## З «датуалетных» часоў у беларускай мове застаўся выраз «пайсці на двор»

### «Што стандартная шпакоўня? Даўно ўжо збрыдзела! Шаблон!»

Драўляным прыбіральням-«шпакоўням» і спробам эксперыментаваць з іх знешнім выглядам прысвяціў кавалак сваёй знакамітай сатырычнай паэмы «Сказ пра Лысую Гару» Ніл Гілевіч. Героямі яе сталі беларускія пісьменнікі, якія намагаюцца выгодна ўладкаваць свой побыт на атрыманых ад дзяржавы дачных участках:

Тым часам творцы зразумелі,
Што ў паэтэсы выйгрыш ёсць,
І пачалі шпакоўні-келлі
На ўласных сотках ставіць скрозь.

Паколькі ўсе былі маэстры
І тэарэтыкі былі —
Пра адпаведнасць формы зместу
Не дбаць пры гэтым не маглі.

І кожны мучыўся маральна,
Часова ходзячы за куст:
Якой па форме прыбіральня
Павінна быць, каб чуўся густ?

Каб не пароў у вочы ўсякі,
Каму надарыцца зірнуць:
«Ну, вось — сучасныя пісакі,
А ад жыцця, бач, адстаюць!»

Бо што стандартная шпакоўня?
Даўно ўжо збрыдзела! Шаблон!
Ці ў ёй падумаеш спакойна
Над віратлівым бегам дзён?

Не, тут стандарт — не суцяшэнне.
Нялёгка, як ты ні круці,
Архітэктурнае рашэнне
Такой будыніны знайсці!

Ды ўсіх абставіў Сіла Гусеў:
Зрабіў кабіну — будзь здароў!
Пачырванець ажно прымусіў
Прафесароў і дактароў.

Ён форму ўзяў для туалета —
Што аж зайздросна паглядзець:
Як ёсць касмічная ракета,
Вось-вось гатовая ўзляцець!

І гэтай формы сэнс быў ясны:
Заходзь, садзіся і ўключай!
Ну, а ці быў там змест сучасны —
Ты ўжо, чытач, мне выбачай!

Альтэрнатывай паходам за хлеў былі суткі, сутачкі. Гэта вузкі праход між хатамі, хлявамі, дзе яны «сутыкаюцца». Некалі вёска будавалася вельмі шчыльна, і суседзі маглі размяшчацца практычна сцяна да сцяны. Адлегласць паміж хатамі не перавышала двух-трох метраў. Вокнаў у тых сценах не было, затое яны стваралі зацішны ад людскога вока закутак. У яго і хадзілі па пільнай патрэбе нашы продкі.

Узнікае лагічнае пытанне: а ці не смярдзела там? Як ні дзіўна, але не — ці прынамсі не вельмі. Справа ў тым, што з абедзвюх стрэх падчас ліўняў сцякала вада, ствараючы цэлы ручай. Ім прадукты дэфекацыі ад хатаў змываліся, прытым часцей за ўсё ў бок таго ж агарода.



Цялеснае і духоўнае ў жыцці заўсёды побач.

ФОТА СЯРГЕЯ ГАПОНА

У нашага класіка Якуба Коласа ў сувязі з гэтым мы таксама знойдзем выказванне на далікатную тэму:

Калі заколеш япрука ты,
Ды не пабегаеш за хаты,
То гэта — гонар невялікі,
Гэта вяселле без музыкі…

З тых «датуалетных» часоў у беларускай мове застаўся таксама выраз «пайсці на двор» як сінонім выразу «пайсці ў туалет».

### «Славойкі»

Такі стан рэчаў не мяняўся стагоддзямі, і да пары да часу ўсё ўсіх задавальняла. Але ў 1920-я гады ў Польшчы, у склад якой тады ўваходзіла ладная частка беларускіх зямель,

паспрабавалі зрабіць у гэтай сферы рэвалюцыю дырэктыўна. У 1928 годзе міністр унутраных спраў генерал Феліцыян Славой-Складкоўскі, які ў цывільным жыцці быў лекарам, аддаў распараджэнне, каб на кожнай сядзібе мелася прыбіральня. За выкананнем загаду мусіла сачыць паліцыя, а на тых, хто яго праігнараваў, накладаліся вялікія штрафы. Сялянам нічога не заставалася, як падпарадкавацца. У якасці прыбіральняў сталі масава збіваць добра знаёмыя сучасным беларусам і дагэтуль распаўсюджаныя, пераважна ў сельскай мясцовасці, «шпакоўні». У гонар аўтара ідэі іх тады называлі «славойкамі».

Пры пашырэнні «славоек» не абыходзілася без кур'ёзаў. Засталася гісторыя пра тое, што міністр вырашыў асабіста праверыць, як выконваецца яго распараджэнне. Каб не напужаць сялян, ён заглядаў на некаторыя сядзібы, апрануўшыся не зусім у начальніцкае адзенне. На дзвярах адной толькі што ўзведзенай прыбіральні вісеў замок. На пытанне, нашто гаспадар замкнуў пабудову, апошні адказаў: «Сказалі, што нейкі высокі начальнік будзе правяраць гэтую будку. Дык і замкнуў, каб дзеці не пазасіралі!»

Гісторыя смешная, але на самай справе смех гэты быў са слязамі на вачах. Бо на практыцы польскія ўлады адразу ж ператварылі ў прынцыпе саму па сабе прагрэсіўную справу ў адзін з найбольш ужываных рэпрэсіўных інструментаў. Вялікія штрафы ці зняволенне на некалькі сутак у паліцэйскім пастарунку за адсутнасць, няправільную канструкцыю ці неналежнае ўтрыманне прыбіральні — а таксама за іншыя шматлікія парушэнні санітарных нормаў, бо рэгуляваннем туалетных спраў Славай-Складкоўскі не абмежаваўся, — сталі сапраўдным праклядцем для тых людзей, якія нечым не дагадзілі начальству ці проста асмельваліся ва ўмовах аўтарытарнага рэжыму мець уласную думку. Як тагачасныя даследчыкі запісалі ў 1930-я ад сялян вёскі Баяры пад Мядзелам, «адзін Бог можа абараніць, калі паліцэйскі захоча скласці пратакол, што падворак ці прыбіральня брудныя, хоць кляніся, што чыстыя, гэта ніяк не дапаможа».


ФОТА ВАСІЛЯ ПАШКЕВІЧА

**Без дашчанай прыбіральні ў 2-й палове XX стагоддзя цяжка было ўявіць беларускую вясковую сядзібу.** На здымку — сядзіба ў вёсцы Рубель на Палессі, пачатак 1980-х гадоў.

### Туалетныя рэпрэсіі

Для ілюстрацыі таго, як праблема прыбіральняў выкарыстоўвалася для расправы з ідэйнымі іншадумцамі, працытуем кавалак з напісанай у канцы 1930-х працы Севярына Віславуха «Нацыянальныя адносіны на тэрыторыі ўсходніх ваяводстваў», датычны сітуацыі ў вёсках Свянцянскага павета.

Падчас правядзення выбараў у органы мясцовага самакіравання ў 1934 годзе ўлады, зацікаўленыя ў атрыманні кішэнных мясцовых радаў, «усялякім чынам імкнуліся нікога не дапусціць да галасавання, унесеныя ж насельніцтвам спісы былі беспадстаўна прызнаныя несапраўднымі. Калі адзін жыхар вёскі Крыкяны асмеліўся пратэставаць, што спіс, складзены людзьмі, з'яўляецца правільным і пададзены ў адпаведны тэрмін, то праз тыдзень да яго з'явіўся камендант пастарунка ў Мелегянах з пытаннем, ці мае ён прыбіральню. Той адказаў, што мае, і аказалася, што прыбіральня ў парадку, адно толькі дзверы былі прыбітыя крыва. З-за гэтага быў складзены пратакол, а Свянцянскае староства пакарала яго штрафам у памеры 5 злотых, з заменай на 2 дні арышту. З-за таго,

### Каўбасы ў прыбіральні

Генерал Славай-Складкоўскі быў увогуле чалавек з добрым пачуццём гумару, таму ў сваіх успамінах пакінуў згадкі пра кур'ёзныя выпадкі, якім сам быў сведкам пры асабістым інспектаванні розных мясцовасцяў на прадмет выканання ягоных распараджэнняў аб паляпшэнні санітарнага стану. Прытым ён нават сам называў дашчаныя прыбіральні «славойкамі»:

«Адзін багаты селянін зачыніў туалет і трымаў у ім **каўбасы і шынкі**»

«Стараста падышоў да селяніна, і пасля некалькіх хвілін іх размовы я пачуў:
— Ехаў з самой Варшавы, каб пабачыць мой туалет?
Потым зноў пачуўся шэпт, і пасля гэтага гаспадар пайшоў у хату, адкуль вярнуўся з кухонным ліхтаром і павёў нас вільготнай сцежкай да славойкі. Перад яе дзвярмі аддаў ліхтар старасту, выняў са світкі малаток з долатам і пачаў адбіваць забітыя цвікамі дзверы туалета. Калі мы выказалі сваё здзіўленне, спакойна адказаў, што дзецям у школе ўбілі ў галаву глупства — і яны не жадаюць хадзіць "за гумно", а жадаюць толькі ў туалет. А туалет для камісіі павінен быць чыстым. Таму забіў цвікамі і зараз спакойны... Калі мы ад'язджалі, былі чутны ўдары малатка: гаспадар зноў забіваў дзверы».

«Адзін багаты селянін зачыніў туалет і трымаў у ім каўбасы і шынкі. Бывалі выпадкі, калі сяляне ставілі свае славойкі ў рад уздоўж вясковай вуліцы, бо казалі, што нейкі міністр іх патрабуе, калі ездзіць па дарогах. Такі гарадскі ў полі ср... не сядзе!»

Пра будаванне «славойкі» толькі для бачнасці ёсць згадкі і з іншага боку. Беларус Пётра Сыч, удзельнік бітвы пад Монтэ-Касіна ў часы Другой сусветнай вайны, пісаў у сваіх пасляваенных успамінах:
«Каля Радашкавічаў я меў чатырнаццаць гектараў не вельмі ж геглай зямлі. ... Плаціў падаткі і меў супакой. Праўда, было крыху прыкрасці, як да ўлады прыйшоў нейкі звар'яцелы Славой-Складкоўскі. Той пачаў рабіць нейкія рэформы, уводзіць нейкую гагіену (гігіену). Загадаў бяліць хаты, платы, будаваць адхожыя. Па-расейску гэта — нужнікі, па-польску — "устэмпы", мы іх назвалі "непатрэбныя патрэбнікі". Фактычна будынак патрэбны, але ў нашых умовах, дзе не было каналізацыі, — даволі клапатлівы. Але хату я папэцкаў вапнай, плот таксама. Выглядала гэта гадка, злашча пасля дажджу. Патрэбнік згарусціў і, калі не хапіла дошчак, садраў з даху пару драніцаў. Паставіў яго пад дрэвам, каб дождж не змываў вапны, да дзвярэй прыбіў кручок, зашчапіў, і на гэтым кончылася. Меў супакой».

Больш інфармацыі пра міжваенныя «славойкі» і іх ацэнку сучаснікамі глядзі ў артыкуле лідскага краязнаўца і пісьменніка Леаніда Лаўрэша на сайце *pawet.net*.



што гэты чалавек не меў чым заплаціць, ён адбыў пакаранне ў гмінным арышце ў Мелегянах. Пасля іншы жыхар гэтай вёскі выказаўся: "Што гэта за выбары, калі вы не дазваляеце нам выбіраць у гмінную раду, каго мы хочам?" Праз тыдзень і да яго з'явіўся камендант пастарунка ў Мелегянах і склаў пратакол за тое, што не меў прыбіральні. На падставе гэтага данясення староства таксама пакарала яго штрафам у памеры 5 злотых з заменай на двухдзённы арышт».

Такая сітуацыя была для таго часу не выключная, а тыповая. Не дзіва таму, што многія сяляне, хоць пад прымусам масава і заводзілі ў сябе прыбіральні-«славойкі», успрымалі іх не як патрэбную і карысную рэч, а як праяву ўладнага самадурства. Адпаведна, інстынктыўна гэтаму супрацьстаялі насуперак здароваму сэнсу. У выніку беганне за хлеў асобныя гаспадары нават у Заходняй Беларусі практыкавалі аж да канца XX стагоддзя.

Хоць у цэлым ініцыятыва Славай-Складкоўскага плён дала: на большасці заходнебеларускіх сядзібаў з таго часу трывала замацавалася новая гаспадарчая пабудова. А з улікам яе відавочнай патрэбы ды карысці, а таксама простай канструкцыі яна неўзабаве стала неадменнай часткай пейзажу ўсёй вясковай Беларусі. І не саступае сваіх пазіцый дагэтуль. ◆

# Трагедыя ў небе над Шчучынам

**Пра авіякатастрофу, якая стала трагедыяй для ягонай сям'і, расказвае Юры Тамковіч.**

Было гэта некалькі гадоў таму. Улетку мы ўсёй сям'ёй, у тым ліку з бабуляй, выбраліся ў невялічкае падарожжа па Беларусі. Галоўным пунктам гэтай вандроўкі быў горад Шчучын. Калісьці бабуля жыла там разам з дзедам-лётчыкам.

### Горад Сцыпіёнаў

Шчучын — ціхі раённы цэнтр з захаванай старой забудовай, тыповае заходнебеларускае мястэчка.

Самы цікавы будынак — неакласічны касцёл Святой Тэрэзы XIX стагоддзя. Яго пабудавалі ў 1826–1829 гадах на сродкі князя Францішка-Ксаверыя Друцкага-Любецкага — міністра фінансаў Царства Польскага, віленскага і гродзенскага губернатара, члена Дзяржаўнага савета Расійскай імперыі.

Яшчэ да пабудовы гэтага касцёла тут знаходзіліся храм і манастыр ордэна піяраў, які з'явіўся ў Шчучыне ў папярэднім стагоддзі. Пры манастыры дзейнічала піярская вучэльня, даволі вядомая ў Заходняй Беларусі. Гэта быў мясцовы асветніцкі цэнтр. Выхаванцамі вучэльні былі такія зоркі, як геолаг, даследчык Чылі Ігнат Дамейка, гісторык Мацей Догель, прафесар філасофіі, аўтар падручніка па логіцы Казімір Нарбут, паэт Юльян Корсак.

Касцёл і манастыр піяраў добра захаваліся да нашага часу, у тым ліку дзякуючы таму, што пасля Другой сусветнай вайны ў карпусах манастыра знаходзіўся штаб авіяцыйнай дывізіі.




Юрый Бокаў на радзіме.

### Услед за мужам

Местачкоўцы казалі, што без вайсковага гарадка Шчучын не стаў бы горадам. І вайскоўцы сапраўды адыгралі ў станаўленні сучаснага Шчучына вялікую ролю. Вайсковы гарнізон даваў гораду каля 500 працоўных месцаў, мясцовыя дзяўчаты часта выходзілі замуж за лётчыкаў, а многія шчучынскія хлопцы паступалі ў вайсковыя вучылішчы, спадзеючыся пазней вярнуцца на родную авіябазу.

Бабуля не была тут з 1970-х гадоў і не пазнала свой двор, хоць добра памятала, што дом стаяў ля стадыёна. Хутка мы зразумелі, у чым тут справа. Праз пару гадоў пасля бабулінага ад'езду паміж яе колішнім домам і стадыёнам збудавалі такі ж будынак — ён яе спачатку і прыцягнуў. Двор жа дома, дзе жыла бабуля, памяняўся мала: захаваўся нават камень, па якім поўзала мая маленькая мама.

Як жа Ала Прыходзька, ураджэнка Усходняй Украіны, апынулася ў Шчучыне? У маладосці яе пасля заканчэння медыцынскага тэхнікума ў Харкаве спачатку адправілі працаваць у Туркменістан, а пасля ў Расію за Урал. Туды аднойчы да яе суседа прыехаў у госці малады хлопец Юрый Бокаў, які пазней і стаў яе мужам, а маім дзедам.

Пасля вучобы ў Новачаркаскім політэхнічным інстытуце Юрыя, які сам паходзіў з горада Шахты Растоўскай вобласці, размеркавалі на працу ў Мінск, на мясцовы вагонарамонтны завод. Ён добра разбіраўся ў механіцы і працаваў майстрам, паралельна будучы кіраўніком заводскага камсамола. Жыла маладая сям'я надзвычай сціпла, у невялічкім пакоі драўлянага барака ў Грушаўцы (нядаўна яго знеслі), з пячным ацяпленнем і туалетам на двары.

### «Точный»

Хутка дзеда забралі ў войска, служыць яму выпала ў авіяцыі. Бо падчас навучання ў інстытуце ён атрымаў спецыяльнасць вайсковага штурмана на курсах ДТСААФ і нават паспеў прайсці стажыроўку на кукурузніках у вайсковым авіяпалку ў Запарожжы.

Служба ягоная пачалася на мінскім аэрадроме Ліпкі. Дзед меў досвед палётаў толькі на вінтавых самалётах, а ўжо была рэактыўная эра. Таму спачатку яго накіравалі на перападрыхтоўку ў знакаміты тады на ўвесь Савецкі Саюз вучэбны цэнтр у Ліпецку. Пасля заканчэння навучання дзеда перавялі служыць у Шчучын, і бабуля паехала за ім.

У Шчучыне знаходзіўся аэрадром з пазыўным «Точный». Да вайны ён быў грунтавым, а пасля тут разгарнулася маштабная мадэрнізацыя. У 1950-я з'явілася бетонная ўзлётна-пасадачная паласа даўжынёй 2,5 км для рэактыўных самалётаў. Пазней дадаліся бетонныя ангары, хоць іх не хапала і частка самалётаў знаходзілася пад адкрытым небам. Аэрадром прыкрываў заходнія межы Саюза і лічыўся адным з самых важных на захадзе краіны, таму яго абсталёўвалі, асабліва ў 1970–1980-я гады, самай сучаснай тэхнікай. А напрыканцы 1970-х паласу павялічылі і ўмацавалі — тады аэрадром стаў адносіцца да 1-га класа і мог прымаць любыя тыпы самалётаў.

На «Точном» старшы лейтэнант Юрый Бокаў быў штурманам звяна ў 10-м асобным разведвальным авіяпалку і лятаў у пары з вельмі кваліфікаваным лётчыкам, спецыялістам па палётах у складаных метэаўмовах — капітанам Анатолем Велігурам.

Цяпер былая авіябаза, якая памятае гул рэактыўных самалётаў, зарасла травой, там пасуцца коні. Мясцовую авіядывізію расфарміравалі яшчэ падчас перабудовы, а аэрадром з часам быў закінуты і часткова расцягнуты. Але мясцовыя ўлады ўсё ж такі знайшлі спосаб, як выкарыстаць вызваленыя будынкі: некаторыя ангары аддалі пад склады, а дыспетчарскую ператварылі ў конны двор. А на частцы ўзлётнай паласы нават аднавілі палёты, толькі ўжо не рэактыўнай, а лёгкаматорнай авіяцыі.

## Абеліск дзеду

А назаўтра, пасля ночы ў Шчучыне, мы накіраваліся ў невялічкую вёску Дашкоўцы за 20 кіламетраў ад горада, ужо ў суседнім Мастоўскім раёне. Тут стаіць савецкі абеліск з жалобным надпісам *«Небо, небо! Какими жертвами окупается крыльев взмах!»*. Ён пастаўлены ў памяць у тым ліку і пра майго дзеда.

Дзень 19 красавіка 1973 года быў самым звычайным, толькі што дажджавыя хмары паступова распаўзаліся па небе. Але лётчыкаў гэта не надта хвалявала. У 18.30 звышгукавы бамбавоз-разведчык Як-28Р з бартавым нумарам 17 капітана Велігуры пачаў свой апошні разбег. Праз некалькі хвілін сувязь з самалётам згубілася, а ў 19.15 камандзір палка Леў Гаўрылаў даведаўся, што пад вёскай Дашкоўцы ўпаў самалёт. На месца здарэння спешна выслалі верталёт, але ратаўнікі пабачылі толькі велізарную варонку ад выбуху ды раскіданыя рэшткі самалёта. Жывых не было.

Камісія па расследаванні катастрофы на чале з двойчы Героем Савецкага Саюза, тагачасным камандуючым авіяцыяй Беларускай вайсковай акругі Леанідам Бядой прыйшла да высновы, што праблемы пачаліся на 70-й секундзе пасля ўзлёту — самалёт чамусьці выйшаў з-пад кантролю пілотаў. У апошні момант капітан Велігура адвярнуў самалёт ад вёскі, а ратавацца сам ужо не паспеў. А вось штурман Бокаў усё ж паспрабаваў катапультавацца, але было ўжо позна. Неўзабаве загінулым лётчыкам паставілі помнік, а цэнтральнай вуліцы горада далі імя Анатоля Велігуры.

Так бабуля засталася ў 28 гадоў адна з двума дзецьмі на руках. Яе стан пасля трагедыі можна толькі ўявіць. Тым больш што дзед у той час павінен быў вось-вось дэмабілізавацца, яму ўжо выслалі ліст з завода і запрасілі на пасаду старшага механіка.

Але жыццё працягвалася. Праз нейкі час бабуля пераехала ў Мінск і выйшла другі раз замуж. Аднак пра трагедыю ў небе над Шчучынам ніколі не забывалася. ◆




**Аўтар у дзедавай фуражцы** ля яго магілы ў расійскім горадзе Шахты.

# Гузікі, рыдыкюлі, парасоны
## 7 самых модных аксесуараў шляхцянак XIX стагоддзя

**На якія модныя навінкі палявалі паненкі пазамінулага стагоддзя, піша малодшая навуковая супрацоўніца Гродзенскага дзяржаўнага музея гісторыі рэлігіі Наталля Станкевіч.**

У часы кіравання апошняга караля Рэчы Паспалітай Станіслава Аўгуста Панятоўскага ў краіне адбыліся сур'ёзныя змены. У першую чаргу яны тычыліся палітычнай сферы, але не абышлі бокам і культурную. Панятоўскі, аматар мастацтва ва ўсіх яго праявах, у маладосці шмат вандраваў па свеце, а заняўшы каралеўскі трон, спрыяў распаўсюджванню сярод падданых замежных культурных павеваў, асабліва французскіх. У першую чаргу гэта тычылася моды.




**Сумачка-рыдыкюль канца XIX стагоддзя, створаная на беларускіх землях.** Па версе рыдыкюля ідзе металічная акантоўка з раслінным арнаментам, а сама сумачка ўручную расшытая бісерам. Працы з вышыўкай было шмат — усё-такі рыдыкюль мае памеры 23,8 см на 19,8 см.

Большая частка шляхты падтрымлівала густы свайго караля, але некаторыя захавалі вернасць традыцыям. Таму ў модзе канца XVIII – XIX стагоддзяў ужываліся поруч два кірункі: традыцыйны і заходнееўрапейскі. Прыхільнікі першага не маглі адрачыся звыклага ім жупана, а прыхільнікі другога, наадварот, жадалі знайсці штосьці новае, нестандартнае, таму капіявалі заходнееўрапейскіх моднікаў.

З большай ахвотай на «модную рэвалюцыю» адгукаліся, канечне, жанчыны. І калі ў прадстаўніц ніжэйшых слаёў не хапала грошай на розныя навамодныя аксесуары, то заможныя і трошкі ганарлівыя шляхцянкі маглі гэта сабе дазволіць. Штосьці прывозілі з-за мяжы (Англіі, Францыі, Германіі), а штосьці выраблялася на мясцовых фабрыках.

### Рыдыкюль

Сёння дзяўчына з сумачкай нікога не здзівіць. Але ў XIX стагоддзі гэты атрыбут быў дарагім задавальненнем. Вялікіх сумак сучаснага тыпу ў тыя часы не існавала, затое былі рэтыкюлі — плеценыя сумкі, якія ў насмешку празвалі «рыдыкюлямі» (у перакладзе з французскай мовы — «смешная»). Хутчэй за ўсё, гэтую мянушку рэтыкюлям далі мужчыны, якія не разумелі, як у такую маленькую сумачку жанчына можа змясціць усе неабходныя ёй рэчы. Але, на дзіва, за маленькімі сумачкамі ў выніку замацавалася менавіта жартаўлівая форма назвы.




**Веер канца XIX – пачатку XX стагоддзя.** Азіяцкая тэматыка ў той час была вельмі папулярнай. Еўрапейцы адкрывалі для сябе Усход — Кітай, Японію, стуль пайшла плынь твораў мастацтва, рамяства, сувеніраў. Веер на фота, хутчэй за ўсё, таксама быў створаны ў Японіі і прывезены на нашыя землі падарожнікамі.

### Веер

Незаменны атрыбут, які ў XIX стагоддзі служыў для жанчыны мовай жэстаў. Калі падчас балю малады чалавек надаваў сваёй даме мала ўвагі, тая пачынала стукаць веерам па запясці, тым самым паказваючы сваю незадаволенасць. Калі ж яна дакраналася раскрытым веерам да вуснаў і сэрца, то кавалеру можна было спадзявацца на ўзаемнасць!

### Міценкі

Без гэтых пальчатак без пальцаў тагачасныя жанчыны проста не выходзілі ў свет. Дамам

асабліва падабалася, што яны не хавалі раскошных пярсцёнкаў, якія ўпрыгожвалі іх пальчыкі (шляхцянкі лічылі: чым больш пярсцёнкаў, тым прыгажэй).

Цікавы той факт, што міценкамі спачатку карысталіся людзі падчас працы. Толькі з часам пальчаткі без пальцаў сталі прадметам раскошы.

## Касметыка

Як і многія сёння, жанчыны XIX стагоддзя карысталіся касметыкай. Бялілами (альбо малаком) яны надавалі далікатную бледнасць твару. Некаторыя дамы нават елі крэйду і пілі ёд, каб дамагчыся жаданай белізны скуры. Чарнілам падводзілі бровы.

Аднак касметыка таго часу была гібельнай для здароўя жанчын. Яна часцяком утрымлівала свінец і ртуць – яды, ад якіх можна памерці.

## Гузікі

У XIX стагоддзі гузікі былі не проста функцыянальным элементам вопраткі, а яшчэ адной прыкметай моды. Для тагачаснай жанчыны якасны, каштоўны гузік на вопратцы быў ненавязлівым доказам яе высокага статусу.




**Срэбная пудраніца пачатку XX стагоддзя.** Такія выраблялі ў Польшчы.

ГРОДЗЕНСКІ ДЗЯРЖАЎНЫ МУЗЕЙ ГІСТОРЫІ РЭЛІГІІ

**Беларуская міценка канца XIX – пачатку XX стагоддзя.** Гэта машыннае карункапляценне, аздобленае гіпюрам. Пальчатка эластычная, да таго ж мае адтуліну для вялікага пальца, таму добра трымалася на шляхетнай руцэ сваёй гаспадыні.

Самымі выкшталцонымі гузікамі былі перламутравыя. Прычым іх не толькі завозілі з-за мяжы, але і рабілі мясцовыя майстры, бо ў нашых рэках таксама сустракаюцца ракавіны з перламутрам.

Такі гузік меў і сакральнае значэнне. Слова «перламутр» паходзіць ад нямецкага слова *perlmutter*, што азначае «маці жэмчугу». У багаслоўі з ракавінай, або жамчужніцай, часта параўноўваецца Дзева Марыя, якая падарыла свету неацэнную пярліну — Хрыста. Таму перламутр — гэта сімвал Багародзіцы, уцелаўлення Бога ў чалавеку і Валадарства Нябеснага.




**Перламутравы гузік са срэбнай накладкай у форме слана.** На вопратку да беларускіх шляхцянак трапіў з Заходняй Еўропы на мяжы XIX і XX стагоддзяў.

## Карункі

Значную частку свайго часу шляхцянкі праводзілі за творчай ручной працай. І адным з найбольш распаўсюджаных заняткаў гэтага роду было пляценне карункаў, якімі пасля ўпрыгожвалі сталовую ці пасцельную бялізну і вопратку.

Але выраблялa карункі і прамысловасць. Напрыклад, мануфактуры Антонія Тызенгаўза.




**Гэтыя баваўняныя карункі машыннай вязкі** трапілі ў Гродна з тэрыторыі сучаснай Латвіі, дзе былі выраблены. Вузкая палоска шырынёй крыху менш за 3 см служыла аздобай для адзення.

## Парасон

Першы парасон з'явіўся ў Францыі ў XVII стагоддзі і хутка прыйшоў да нашых продкаў таксама. Спачатку ён выкарыстоўваўся для абароны ад сонца: загар у тыя часы быў прыкметай сялянскага паходжання, працы на зямлі, таму заможныя людзі на кантрасце хацелі захаваць арыстакратычную бледнасць.

Да першага парасона ад дажджу грамадства паставілася неадназначна (парасон важыў аж 4 кг!), але з часам зразумела яго зручнасць. Аж да такой ступені, што ў наш час парасон выключна ад сонца — тая яшчэ экзотыка. ◆




**Парасоны з карункамі** былі асабліва папулярнымі. На гэтым асобніку з Францыі XIX стагоддзя яшчэ і вышыўка з бісеру. А тронак у ім — з бамбуку.

# Майсэнскі фарфор у Нясвіжскім замку

**Гадзіннікавы механізм ад французскага брэнда *Japy Freres*, фарфоравы корпус з саксонскага завода ў Майсэне… Піша малодшы навуковы супрацоўнік музея Людміла Жук.**



У калекцыйнай зале «Прыватныя калекцыі» Нясвіжскага замка можна ўбачыць гадзіннік у маляўнічым фарфоравым корпусе з выявай некаранаванага герба Рэчы Паспалітай. У яго стварэнні ў пачатку XIX стагоддзя бралі ўдзел уладальнікі славутых тагачасных брэндаў.

**«Браты Жапі»**

Механізм гадзінніка выраблены ў Францыі ў першай трэці XIX стагоддзя на вядомай фабрыцы *Japy Freres*.

Заснавальнікам кампаніі з'яўляецца Фрэдэрык Жапі — таленавіты «зэгармайстар» і вынаходнік, які даў пачатак цэлай дынастыі майстроў гадзіннікавай справы. Фрэдэрык нарадзіўся ў 1749 годзе ў Францыі, але вучыўся прафесіі ў сусветнай сталіцы гадзіннікаў — Швейцарыі. У тым ліку працаваў і ў майстэрні вынаходніка машын для вырабу гадзіннікаў Жана-Жака Жанэры-Гры.



У 1776 годзе Жапі выкупіў машыны і вынаходкі свайго былога працадаўцы, а ў сакавіку 1799-га атрымаў пяцігадовы патэнт на станкі, распрацаваныя ім самім. Яны значна спрашчалі і паскаралі працу майстроў, бо дазвалялі вырабляць дэталі і загатоўкі механізмаў гадзіннікаў (эбашы) рабочым з сярэднім узроўнем кваліфікацыі. У хуткім часе Жапі стаў найбуйнейшым пастаўшчыком высакаякасных эбашаў для ўсяго французскага рынку.

У 1806 годзе ўзнікла кампанія *Japy Freres* («Браты Жапі»), уладальнікамі якой сталі сыны Фрэдэрыка Фрыц, Луі і Жан-П'ер. З 1810-га па 1888 год кампанія вырабіла больш за шэсць мільёнаў механізмаў гадзіннікаў і неаднаразова ўзнагароджвалася медалямі і дыпломамі на міжнародных выставах у Парыжы, Лондане, Нью-Ёрку і Вене.

**Вытанчанае абрамленне**

Фарфоравы корпус гадзінніка створаны на знакамітай Майсэнскай мануфактуры пад Дрэздэнам, закладзенай у пачатку XVIII стагоддзя (пра яе пісала ў № 5/2020 «Нашай гісторыі» Карына Вульф-Востэн у артыкуле пра Дрэздэн).

Спачатку ў Майсэне стваралі толькі посуд і дэкаратыўныя вазы, але ў 1730-я на завод прыйшоў скульптар-мініяцюрыст Ёган Іаахім Кендлер — і ў гісторыі прадпрыемства пачаўся новы перыяд. Таленавіты майстар стварыў цэлыя серыі разнастайных кампазіцый, якія яшчэ больш павялічылі папулярнасць майсэнскага фарфору. Асаблівай раскошай вылучаліся менавіта карпусы гадзіннікаў, выкананыя ў стылі ракако.

Мадэль корпуса гадзінніка пад назвай «Польшча» была распрацавана Кендлерам у 1743 годзе спецыяльна для саксонскага курфюрста Фрыдрыха Аўгуста II, які пад іменем Аўгуста III быў тады таксама каралём польскім

**Марка з гербам Саксоніі**

На дне корпуса стаіць сіняя марка з выявай перакрыжаваных мячоў. Гэта самы вядомы адметны знак майсэнскага прадпрыемства, запазычаны з выявы герба Саксоніі. Марка «Перакрыжаваныя мячы» выкарыстоўваецца з 1722 года аж да сёння і з'яўляецца самай старой ды самай вядомай маркай у свеце.





і вялікім князем літоўскім. Дэкаратыўныя элементы ляпніны і роспісы выкананыя тут уручную. Круглы цыферблат апраўлены завіткамі ў стылі ракайль і пышнымі гірляндамі з кветак і лісця, дзе садовыя ружы і гваздзікі спалучаюцца са званочкамі і незабудкамі. Ключавым элементам кампазіцыі з'яўляецца белы арол пад каронай з шырока расхінутымі крыламі. Арол тут — не толькі цар птушак ды валадар паветра, але і дзяржаўны сімвал Польшчы.

Злева ад цыферблата — фігуры двух анёлаў. Справа — багіня кветак Флора. У цэнтры асновы корпуса знаходзіцца выява герба Рэчы Паспалітай, але без кароны. Па баках асновы яшчэ дзве скульптуры: рыцар у залатых даспехах, які нясе ў руцэ келіх, і босая жанчына з пальмай — увасабленне міру. Корпус вянчае ажурны купал з фігурай басаногай Фамы ў ружовай туніцы — грэка-рымскай багіні паданняў. Фама ўзвышаецца над часам, піша пяром у кнізе і адначасова трубіць у ражок. ◆

**Станкевич Ян. Белорусско-русский словарь** / Под ред. Г. Ребенковой, В. Булгакова; предисл. Г. Ребенковой, В. Булгакова. — Смоленск: Инбелкульт, 2020. — 1360 с.

«Белорусско-русский словарь» — заключная і самая маштабная праца вядомага беларускага нацыянальнага дзеяча, мовазнаўца-пурыста Яна Станкевіча (1891–1976). Аўтар працаваў над ім большую частку свайго жыцця. Як вынікае з матэрыялаў слоўніка, праца над ім вялася да 1974–1975 гадоў. У 1989 годзе, праз 13 гадоў пасля смерці аўтара, у ЗША намаганнямі яго сыноў Юрыя (Юркі) і Вячаслава (Вячкі) выйшла першае выданне слоўніка. Але тое выданне было мала даступна ў Беларусі. Пры цяперашнім перавыданні была праароблена значная праца па ўдакладненні і сістэматызацыі першаснага аўтарскага матэрыялу.

Ян Станкевіч пры падрыхтоўцы слоўніка кіраваўся наступнымі прынцыпамі:

- слоўнік павінен быць як мага больш поўны, але ў ім мусіць быць прадстаўленая толькі самабытная лексіка, якая падкрэслівае дыстанцыю беларускай ад іншых славянскіх моў, асабліва ад рускай. З гэтай мэтай у слоўніку адлюстраваныя не толькі запісы жывой беларускай гаворкі, але і матэрыялы з помнікаў старабеларускай мовы, у тым ліку з татарскіх аль-кітабаў;
- слоўнік павінен прадстаўляць лексіку з усёй беларускай этнаграфічнай тэрыторыі — так, як яе разумее аўтар. А паколькі разумеў ён яе максімальна шырока, то ў слоўніку ёсць запісы гаворак Пскоўшчыны, Смаленшчыны, Браншчыны, Тульшчыны, Арлоўшчыны і г. д.;
- у слоўніку ёсць месца толькі чыстай беларускай мове і, адпаведна, няма месца таму, што аўтар успрымаў як варварызмы і незасвоеныя запазычанні.

Ян Станкевіч лічыў, што некалі даўно, падчас «залатога веку» беларускай культуры, існаваў нейкі стандарт чыстай беларускай мовы, адлюстраваны ў яе гістарычных помніках. Слоўнік у пэўнай ступені быў ім і задуманы як сродак рэканструкцыі гэтага стандарту. Таму ў ім мала сустракаецца інтэрнацыянальнай лексікі, гэтак сама як і найменняў тэхналагічных і гуманітарных рэалій сярэдзіны XX стагоддзя — часу яго стварэння. Куды больш у ім прадстаўленыя рэаліі сялянскага побыту і працы XIX – пачатку XX стагоддзяў.

Таму з сённяшняга пункту гледжання гэта хутчэй не «беларуска-рускі слоўнік» як такі, а дапаможнік па вывучэнні лексікі беларускай мовы, дадатковай да агульнаўжывальнай. Некаторыя лексічныя пласты ў ім раскрытыя дастаткова поўна, а некаторыя, якія не ўспрымаліся аўтарам у якасці «чыстых», — не.




Набыць слоўнік можна праз сайт **arche.by** як у папяровай, так і электроннай версіях. Таксама ён даступны ў мінскай кнігарні **«Акадэмкніга»** (пр. Незалежнасці, д. 72), інтэрнэт-кнігарнях **kniganosha.by** і **knihi.by**.

# Кес моес і дутэнпуль

**Гісторыя адбіваецца не толькі ў археалагічных пластах — у мове таксама. Піша Іна Хоміч.**

Зянькі, Камянецкі раён. У 50-я тут жыло каля ста чалавек, цяпер жыве каля дзесяці. Што лічба атрымалася двухзначнай, дзякуй шматдзетнай сям’і, якая год таму да нас перабралася. Акрамя іх, з пастаянных насельнікаў — тры бабулі ды пара маладзейшых пенсіянераў. Летам людзей большае, з горада на агароды і ў адпачынкі з’язджаюцца тыя зянькоўцы, што яшчэ вымушаныя працаваць. У Зяньках яшчэ гавораць па-свойму, мясцовую гаворку не трэба рэканструяваць — толькі сам гавары ды слухай, што табе кажуць у адказ.

Цяпер уявіце маю суседку Ганну Зянчук, або бабу Гандзю, як я яе называю. Ёй 88 год, усё жыццё пражыла ў Зяньках, і для мяне яна ўваходзіць у топ найлепшых суразмоўцаў. З пачуццем гумару, без звычкі да маралізатарства, з уменнем слухаць і не навязваць свой пункт гледжання. Псіхолагі на такое вучацца, а ў былога палявода бабы Гандзі — закладзена прыродай. Таму я заходжу да яе кожны раз, калі прыязджаю, або штодня, калі там жыву. Адпачываю, вучуся, назіраю, запісваю.

### Кес моес

Баба Гандзя вельмі рэдка лаецца. А калі ўжо здараецца, то гэта хутчэй смешная, чым крыўдная лаянка. «Хай тыбэ хулера возьмэ!» і ўсе варыяцыі праклёнаў з хваробамі ў галоўнай ролі.

І вось сяджу я неяк у бабы Гандзі са сваім блакнотам, раз-пораз цікавыя мне словы запісваю, як у хату заходзіць яшчэ адзін наш сусед — Яўген Фраловіч, па-вулічнаму проста Жэнік. Ён просіць пазычыць «цюкру» да наступнага прыезду аўталаўкі. Тлумачыць, што жонка варыць прасяную кашу, а «цюкру» ў хаце не знайшлося.

А Баба Гандзя яму: «А кес моес!» Устае і выходзіць у іншы пакой па цукар. «Шо вуна сказала?» — перапытваю Жэніка.

А Жэнік паўтарае, быццам гэта самая вялікая ў свеце банальнасць: «Кес моес. Тэ шо, нэгды ны чула?»

Жэнік дадае, што «кес моес» часценька ўварочваў яго дзед Ліксандр, «марыканыць», як называлі абсалютна ўсіх гастарбайтараў, што пабывалі на заробках у Амерыцы. «Кес моес крэйзе хаус» — кідаў Ліксандр наўздагон сямейнікам, якія рабілі не па-ягонаму.

Пасля такой падказкі было ўжо не цяжка дакруціць, што ж такое «кес моес». Гэта не што іншае, як перароблена на зянькоўскі манер амерыканская лаянка *«Kiss my ass»* («Пацалуй мяне ў сраку»), якая прыйшлася гэтак даспадобы зянькоўцам, што яны яе прыхапілі з сабой са Штатаў ці Канады. Спрасціць да сённяшняга варыянта маглі як самі «марыканцы»-гастарбайтары, так і ўжо тыя вяскоўцы, што пачулі лаянку з іх вуснаў.

### Дутэнпуль

А гэтае запазычанне прыйшло да зянькоўцаў з... румынскай мовы.

Ужо пасля вайны, калі баба Гандзя была маладой дзеўкай, у іх калгас прыехалі чарнявыя хлопцы. Як іх сюды занесла, мая суседка не памятае, але ці мала тады вандравалі па Саюзе ўсялякія працоўныя моладзевыя брыгады?

Малдаўскія хлопцы ўсё паўтаралі выраз, які інтрыгаваў зянькоўскіх дзевак. Наслухаўшыся, тыя таксама



ФОТА ІЛЬІ ШАМІЛАВА

**Мы з бабай Гандзяй** ля склепа, які ў 1940-х будаваў яе бацька.



**Пойма ракі Лясной ля Зяньков.**
Разліў вады ў сакавіку 2016 года.

сталі паўтараць «дутэнпу́ль». Малдаване смяяліся, пакуль адзін нарэшце не сказаў: «Няфайна дзяўчатам так казаць!» «А вам файна?» — бойка парыравалі дзяўчаты. «Нам, так!» — адказвалі тыя.

Моладзевыя жартачкі прайшлі, як і сам калгас з Савецкім Саюзам, а слова «дутэнпуль» баба Гандзя памятае дагэтуль, хоць актыўна не ўжывае. Як і ў выпадку з «кес моес», яна дакладна не ведае, што яно значыць.

Крыху не зразумеў маёй цікаўнасці і гугл-транслэйт. Затое знаёмая, якая доўга жыла ў Малдове, адразу пабачыла сугучча з вельмі грубым і абразлівым *dute în pula* (на малдаўскай кірыліцы: дуте ын пулэ). Па значэнні гэта падобна да расійскага пасылання на тры літары, з той розніцай, што тут пасылаюць у жаночы орган замест мужчынскага.

Лаянка — гэта тое, чаго мы слушна саромеемся. Але ў яе не адабраць адной уласцівасці: маючы вялікую эмацыйную выразнасць, яна лёгка запазычваецца і абжываецца на новым месцы. А пасля залягае ў глыбіню новай мовы, як чарапкі археалагічнай культуры. ◆

**«Беларускі гістарычны часопіс» — 250-ы нумар!**




У маі выйшаў у свет юбілейны, 250-ы, нумар «Беларускага гістарычнага часопіса» — галоўнага часопіса нашых гісторыкаў-навукоўцаў і настаўнікаў гісторыі. Ведучы сваю гісторыю з 1993 года, за гэты час ён прайшоў шлях ад штоквартальніка да штомесячніка.

Супольнасць беларускіх гісторыкаў не надта шырокая, таму многія аўтары «Беларускага гістарычнага часопіса» адначасова з'яўляюцца аўтарамі і «Нашай гісторыі». А навуковыя артыкулы, апублікаваныя на старонках БГЧ, могуць набываць сваё другое жыццё ў нас у папулярнай форме. Таму віншуем з дасягненнем калегаў, з якімі рознымі спосабамі абрабляем адну дзялянку. І жадаем ім адзначыць яшчэ не адзін слаўны юбілей.

«Беларускі гістарычны часопіс» у асноўным распаўсюджваецца праз падпіску, таксама яго можна набыць у некаторых шапіках «Белдрука».

Падпісны індэкс 00679.

**Брэст і наваколле ад старажытнасці да сучаснасці. Атлас** / Л. Р. Казлоў, С. М. Цемушаў, І. І. Сацукевіч. — Мінск: Белкартаграфія, 2020. — 52 с.




Выданне, якое выйшла ў серыі «Беларусь: гісторыя ў картах», змяшчае як старыя картаграфічныя матэрыялы па гісторыі рэгіёна, так і сучасныя карты ды планы. Надрукаваныя ў атласе шматлікія карты дазваляюць прасачыць, як тэрыторыя сучаснай Брэстчыны гістарычна фармавалася, у склад якіх дзяржаў у розны час уваходзіла.  Сярод іншага тут змешчаныя фрагменты адной з пробных картаў першай паловы XIX стагоддзя, створанай у 1840 годзе пад кіраўніцтвам генерала Фёдара Шуберта. Асаблівая ўвага надаецца «трохвярстоўцы» (1:126 000), якая ў павялічаным маштабе прадстаўляе тэрыторыю цяперашняга Брэсцкага раёна ў другой палове XIX стагоддзя.

Дадаткова ў атласе даецца інфармацыя пра аб'екты гісторыка-культурнай спадчыны рэгіёна, апісваюцца цікавыя месцы, прыводзіцца інфармацыя пра назвы і перайменаванні вуліц і плошчаў Брэста.

Набыць слоўнік можна ў кнігарні **«Акадэмкніга»** (пр. Незалежнасці, д. 72), а таксама ў кнігарнях сеткі **«Белкніга»**.

# СУПЕР-БЕЛАРУСЬ

## ПАЎСТАННЕ ЗАБЫТЫХ

### ЧАСТКА 3

СЮЖЭТ: АНДРЭЙ СКУРКО
МАСТАК: ФІЛІП КАКОША

Кароткі змест папярэдніх частак:

Пасля моцнага энергетычнага збою жыхары СуперПолацка раптам пачынаюць губляць жыццёвыя сілы. Максім, з якім яны звязваюцца, раптам заўважае, што амаль увесь горад акутаны змрочнымі «каранямі», якія нябачныя нікому, акрамя Максіма. Яго тэлепартуюць у СуперБеларусь, дзе Максім заўважае, што «карані» растуць з мясцін, якія носяць назву «Барысфеніда», а жывуць там Забытыя – народы і плямёны настолькі старажытныя, што нават не ўсе памяталі свае назвы. Прыйшоўшы ў горад Забытых, Максім і іншыя сустракаюць мясцовых правадыроў. Правадыры абвяшчаюць, што цяпер яны – багі, а ўсе павінны ім пакланяцца. З гэтае нагоды Забытыя паклікалі з паралельнага вымярэння варожы вірус, які і парадзіў «карані» і з дапамогай якога Забытыя планавалі падпарадкаваць волю жыхароў СуперБеларусі. Кастусь Каліноўскі і Алаіза Пашкевіч спрабуюць змагацца, але правадыры спыняюць іх сякерaю Перуна, якую ім шмат стагоддзяў таму зачараваў Усяслаў Чарадзей і якая зараз была моцна заражаная энергіяй віруса. Раптам Максім нешта заўважае...



















НУ, ТО ПАКАШТУЙ НАШАГА ГНЕВУ!!! ВОСЬ ТАБЕ!!!


РРРяя


ГЭЙ, СЮДЫ!!! НА ДАПАМОГУ!!!
ЯНА ЖЫВАЯ!!!


ТУУУУУУ УУУУЎ !!!


ЧУЕШ?! ГЭТА БАЯВЫ РОГ НЕЎРАЎ!
ХУТЧЭЙ ТУДЫ!!!


РРРРРЙИИааааа!!!
АЛАІЗА, ДАПАМОЖАМ ІМ!!!




МЫ ЯЕ ЗАБІЛІ?
НЕ ДУМАЮ...
ЯЕ І ПЕРУНОВА СЯКЕРА З ПЕРШАГА РАЗУ НЕ ЎЗЯЛА!


НУ?...
ЯК ВАМ ВАШ НОВЫ СЯБРУЧОК-ХАЎРУСНІЧАК?!
...


ТАК... ЁН ЗНІШЧАЕ ЎСЁ, ГЭТАЯ ЗДАНЬ НЕ БАЧЫЛА РОЗНІЦЫ ПАМІЖ НАМІ І ВАМІ...
У ВІРУСА ЕСЦЬ ТОЛЬКІ ЎЛАСНЫЯ МЭТЫ, СЯБРОЎ У ЯГО - НЯМА! І НЕ БУДЗЕ!
МНЕ ЗДАЕЦЦА, Я ЎСЁ ЗРАЗУМЕЎ!


ЯК МНЕ ПАДАЕЦЦА, ВІРУС АДВЁЎ БАРЫСФЕНІДЗЕ ФУНКЦЫЮ ГАДАВАЛЬНІКА ДЛЯ ГЭТЫХ ЗДАНЯЎ... ТУТ ЯНЫ РАСТУЦЬ ...


А ЭНЕРГІЮ ДЛЯ ІХ ВІРУС ЧЭРПАЕ З СУПЕР-БЕЛАРУСІ! ТАМУ МЫ СЛАБЕЕМ!


ДЫК ЯК ЯГО ПЕРАМАГЧЫ? ЧЫМ?


ВЫ ЯГО ПАКЛІКАЛІ - ВЫ І ЗМАГАЙЦЕСЯ! НЯХАЙ ШАМАНЫ ВАШЫЯ ПАВАРОЖАЦЬ, ЦІ ХТО ТАМ!..
ДОСЫЦЬ! ЗАРАЗ НЕ ЧАС ДЛЯ СВАРАК!
...


ПАНОВЕ, ПАНЕНКІ... НЕ ХАЧУ ВАС ПУЖАЦЬ, АЛЕ ПУХІРОЎ УСЁ БОЛЬШ! ХУТКА ТУТ З'ЯВЯЦЦА ПРОЦЬМЫ ГЭТЫХ ПАЧВАРАЎ!


БУДЗЕМ ЗВЯЗВАЦЦА З НАШЫМІ!
ФРАНЦЫСК, ЦІ ЧУЕШ МЯНЕ? ТУТ У НАС ПАЧВАРЫ - ПАРАДЖЭННІ МІЖВЫМЯРЭНЧАГА ВІРУСА, ШТО ВІДАВОЧНА БАЯЦЦА АРТЭФАКТАЎ! У НАС ТУТ ТОЛЬКІ СЯКЕРА ПЕРУНА!
СЯКЕРА ПЕРУНА? ЯЕ АДНОЙ НЕДАСТАТКОВА БУДЗЕ, МІЖВЫМЯРЭНЧЫ ВІРУС ПАРАДЖАЕ МОЦНЫЯ ФОРМЫ ЖЫЦЦЯ...
МЕЧ ВІТАЎТА МОГ БЫ ДАПАМАГЧЫ, АЛЕ ЁН НЕ ЗАРАДЖАНЫ...


МЕЧ ВІТАЎТА? ДЫК У ЧЫМ ПРАБЛЕМА? ЕДЗЕМ ПА ЯГО!
ЁН НЕ МАЕ МОЦЫ! ПРАБЛЕМА Ў ТЫМ, ШТО МЫ АБЯССІЛІЛІ ЎСЕ НАШЫЯ БАЯВЫЯ АРТЭФАКТЫ, КАБ ЯНЫ НЕ ТРАПІЛІ Ў НЯПРАВІЛЬНЫЯ РУКІ...
НЕ ЗБІРАЛІСЯ МЫ БОЛЬШ ВАЯВАЦЬ...
КАБ ЗАРАДЗІЦЬ МЕЧ, ПАТРЭБНА МАГУТНАЯ КРЫНІЦА ЭНЕРГІІ, А ДЗЕ ЯЕ ЎЗЯЦЬ?


СЛУХАЙЦЕ, ЧАСТКУ СІЛЫ СУПЕРБЕЛАРУСЬ АДДАЕ НАШАМУ СВЕТУ. А... КАЛІ ЗРАБІЦЬ РЭВЕРС? НЕНАДОЎГА.
РЭВЕРС? ГЭТА МАГЧЫМА! НЕБЯСПЕЧНА... АЛЕ ЎСЁ Ж МАГЧЫМА!


НУ, ТО ІДЗІЦЕ, А МЫ ТУТ БУДЗЕМ ГЛУШЫЦЬ ГЭТЫХ ПАЧВАРАЎ! ПАКУЛЬ ХОПІЦЬ МОЦЫ!
ДАВАЙЦЕ, УНУЧКІ ДАРАГІЯ, ЗНАЙДЗІЦЕ СПОСАБ ЗНІШЧЫЦЬ ІХ КАРАНІ!


А ШТО НАМ ЯШЧЭ ЗАСТАЕЦЦА? ЛАДНА, МІР!
ТРЫМАЙЦЕСЯ!

**У наш час з’явілася ўнікальная платформа — форумы на сайтах і сацыяльныя сеткі. Тут аматары абмяркоўваюць навуковыя адкрыцці са спецыялістамі, а навукоўцы могуць разняволіцца, выказаць смелыя здагадкі і падзяліцца знаходкамі. У гэтай рубрыцы — пераказ некаторых цікавых запісаў і дыскусій на гістарычныя тэмы ў інтэрнэце.**

## Памяці Аляксандра Сільвашкі

З чэрвеня на могілках «Міханавічы» пад Мінскам прайшла цырымонія ўшанавання памяці героя сустрэчы на Эльбе Аляксандра Сільвашкі з нагоды 75-й гадавіны сустрэчы савецкіх і амерыканскіх войскаў на Эльбе. Аляксандр Сільвашка — савецкі салдат са знакамітага фотаздымка, які быў апублікаваны ў многіх газетах і стаў сімвалам славутай сустрэчы саюзнікаў па антыгітлераўскай кааліцыі на Эльбе. На фота ён цісне руку амерыканскаму лейтэнанту Уільяму Робертсану. Менавіта гэты здымак быў змешчаны на вокладцы № 4/2020 «Нашай гісторыі», прымеркаванага да 75-годдзя заканчэння Другой сусветнай вайны ў Еўропе.

Аляксандр Сільвашка нарадзіўся і вырас у Чаркаскай вобласці Украіны, але пасля вайны пасяліўся ў Беларусі і жыў тут да самай смерці. Працаваў настаўнікам у вясковых школах Гродзенскай і Мінскай абласцей, з 1971 года — у вёсцы Морач Клецкага раёна. Там ён у 2010 годзе і памёр, маючы 87 гадоў.



З Уільямам Робертсанам Сільвашка захоўваў сяброўскія адносіны ўсё жыццё, перапісваўся з ім і рэгулярна сустракаўся ў розных краінах. Знакамітае фота давала магчымасць гэта рабіць нават у часы халоднай вайны. Робертсан працаваў нейрахірургам у Лос-Анджэлесе, памёр у 1999 годзе.

На фота (пачынаючы ад другога злева): намеснік міністра замежных спраў Беларусі Алег Краўчанка, часовая павераная ў справах ЗША ў Беларусі Джэніфер Мур, дачка Аляксандра Сільвашкі Таццяна Герашчанка і амбасадар Украіны ў Беларусі Ігар Кізім.

### Карась абернуар і катлет дэ-валяй

Нацыянальны гістарычны архіў выклаў здымкі меню аднаго з мінскіх прэстыжных рэстаранаў — *Grand Café Select* — пачатку мінулага стагоддзя. «Тут маглі прапанаваць з’есці “карася абернуар”, “маянэз з асятрыны”, “катлет дэ-валяй”, “яйкі а-ля берсі”. Была шырока прадстаўлена карта напояў: партвейн, вермут, пунш, французскі кампот, драздоўскае піва, кактэйль *tutti frutti*. Ну і які ж мінчук не спакусіўся б маладой бульбай, маласольным агурком і кіслым малаком! У 1919 годзе рэстаран быў зачынены “ў сувязі з пераабсталяваннем у савецкую сталовую № 5”». Дакумент у фондах архіва адшукаў **Дзмітрый Кішкілевіч**.


Grand Café Select

MENU à la carte

НАЦЫЯНАЛЬНЫ АРХІЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

## Ці варта ганарыцца калоніямі?

Грамадская кампанія «Годна» прэзентавала першы з запланаванай серыі відэаролік пад назвай «Як беларусы сталі народам». У ім прыводзяцца яскравыя факты, якія мусяць выклікаць гонар за свой народ і сваё мінулае ў сучаснага беларуса.

Аднак адзін аргумент выклікаў крытыку. Гэта тэза, быццам Вялікае Княства Літоўскае мела калоніі ў Афрыцы і на Карыбах, што нібыта гаворыць пра веліч дзяржавы-папярэдніцы Беларусі.

Гісторык **Кірыл Карлюк** піша, што курляндскія калоніі Гамбія і Табага наўрад ці можна лічыць калоніямі Вялікага Княства. Гэта па-першае. А па-другое, для сённяшняга дня наяўнасць калоній — увогуле так сабе нагода для гонару. «І ў чым уласна каштоўнасць гэтага эпізоду, нават калі закрыць вочы на абсурднасць выбудаванай канструкцыі “калоній ВКЛ”? Для сучаснай Еўропы, свету? Гэта хіба нешта, чым ганарацца? — разважае Кірыл. — Увесь каланіяльны праект герцага Якаба Кетлера арыентаваўся на ўдзел у звышпрыбытковым трохкутным атлантычным гандлі. Асноўная крыніца і рухавік гэтых прыбыткаў — гандаль рабамі і нявольніцкая праца на плантацыях. Усё проста: карабель з метраполіі плыве ў свае фарты ў Заходняй Афрыцы, дзе забірае

Паглядзець **ролік «Як беларусы сталі народам»** можна тут.



"груз" набытых у мясцовых правіцеляў рабоў; перапраўляе іх у жахлівых умовах у Карыбскі рэгіён на свае (ці чужыя) выспы, дзе тых прадаюць мясцовым плантатарам; вязе адтуль у Еўропу дарагія каланіяльныя тавары з плантацый (цукар, бавоўна, тытунь, пазней, у XVIII стагоддзі, яшчэ кава і іншае). Прафіт. За выняткам маральнага кошту соцень тысяч жыццяў (працаўнікі на плантацыях у сярэднім жылі 7–9 гадоў). Тое ж планавалася і для курляндскага гандлёвага флоту з будаўніцтвам форта ў Гамбіі і заснаваннем калоніі на Табага, з завозам туды тысячы ці больш чарнаскурых нявольнікаў.

Праўда, рэсурсаў герцагству яўна для таго не хапала. Марам прыйшоў канец падчас Патопу [вайны Рэчы Паспалітай са Швецыяй у 1655–1660 гадах]. Не буду падрабязна спыняцца, чаму так сталася, але з запланаванай колькасці рабоў на Табага на курляндскіх караблях патрапіла толькі 100».

Дыскусіі як такой пад пастом Карлюка нават не з'явілася, бо прафесійная супольнасць аднадушна крытычна ацаніла «каланіяльны» ўрывак з ролika. Галоўны рэдактар «Беларускага гістарычнага часопіса» **Максім Гальпяровіч** адно што дадаткова навукова падмацаваў іранічныя кпіны інтэлектуалаў: нагадаў пра адмысловы артыкул знаўцы гісторыі Курляндскага герцагства Алега Еўстрацьева ў №12/2018 «БГЧ» з красамоўнай назвай «Ці былі ў Рэчы Паспалітай заморскія калоніі?».

Максім Гальпяровіч цытуе галоўную выснову аўтара артыкула: «Сляды каланіяльных кантактаў паміж Курляндскім герцагствам і Рэччу Паспалітай сустракаюцца толькі ў сферы няўдалага эканамічнага супрацоўніцтва і дыпламатычнага пасрэдніцтва, якое пры гэтым праводзілася з боку апошняй выключна прыватнымі асобамі. Вышэйзгаданыя эпізоды адносна ўдзелу ўраджэнцаў беларускіх зямель ВКЛ у курляндскіх заморскіх справах маюць гіпатэтычны характар. Так ці інакш, па лініі Курляндскага герцагства нельга рабіць выснову аб тым, што ВКЛ ці Рэч Паспалітая мелі калоніі ў Паўднёвай Амерыцы і Афрыцы».

Шкада, што аўтары роліка не пракансультаваліся як след са спецыялістамі. Бо сама па сабе ідэя папулярна і коратка распавесці пра слынныя старонкі роднай гісторыі заўсёды актуальная і патрэбная.

## Беларускія сякеры ў Брытаніі

**Аляксей Ластоўскі** піша пра сваю чарговую музейную знаходку — каменныя сякеры беларускага паходжання ў Вялікабрытаніі. «У калекцыі Брытанскага музея захоўваюцца дзве каменныя сякеры, пазначаныя паходжаннем з Барысава.

У Брытанскі музей яны трапілі ў 1916 годзе з калекцыі сэра Джона Любака (*John Lubbock*), лорда Эйберы, брытанскага банкіра і археолага (вось раней людзі ўмелі сумяшчаць такія рэчы!). У гісторыю археалогіі ён увайшоў як стваральнік тэрмінаў «палеаліт» і «неаліт».


BRITISHMUSEUM.ORG

Сякеры музею падараваў ужо яго сын, праз тры гады пасля смерці бацькі.

Канечне, дужа цікава, як гэтыя сякеры маглі трапіць да брытанскага археолага».

Ластоўскі выказвае здагадку, што сякеры прыйшлі да Любака непасрэдна ад гісторыка Яўстаха Тышкевіча (1814–1873), які падтрымліваў шырокія міжнародныя кантакты. Але ўпэўнена пра гэта можна будзе казаць, толькі вывучыўшы арыгінальны каталог калекцыі Джона Любака. Магчыма, некалі хто з даследчыкаў гэта і зробіць. ◆


ФОТА АЛЯКСЕЯ ЛАСТОЎСКАГА

**Фляжка Гітлера ў Гомелі**
Яшчэ адна музейная знаходка Аляксея Ластоўскага прапісаная ў Беларусі — у Гомельскім абласным музеі вайсковай славы. Гэта фляжка з бункера Гітлера. На ёй надпіс: «Фюрару Адольфу Гітлеру ад Балгарскай царквы». У Гомель адметную, упрыгожаную ўзорамі і эмалямі рэч прывёз салдат Чырвонай арміі, які захапіў яе ў бункеры як памятны трафей.